25 снежня 2020 | № 49 (708)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час

**Шаноўныя чытачы! Наступны нумар «НЧ» выйдзе 5 студзеня 2021 года**

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144







# З Калядамі і Новым годам!

Шаноўныя чытачы! Вы трымаеце ў руках апошні нумар газеты ў 2020 годзе. Цяжкі і надзвычай цікавы для нашай краіны год падыходзіць да канца.

За гэты год мы шмат перажылі, шмат зразумелі. У некаторых з нас расплюшчыліся вочы, каб убачыць, што так жыць больш нельга. Магчыма, хтосьці з вас скажа, што гэта быў найгоршы год. А хтосьці — што найлепшы. Усё залежыць да таго, якія ўрокі даў вам 2020-ы, пра што прымусіў задумацца, кім стаць, які выбар зрабіць. Гэты год кожнаму з нас паказаў, кім мы ёсць. І якім шляхам ісці далей.

Жыццё працягваецца, і таму давайце дзякаваць за кожны новы дзень. Бо з кожным днём мы бліжэй да нашай мары — вольнай, незалежнай дэмакратычнай Беларусі. Краіны, дзе кожны чалавек будзе каштоўнасцю, дзе годнасць, сумленне, салідарнасць, шчырасць будуць паважацца і цаніцца.

Таму моцнага здароўя нам усім! Каб мы абавязкова дажылі да гэтых часоў. Усім палітвязням — хутчэй аказацца на волі, усім вымушаным уцекачам — хутчэй вярнуцца дадому. Шчасця і душэўнага спакою ўсім-усім!

**Аксана Колб, галоўны рэдактар НЧ**

## Усё толькі пачынаецца!

Ёсць такое выслоўе-праклён, які звычай прыпісваюць кітайцам: «Каб ты жыў у цікавыя часы!» Насамрэч, гэты «праклён» выдумаў брытанскі дыпламат Х'ю Нэтчбул-Х'юджэс, які быў паслом Вялікабрытаніі ў Кітаі з 1936 па 1937 гады.

Тым не менш, мы сапраўды жывём у цікавы час, у час пераменаў. Наступны, 2021-ы, нягледзячы на тое, што па кітайскім календары гэта год Быка, які перамены не вельмі любіць, для нас будзе такім жа годам перамен, як і 2020-ты.

**Працяг на стар. 2 »**

# З Калядамі і Новым годам!

« Заканчэнне. Пачатак на стар. 1

Што б хацелася нам усім пажадаць? Найперш, трываласці і ўпартасці. Каб мы паспяхова скончылі тое, што пачалі ў 2020-м годзе. Яшчэ перад выбарамі мы казалі: перамены не будуць лёгкімі, і нам трэба прыкласці вялікія намаганні, каб яны здзейсніліся. Гэтак жа будзе і ў 2021-м.

Нам патрэбныя вытрымка і аптымізм — каб не апускаліся рукі, каб мы верылі ў тое, што мы робім. Нам патрэбная моц — бо толькі сыходам гэтай, наскрозь гвалтоўнай улады, справа не скончыцца. Нам трэба будзе ўзнаўляць краіну. Нам патрэбная ўпэўненасць і вера ў сябе: бо ніхто апроч нас — ні Захад, ні Усход — не зробіць нашу краіну такой, якой хочам зрабіць яе мы.

І нам патрэбная добрая памяць, каб словы «не забудзем, не даруем» не аказаліся толькі словамі. І нам вельмі спатрэбіцца тая самая абрыдлая беларуская «талерантнасць», бо з нашай краіны нікуды не падзенуцца ні шчырыя «ябацькі», ні былыя чыноўнікі, ні былыя амапаўцы, ні былыя суддзі. Ім, канешне, давядзецца каяцца, але нам з імі прыйдзецца неяк суіснаваць.

Намі ўжо годна пройдзеная палова шляху. Беларусы ўжо — не «народзец», а нацыя. Але нам трэба скончыць тое, што пачалі. Таму — моцы, веры, упартасці. Бо, насамрэч, самае цікавае толькі пачынаецца.

**Сяргей Пульша, намеснік галоўнага рэдактара НЧ**

### Памятаць, дзеля чаго і каго мы ўсё гэта робім

Грамадства аказалася выцягнутае са штодзённасці і кінутае ў віхор самых неверагодных падзей. Даўно не было, каб настолькі радыкальна змянялася жыццё такой колькасці людзей за такі кароткі прамежак часу. Мы прайшлі агонь і ваду, і зразумелі, што хуткай перамогі не будзе.

Гэта быў год, калі многія з нас зразумелі сапраўдны сэнс словаў «салідарнасць», «падтрымка», «адвага», «гонар» і — з іншага боку, «тэрор», «рэпрэсіі», «катаванні», «фашызм»...

Многім давялося вызначыцца, на якім яны баку. Шмат хто зусім нядаўна і не думаў, што здольны так смела выйсці і стаць насупраць узброенай чорна-зялёнай масы. А як потым будуць жыць тыя, што па іншы бок? Праз шчыліны балаклаваў можна ўбачыць вочы зусім маладых хлопцаў. Ці здолеюць яны потым стаць часткай нашага грамадства, і ці прыме яно іх?

Віншую ўсіх з Новым годам! Мне здаецца, 2021-ы патрабуе ад нас усіх праявы самых лепшых нашых якасцяў. Быць моцнымі, справядлівымі і міласэрнымі, клапатлівымі і салідарнымі, шчырымі і, канешне, не губляць пачуццё гумару — без яго ў нашай рэчаіснасці выжыць цяжка. І самае галоўнае, памятаць, дзеля чаго і каго мы ўсё гэта робім.

**Анастасія Рубанава, рэдактар сайта novychas.by**

### Радуйцеся, Беларусь нараджаецца!

Напэўна, ні на якія Каляды мы настолькі моцна не чакалі цудаў. На жаль, не ўсе змогуць сустрэць святы, як раней. Нехта будзе сустракаць Каляды за кратамі. Нехта — у выгнанні. Нехта — у лякарні. А нехта — дома, пакінуўшы за сталом месца таму, хто яго ўжо ніколі не зойме. Але гэтыя абставіны не мусяць у нас адняць той радасці, якая не залежыць ад знешніх абставін, якія б пякельныя яны ні былі. Гэтая радасць залежыць ад моцы і трываласці духу. А ў беларусаў — дух неверагодна моцны! Гэта аказалася чарговым адкрыццём 2020 года для нас.

Гэты год паказаў нам, што самыя простыя рэчы — самыя важныя ў жыцці. Узаемадапамога. Спагада. Любоў. Адвага. Без іх нам зараз наўпрост не выжыць. Як і без разумення сваіх каранёў. Хочацца пажадаць, каб кожны з нас у новым годзе дакладна ведаў: хто мы, беларусы, якімі мы бачым сябе саміх і якімі нас бачыць Бог. Калі кожны з нас будзе дакладна ведаць, як ён можа паслужыць нашай краіне ўласным талентам, хутка мы не пазнаем Беларусь. Якая ж неверагодная будзе Беларусь, калі кожны беларус нарэшце адчуе сябе Беларусам!

Не варта цяпер паддавацца смутку. Нягледзячы на падступаючыя да горла ком і роспач, радуйцеся! Памятайма: усё самае трывалае, самае сапраўднае і шчырае выходзіць толькі з гарніла пакутаў. Хай, як некалі пакінутая, у хляве, нараджала Марыя, зараз праз смерць і бруд, пакуты і цемру ў нас нарodзіцца новая Беларусь!

**Вікторыя Чаплева, журналіст НЧ**

### Час глядзець у будучыню з надзеяй

2020 год адназначна стаў лёсавызначальным у гісторыі Беларусі. Ён прынёс і ўсё яшчэ прыносіць шмат болю. Але разам з тым ён падарыў нам адчуванне свабоды, за якую варта змагацца.

Многія з нас цяпер адчуваюць бяссілле і нават думаюць, што ўвесь уздым першых тыдняў пратэсту прайшоў дарма. Але гэта не так. У жыцці нічога не бывае дарэмна. І калі добра падумаць, любая сітуацыя насамрэч прыносіць нам нешта важнае і каштоўнае, нават калі яна здаецца жахлівай. Цяжка сказаць, ці выбухнула б сёгод беларускай такая магутная хваля салідарнасці, калі б не было масавых арыштаў.

Не, вядома ж, гвалт, катаванні, рэпрэсіі, дыктатура, парушэнне правоў чалавека — усяго гэтага цывілізаванае грамадства павінна пазбыцца назаўжды. Але перад тым, як стаць тым самым цывілізаваным грамадствам, народ павінен адчуць і зразумець, наколькі гэта страшныя рэчы. Каб — ніколі зноў. Апошнія месяцы цяпер адбываецца нараджэнне беларускай нацыі. Дык калі гэта так, хіба бываюць роды без болю? Боль — гэта тое, што нас загартоўвае, робіць мацнейшымі і дапамагае зразумець сапраўдны кошт рэчаў.

І нават калі пра перамогу над дыктатурай казаць пакуль рана, у нас адбылася іншая, хіба не больш значная ў гістарычным маштабе перамога — перамога над сабой і сваімі страхамі. Таму — не час сумаваць. Час дзяліцца сваёй цеплынёй і падтрымкай з тымі, хто побач, бо гэты год паказаў: беларус беларусу — самы лепшы беларус. А яшчэ — клапаціцца пра сябе і, канешне, глядзець у будучыню з надзеяй. Яна абавязкова спраўдзіцца! Са святамі, сябры!

**Дзіяна Серадзюк, журналіст НЧ**

### З верай у новае, светлае, добрае

Хто мог падумаць, калі праводзіў 2019-ты і сустракаў 2020-ты, што Новы год прынясе нам такое! Што жыццё не толькі асобных людзей, але без перабольшвання ўсяго чалавецтва зменіцца, і змены гэтыя будуць мець нечаканыя і часта даволі трагічныя наступствы. У лексікон усіх народаў цвёрда ўвайшло слова «кавід». Мільёны з тых, хто падхапіў гэтую хваробу, ужо не ўбачаць сонца на небе.

Беларусы ж сутыкнуліся яшчэ і са сваёй адмысловай навалай — рэжым, які выспяваў у нашай краіне больш за 26 гадоў, нарэшце праявіў сябе ва ўсёй сваёй бесчалавечнасці, жорсткасці, несправядлівасці, хлусні.

Звыклымі паняццямі беларусаў у 2020 годзе сталі пастарунак, затрыманне, арышт, Акрэсціна, балаклава, АМАП, дубінка, суд, штраф, суткі... Спіс можна працягваць. Больш за паўтары сотні палітвязняў, дзясяткі тысяч затрыманых, безліч знявечаных, збітых, прыніжаных, і нават забітыя — вось вынік сыходзячага ў нябыт 2020-га. А таксама міжнародныя санкцыі, падзенне ўзроўню жыцця, рост адчаю ў многіх, роспач і апатыя.

Але 2020 год паказаў, што беларусы застаюцца, а можа нават толькі яшчэ становяцца НАРОДАМ, а не «народцам». Неймаверная салідарнасць, вяртанне ў побыт гістарычных сімвалаў і праява найлепшых чалавечых якасцей — гэта таксама вынік адыходзячага года. Як і мужнасць, вытрымка, вастрыня розуму, шчырасць, самаадданасць да самаахвярнасці, мудрасць, дабрыня — гэта толькі частка тых слоў, якія прыходзяць у галаву, калі думаеш пра нашых людзей у гэтыя шалёныя часы. І ніякія пачвары нічога не могуць з імі зрабіць, бо беларусы — гэта ЛЮДЗІ, а не шэрая маса.

З надыходам новага года мы прызвычаіліся спадзявацца на лепшае. Вера, надзея, любоў — гэта неад'емнае ў кожным нармальным чалавеку. Святло заўжды перамагае цемру. І мы ўжо сёння бачым таму шмат прыкладаў. Мы бачым гэтае святло ў нашых хлопцах і дзяўчатах, у нашых мамах і татах, у нашых бабулях і дзядулях, якія змагаюцца з цемрай і цемрашаламі. Веру, што ў новым годзе нас пакінуць зверствы і нялюдскасць, нянавісць і брутальнасць, хлусня і несправядлівасць, подласць і жорсткасць, здрада і тупасць, а слова «фашызм» мы зноў будзем ужываць толькі ў гістарычным кантэксце. Беларусь абавязкова стане вольнай і светлай, пра якую марылі яшчэ нашы продкі і пра якую цяпер марым мы самі.

Таму хацелася б пажадаць нам усім у Новым годзе вытрымкі і імпэту, настойлівасці і смеласці, пазітыву і шмат добрых людзей вакол, любові і натхнення, свабоды і розуму. І яшчэ абавязкова — моцнага-моцнага здароўя. Верым! Можам! Пераможам!!!

**Генадзь Кеснер, журналіст НЧ**

# Новы год, мы счакаліся! Давай, прыходзь!

Ганна СЕВЯРЫНЕЦ

**Трэба сказаць, што ён, Новы 2021-ы, і так спяшаецца, як толькі можа. Імчыць ува ўсю моц: ад нядзелі да нядзелі дні і гадзіны тахкаюць як пульс марафонца, хутка, напружана, на апошнім дыханні, у чаканні фінішнай стужкі.**

Не кожны можа прабегчы марафон. Нехта яшчэ ад пачатку пасмяецца ў адказ на прапанову: не-е-е-е, даўгія дыстанцыі — не мой канёк. Нехта прабяжыцца сімвалічна: атрымаць крыху адрэналіну, пабыць у грамадзе, зрабіць прыгожую фотку з нумарам на грудзях. Нехта адразу са старту возьме максімальную хуткасць — і ўпадзе на дзясятым кіламетры на рукі заўзятараў.

Але будуць і тыя, хто выйдзе на дыстанцыю з халодным розумам і трэніраваным сэрцам. Так, ад пачатку яны відавочна прайграюць тым, хто адразу рване з апошніх сіл. Так, яны будуць выглядаць жорсткімі, калі пакінуць за спінай стомленых, сышоўшых з маршрута таварышаў. Так, вы не пабачыце на іх тварах асаблівых эмоцый і перажыванняў. Яны будуць проста бегчы — і яны дабягуць.

Дабяжым і мы, упартыя марафонцы новага часу, вестуны новай краіны, алімпійскія чэмпіёны па мірным супраціве. Такой дысцыпліны няма ў раскладзе Алімпійскіх гульняў? Яно і правільна: няма чаго там спаборнічаць, пераможцы вядомыя яшчэ на старце. Упартыя, сканцэнтраваныя, спакойныя, трэніраваныя, ды яшчэ з такой гісторыяй у агульнанацыянальным анамнезе: трыста гадоў супраціву, ад Касцюшкі да Зана, ад Каліноўскага да Купалы, ад Скірмунта да Тарашкевіча, ад дзеда Талаша да дзядзькі Заслонава, ад Быкава да Адамовіча, ад Някляева да Статкевіча і Севярынца, ад Знака да Калеснікавай. Што вашы сорак два кіламетры, дарагія нашы стаажыстыя грэкі? Што вашыя сорак гадоў па пустыні, глыбокапаважаны спадар Майсей? Мы бяжым ад самага падзелу Рэчы Паспалітай — і мы дабяжым. Мы першыя ў гэтым пераліку пакаленняў, хто бачыць на свае вочы напрыканцы дыстанцыі бел-чырвона-белую стужку.

Пакуль мы беглі і не бачылі, куды бяжым, нам было няпроста. Сапраўды, складана бегчы па гэтай зямлі: боргай-поле, поле-гай-бор, здавалася б, за пагоркам возера, але ж не, зноў пагорак, а тут строма, а тут пушча, а тут разліў палескіх рачулак — і чакай лета, пакуль высахне. Але цяпер мы ведаем усе гэтыя сцежкі, бары і пагоркі на пералік, кожная менская вуліца цяпер адзначаная нашым маршам, мы нарадзілі новыя легенды для сваіх гарадоў і напоўнілі сэнсам двары, плошчы і магілкі. Гэта наш горад, гэта наша зямля, гэта наш маршрут. І мы бачым мэту — упершыню за трыста гадоў. А калі бягун нарэшце бачыць, куды ён бег, значыць, ён ужо не сыдзе з трасы.

Апошнія месяцы гэтага цяжкога і хуткаплыннага года я чытала братаў «Беларусалім» — няхутка, па старонцы, бо расповед гэты такі ж самы няпросты, як любы марафон. Пачаўшыся на золку — а менавіта так называлася першая частка эпапеі — ён працягнуўся «Сэрцам святла»: драматычным прадчуваннем нашых цяперашніх падзей. Усё, што з намі цяпер адбываецца, нейкім неверагодным чынам было прадбачана Паўлам у гэтай кнізе, выдадзенай напрыканцы 2019 года: і мора сцягоў на Нямізе, і стотысячныя маршы, і нават гутарка Дыктатара і вязня ў турме. Кніга, дапісаная напярэдадні апошніх падзей, завяршаецца нібыта трывожна: галоўная гераіня ў роспачы і брудзе, галоўны герой у выгнанні. Здавалася б, кладзіся і памірай. Але кожную кніжку варта дачытаць да канца, а ў гэтай апошнімі словамі стаіць: «Працяг будзе». І ён будзе: трэцюю, апошнюю частку, Павел дапісвае на Валадарцы. Я ведаю, што ён таксама ведае: трэцяя кніга абавязкова скончыцца перамогай святла, бо яно ўжо нарадзілася, у яго ўжо ёсць сэрца. І яно грукае, няспынна і няўхільна, і ўпарта, як сэрца марафонца.

Так што давай, прыходзь, Новы год новага часу. Ніколі яшчэ мы не ўваходзілі ў новы студзень такімі моцнымі, згуртаванымі і загартаванымі. Ніколі яшчэ не бачылі такімі нас нашыя дарогі, вуліцы, палі і бары. За намі — доўгі цяжкі шлях. Наперадзе — святло. Хаця яшчэ крыху трэба і прабегчы.



# Словы на асфальце

**Што гэта было? Аптымісты сцвярджаюць, што ўсе мы сталі сведкамі, а многія і ўдзельнікамі, РЭ-ВА-ЛЮ-ЦЫІ. Для аптымістаў жа ў квадраце мінулы час у пытанні недарэчны. Чаму было? Рэвалюцыя працягваецца, бо яна — не падзея, а працэс, старт якому быў дадзены летам 2020 года.**



Сяргей НІКАЛЮК

Колькі людзей — столькі меркаванняў. Адзін з падыходаў да трактоўкі паняцця «рэвалюцыя» адлюстраваны і ў Вікіпедыі: «Рэвалюцыя (ад познелацінска revolutio — паварот, пераварот, ператварэнне) — радыкальнае, карэннае, глыбокае, якаснае змяненне, скачок у развіцці грамадства, прыроды або пазнання, што спалучаецца з адкрытым разрывам з папярэднім станам».

У вызначэнні нічога не сказана пра барацьбу за ўладу. Ленін бы такое вызначэнне не прыняў. Не прымае яго і адзіны палітык (АП). У яго — свая логіка. Яе паслядоўнае развіццё можна смела лічыць адным з важных дасягненняў афіцыйнай навуковай думкі ў 2020-м годзе.

Абмяжуюся адным прыкладам: «Мы адназначна ацэньваем падзеі, якія адбываюцца пасля выбараў у краіне, як спробу неканстытуцыйнага перавароту па лякалах, як гаворыцца цяпер, каляровых рэвалюцый. Ніякай рэвалюцыяй тут не пахне, таму што проста няма рэвалюцыянераў у краіне».

Выдатна! Чытаю і перачытваю. У чым розніца паміж проста «рэвалюцыяй» і «каляровай рэвалюцыяй»? Для першай патрэбныя рэвалюцыянеры — свае рэвалюцыянеры, спароджаныя аб’ектыўнымі палітычнымі, сацыяльнымі і эканамічнымі ўмовамі. Сваімі ўмовамі. Але дзе вы такія ўмовы бачылі ў дзяржаве для народа?

У якасці рухаючай сілы каляровых рэвалюцый выступае знешні фактар. За словамі знешніх зайздроснікаў наконт дэмакратыі і правоў чалавека хаваецца банальнае імкненне «прыбраць канкурэнтаў, разбурыўшы наш прамысловы патэнцыял». Няма нічога дзіўнага ў тым, што «асабліва дбаюць, хто ў постсавецкі час сам разбурыў свае вытворчасці».

Але зайздроснікі-лялькаводы не заспелі нас знянацку. Іх сапраўдныя намеры былі своечасова выяўленыя «залатымі пёрамі» беларускай журналістыкі (глядзі табліцу).

Адзін з галоўных вынікаў года, які адыходзіць, — поўная няздольнасць улады прызнаць сваю адказнасць за тое, што адбылося ў краіне. Гульня ў «падкіднога дурня» зайшла так далёка, што гульцы самі пачалі верыць у ідэалагічнае смецце, якое дзяржаўныя СМІ абрынулі на сваіх гледачоў-чытачоў.

Зразумела, у палітычных апанентаў улады існуюць свае крыніцы інфармацыі. Так было заўсёды. Аднак ніколі яшчэ дзве рэальнасці — намаляваныя на грошы падаткаплацельшчыкаў і на грошы Дзяржпэпу — не разыходзіліся паміж сабой так кардынальна. Прыклад з рэвалюцыяй і каляровай рэвалюцыяй — толькі адзін са шматлікіх.

### «Большасць» нікуды не знікла

Беларуская рэвалюцыя, нягледзячы на шматлікія заявы АП, не стала інструментам барацьбы за ўладу ў рэжыме «тут і цяпер». Аднак, у поўнай адпаведнасці з Вікіпедыяй, яе можна лічыць радыкальным, карэнным, глыбокім, якасным змяненнем, скачком у развіцці грамадства.

АП не заўсёды трапляе пальцам у неба. Складана, напрыклад, не пагадзіцца з наступным адкрыццём: «Нешта з намі адбылося. Я ўпэўнены, што гэта толькі пачатак. Паверце, вы прыгадаеце мяне праз паўгода-год і ўбачыце, што гэта толькі пачатак».

«Верым, можам, пераможам!» Верым і ў тое, «што гэта толькі пачатак». Не сёння народжаны слоган за некалькі месяцаў напоўніўся рэальным зместам. А тое, што людзі лічаць рэальным, мае рэальныя наступствы (закон Томсана). Пра гэта ж у першы дзень 1905 года пісаў Ленін у нелегальнай газеце бальшавікоў: «Усеагульная вера ў рэвалюцыю ёсць ужо пачатак рэвалюцыі».

Працэс пайшоў — працэс змены грамадства. Але не трэба цешыць сябе. Так званая «большасць», па замове якой вось ужо 26 гадоў будуецца беларуская мадэль, нікуды не знікла. Яна сталася, яна сцішылася, але не больш за тое.

Тыповы прадстаўнік «большасці» — гэта, як правіла, жыхар дэпрэсіўнай перыферыі. Ён нямалады. Нізкі ўзровень адукацыі не пакідае яму шанцаў на атрыманне працы ў лакальных цэнтрах эканамічнага росту.

Як салаўя не варта карміць байкамі, так і тыповага прадстаўніка «большасці» не пераканаць у тым, што свабода лепшая за несвабоду, але гэта не перашкаджае яму расчароўвацца ў канкрэтнай персоне. Аднак вера ў канкрэтную персону не адмяняе патрэбы ў персоне падобнага кшталту. На гэтым і трымаюцца аўтарытарныя і таталітарныя рэжымы.




Кроплі сацыялагічнай інфармацыі, што прасочвалася скрозь дзяржаўныя заслоны, гэту сумную выснову пацвярджаюць. У прыватнасці, паводле даследавання навуковага супрацоўніка брытанскага аналітычнага цэнтра Chatham House Рыгора Астапені, доля прыхільнікаў бел-чырвона-белага сцяга сярод гарадскіх жыхароў складае 38%, чырвона-зялёнага — 42%, пры 20% нявызначаных. З улікам сельскага насельніцтва (22%), працэнт прыхільнікаў афіцыйнага сцяга будзе яшчэ вышэйшым.

Параўнаем з апытаннем НІСЭПД, што наяўнасць сельскага насельніцтва ўлічвае. У чэрвені 2014 года з тым, што «такія сімвалы, як да 1995 года (з гербам "Пагоня")», больш адпавядаюць гістарычнай і культурнай спадчыне беларускай нацыі, былі згодныя 32% — а з сімваламі, якія нагадваюць БССР, — 55%. Змены разгледзець можна, але яны непрыкметныя.

**Дзякуй дзяржаве. Яна не стаіць убаку ад працэсу фарміравання беларускага грамадства і стварае новыя падставы, якія патрабуюць аб’яднання намаганняў грамадзян для эфектыўнага адказу**

Але хто б у цяперашні час ні праводзіў апытанні, неабходна памятаць, што ад лета беларускае грамадства знаходзіцца ва ўзбуджаным стане. Як і ў выпадку з асобным чалавекам, узбуджэнне, безумоўна, уплывае на паводзіны грамадства, але яно не мяняе яго прыроды.

Такое маштабнае ўзбуджэнне — з’ява рэдкая. У мінулым стагоддзі яно назіралася толькі двойчы: у 1917 годзе і на мяжы 1989–1990-х гадоў. Пры гэтым узбуджэнню грамадства папярэднічаў крах дзяржавы. Узбуджэнне, такім чынам, было следствам, а не прычынай краху расійскай і савецкай імперый.

Ні летам, ні восенню, ні ў пачатку зімы сур’ёзнай дэфармацыі беларускай дзяржавы не назіралася. Яна яшчэ не выпрацавала свой рэсурс — і таму выстаяла. Пра гэта неабходна памятаць, складаючы планы на бліжэйшую будучыню. Веданне — сіла. Без ведаў сіндрому завышаных чаканняў не пераадолець.

### Новы трэнд

Узбуджэнне пройдзе. Гэта нармальна. Але набытыя навыкі сумесных дзеянняў застануцца. Гэтыя навыкі — і ёсць галоўны вынік года, што адыходзіць. Дзякуючы ім з насельніцтва фарміруецца грамадства.

«Грамадства, — тлумачыць дырэктар Лявада-цэнтра сацыёлаг Леў Гудкоў, — гэта ўстойлівая сістэма сацыяльных стасункаў, заснаваных на салідарнасці і ўзаемных інтарэсах». Фактамі салідарнасці сёння забіты інтэрнэт. Дзякуй дзяржаве. Яна не стаіць убаку ад працэсу фарміравання беларускага грамадства і стварае новыя падставы, якія патрабуюць аб’яднання намаганняў грамадзян для эфектыўнага адказу.

У гады палітычнай апатыі ў Беларусі ішоў працэс адаптацыі масавага чалавека да рэпрэсіўнай дзяржавы. Пад адаптацыяй варта разумець пасіўныя, галоўным чынам, рэакцыйныя (на ўзор «стымул–рэакцыя») паводзіны. Гаворка ідзе перш за ўсё пра паводзіны, залежныя ад улады. Да адстойвання ўласных індывідуальных і групавых інтарэсаў справа не даходзіла.

Каб падкрэсліць ролю адаптацыі на дарэвалюцыйнай стадыі жыцця беларусаў, працытую сацыёлага Барыса Дубіна: «Устаноўка на адаптацыю — гэта нешта накшталт абцугоў, якія трымаюць сітуацыю ў цяперашнім стане, кансервуючы яе. Гэтыя абцугі нагадваюць пра тое, хто тут гаспадар і каму належыць верх гары. Але справа ў тым, што такое ж кантралюючае і кансервавальнае ўладкаванне працуе і знізу: гэта звычка на ўзроўні масы. Такі мяккі спосаб кантролю масы над самой сабой, спосаб самакантролю. Ніхто не высоўваецца, усе прыселі і аказаліся прыкладна аднолькавага росту».

Ад ролі гаспадара дзяржава, зразумела, не адмовілася, дый адмаўляцца не збіраецца. Прыклад таму — два гады калоніі і паўтара года «хатняй хіміі» за словы «не забудзем» на асфальце. Бо вельмі ж дзяржаве хочацца, каб жыццё пачалося з чыстага ліста. Новы тэрмін. Новая пяцігодка. Новая Канстытуцыя. А хто старое прыгадае, страціць вока.

Засталася дробязь — афарміць усю гэтую навізну на чарговым Усебеларускім народным сходзе, якому прапануецца надаць новыя паўнамоцтвы. Самы час запляскаць у ладкі і хорам выгукнуць: «Бінга!». Тым жа чытачам НЧ, што не знаёмыя з набіраючым папулярнасць неалагізмам, рэкамендую трошкі пагугліць.

Існуе, аднак, дробязь: колькасць ахвочых практыкавацца ў самакантролі за час рэпрэсіўнай актыўнасці дзяржавы прыкметна зменшылася. У Беларусі сфарміраваўся новы трэнд. Ён стаў самадастатковым — і яго не спыніць.

**ДЫНАМІКА КОЛЬКАСЦІ АРТЫКУЛАЎ У ГАЗЕЦЕ «СБ. БЕЛАРУСЬ СЕГОДНЯ», ЯКІЯ ЗМЯШЧАЮЦЬ ФРАЗЕАЛАГІЗМ «КАЛЯРОВАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ» (ШТ.)**

| 05 | 06 | 07 | 08 | 09 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20* |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 12 | 2 | 3 | 2 | - | 3 | - | 1 | 1 | 3 | 2 | 44 | 31 | 18 | 22 | 246 |

* На 01.12.2020

# Барацьба толькі пачалася.

Сяргей ПУЛЬША

**Напрыканцы года прынята падводзіць вынікі і будаваць планы. 2020 год яшчэ будуць аналізаваць дзясяткі палітолагаў, магчыма, ён стане тэмай для шматлікіх дысертацый, мы ж пакуль так глыбока не капаем. Больш за 140 дзён пратэстаў — гэта фенаменальна. Такога ў найноўшай гісторыі Беларусі не было. І безумоўна, гэта адаб'ецца на будучыні нашай краіны.**

## Без надзеі на лепшае

Пачатак года быў не вельмі звычайны. Найперш, у ім працавала рэпрэсіўная машына. Можа, нехта здзівіцца, але яна працавала заўсёды. У першым у гэтым годзе нумары «Новага Часу» мы пісалі пра больш як 50 судоў за акцыі ў абарону незалежнасці Беларусі — супраць «паглыбленай інтэграцыі». Памятаеце пра такія? Яны збіралі ў лепшым выпадку тры-пяць тысяч чалавек — і гэта нам падавалася фенаменальным поспехам апазіцыі. Судзілі тыя ж суддзі, што і цяпер, Северынец ужо тады быў асуджаны тры разы запар па 15 сутак.

Тады ж «тытульная апазіцыя» рыхтавалася ад прэзідэнцкіх выбараў. Было заяўлена пра правядзенне шырокіх праймерыз для вызначэння адзінага дэмакратычнага кандыдата ў прэзідэнты. Патэнцыйныя кандыдаты пачалі сустракацца з выбаршчыкамі ў рэгіёнах. Але праймерыз, як гэта звычайна было з «аб'яднаннем апазіцыі», загразлі ў скандалах. Напачатку Ганна Канапацкая пакрыўдзілася, што яе «не ўзялі ў каманду», і нават заяўляла намер скардзіцца на ініцыятараў у пракуратуру. Потым улада схрэатывіла — і пачала накіроўваць на апазіцыйныя сустрэчы з выбаршчыкамі сваіх ідэолагаў, якія галасавалі, на думку некаторых, «не за таго» прэтэндэнта.

Сітуацыя атрымалася вельмі цікавай: з аднаго боку, з'яўленне на сустрэчах прадстаўнікоў выканкамаў сведчыла пра магчымы выхад апазіцыі з так званага «апазіцыйнага гета». З іншага — некаторыя ўдзельнікі праймерыз заявілі, што такім чынам «фальсіфікуюцца» вынікі галасавання выбаршчыкаў, ужо самастойна замыкаючыся ў гэтым «апазіцыйным гета», надаючы ўмоўнае «права голасу» выключна носьбітам дэмакратычных каштоўнасцяў.

А потым прыйшоў каранавірус. Праз яго праймерыз і скаcавалі, бо прэтэндэнты ў прэзідэнты перасталі ездзіць па краіне і сустракацца з народам, каб не ствараць «ачагі заражэння». А некаторыя гарачыя галовы (з дэмакратычнага лагеру, між іншым!) нават заклікалі перанесці правядзенне прэзідэнцкіх выбараў да заканчэння эпідэміі.

Думаецца, цяпер Лукашэнка кусае локці, што не скарыстаўся гэтай парадай і не падоўжыў свае паўнамоцтвы «па патрабаванні нават апазіцыі».

Традыцыйныя масавыя акцыі ў Дзень Волі, 25 сакавіка, былі адмененыя праз «карону». Таксама быў адменены і «Чарнобыльскі шлях».

Што ў той сітуацыі цяпер бачыцца адметным — гэта стварэнне інтэрнэт-платформы па абранні «адзінага кандыдата ад дэмакратычных сілаў» шляхам анлайн-галасавання. Гэткі правобраз платформы «Голас» і шматлікіх цяпер інтэрнэт-ініцыятыў.

І тым не менш, падавалася (яшчэ ўвесну гэтага года!), што нас чакаюць самыя звычайныя «сумныя і прадказальныя» выбары з самымі звычайнымі кандыдатамі: парачкай «дэмакратычных», парачкай «спойлераў» ды Лукашэнкам, які ўсіх традыцыйна пераможа.





## Стрэлы ў нагу

Зразумела, на грамадства аказала моцнае ўздзеянне эпідэмія COVID-19. Дакладней, не сама хвароба, а стаўленне да яе з боку ўлады ў цэлым і Лукашэнкі асабіста. Такога цынічнага стаўлення да жыцця людзей мы проста не бачылі.

Спачатку ўлада ўвогуле адмаўляла эпідэмію. Лукашэнка казаў пра «каронапсіхоз», згадваў свіны і птушыны грып, абяцаў расказаць, «каму гэта выгадна» (дарэчы, так і не расказаў), і «не бачыў» вірусаў у лядовым палацы. А пра памерлых, што псавалі яго ўпэўненасць, выказаўся надзвычай абразліва — маўляў, самі вінаватыя, няма чаго было імунітэт сабе падрываць.

Нягледзячы на ўсе папярэднія эпідэміі — той жа згаданы Лукашэнкам птушыны грып, — высветлілася, што дзяржава, дзе «самая лепшая ў свеце» медыцына, нават мінімальна не гатовая да ўспышак захворванняў. У аптэках імгненна зніклі некаторыя лекі, аднаразовыя маскі, дый не толькі яны. Марля, вата, бінты — усё, з чаго можна было зрабіць сродкі індывідуальнай абароны (СІА), карысталася шалёным попытам. У той жа час лёгкая прамысловасць Беларусі не здолела тэрмінова перабудавацца і не наладзіла своечасовую вытворчасць тых жа масак. Тут і выявілася хіба планавай эканомікі: якія маскі, калі ў плане — пашыў нікому не патрэбных касцюмаў? У выніку ўсіх уразілі павязкі «Світанку», зробленыя, падавалася, наўпрост з майткоў.

Затое грамадства адрэагавала належным чынам. Маскамі народ забяспечвалі прыватныя прадпрыемствы, а, напрыклад, швачная вытворчасць крамы symbal.by была наўпрост перабудаваная на іх выпуск. Створаная ініцыятыва BY_COVID пачала збор ахвяраванняў для дапамогі шпіталям ды паліклінікам і дабрачынныя пастаўкі апаратуры ды СІА дактарам. Але паколькі на самым вышэйшым узроўні «віруса не было», то дзякунства ўлады выявілася і ў забароне прымаць такую дапамогу.

А памятаеце скандал, калі медыкам «хуткай дапамогі» было забаронена атрымліваць бясплатныя абеды ад McDonalds: маўляў, гэта «хабар»?

Беларусь не ўвяла каранцінныя захады, краіна не закрыла межы — і ў выніку ўсё роўна аказалася ізаляванай, бо межы закрылі абсалютна ўсе краіны вакол нас. Дзяржава не змагла арганізаваць дыстанцыйнае навучанне школьнікаў — і за распрацоўку сістэм анлайн-адукацыі ўзяліся непасрэдна педагогі.

Лукашэнка ж усё не «заўважаў» вірусаў, вынікам чаго быў праведзены ў дакор, найперш, Расіі, парад 9 траўня. Лукашэнка спадзяваўся паказаць сябе круцейшым і больш «ненахіляемым» за Пуціна. А прадэманстраваў толькі ўласнае глупства ды адсутнасць адэкватнай рэакцыі на небяспеку.

Карацей, тады стала зусім зразумела, што Беларусь — гэта не «дзяржава для народа». Дзяржава проста кінула народ у крызіснай сітуацыі, нават мінімальна не выканаўшы тое, для чаго яна ўвогуле існуе, — забеспячэнне жыцця і здароўя грамадзян. Грамадзяне і пандэмія, па вялікім рахунку, засталіся сам-насам. Краіна і яе жыхары прайшлі «першую хвалю» каронавіруса не дзякуючы дапамозе дзяржавы, а, хутчэй насуперак ёй.

Затое — здабылі проста каласальны досвед салідарнасці. Такой падтрымкі медыкаў, адзін аднаго, ахвяраванняў, да гэтага часу ў Беларусі не было.

Безумоўна, гэта не магло не адбіцца на настроях у грамадстве.



## Выбары, выбары…

Пасля абвяшчэння прэзідэнцкіх выбараў на іх высунуліся аж 55 прэтэндэнтаў. Зарэгістраваныя былі 15. Але нават рэгістрацыі папярэднічаў суворы «адсеў». Найперш, ЦВК не зарэгістраваў больш за 30 так званых «прэтэндэнтаў пратэсту». Гэта была ініцыятыва Мікалая Статкевіча, які вылучаў кандыдатаў у прэзідэнты, каб яны маглі легальна праводзіць сустрэчы з людзьмі.

Блогеру Сяргею Ціханоўскаму, які, падаецца, таксама рэгістраваўся, каб мець магчымасць легальна сустракацца з народам, стварылі сітуацыю, у якой ён не мог падаць дакументы на рэгістрацыю ініцыятыўнай групы. Яго некалькі разоў каралі адміністрацыйным арыштам, і на момант падачы дакументаў ён знаходзіўся за кратамі. Тут мы ўпершыню пачулі пра Святлану Ціханоўскую, якая зарэгістравалася прэтэндэнткай на высокую дзяржаўную пасаду замест мужа.

Звыкла былі зарэгістраваныя «раз'ядналыя дэмакраты» з няўдалага праймерыз — Юрась Губарэвіч, Вольга Кавалькова, Мікалай Казлоў — і набліжаныя да гэтага лагеру Андрэй Дзмітрыеў ды Ганна Канапацкая. Былі і людзі, якія ішлі на выбары дзеля атрымання папулярнасці ды вырашэння сваіх мэтаў — такія, як лідар паган-метал гурта Znich Алесь Таболіч, прадпрымальніца Наталля Кісель, фермер Юрый Ганцэвіч. Прайшлі ў выбары «цёмныя коні» Бабарыка і Цапкала. Прычым, Бабарыка зрабіў сенсацыю — ён падаў найбольшую ў гісторыі Беларусі ініцыятыўную групу па свайм вылучэнні ў 8904 чалавекі. І ён першым даўмеўся збіраць ініцыятыўную групу праз Google-форму.

Найбуйнейшыя інтэрнэт-парталы Беларусі ўключылі галасаванне з пытаннем: «За каго б вы прагаласавалі на выбарах?» — і ў краіне раптам узнік мем «Саша 3%». Не маюць стольк і працэнтаў галасоў Лукашэнка набіраў сяроад інтэрнэт-карыстальнікаў. Улада забараніла гэтыя апытанні, тады з'явіліся іншыя варыянты, кшталту: «За што б вы прагаласавалі: дранікі, Worldof Tanks, трактар (памятаючы пра тое, што Лукашэнка прапаноўваў лячыць каранавірус трактарам)?». «Трактар» усё роўна набіраў 3%.

Пікеты па зборы подпісаў за вылучэнне кандыдатаў у прэзідэнты выбухнулі незвычайнай актыўнасцю грамадзян. Беларусы выстройваліся ў велічэзныя — па некалькі тысячаў чалавек — чэргі, каб падпісацца за альтэрнатыўных прэтэндэнтаў, а сустрэчы з імі ператвараліся ў сапраўдныя мітынгі.

Але і тады эксперты яшчэ працягвалі казаць: большасць прэтэндэнтаў «адсеецца», бо яны не маюць структур, што сабралі б 100 тысячаў подпісаў. Маўляў, на гэта здольныя толькі палітычныя партыі, дый тое

# Але — мы здолеем

не паасобку, а ў кааліцыі. А відовішчныя чэргі, каб паставіць подпіс за «альтэрнатыўнага», — яшчэ не аргумент. Бо чэргі да «альтэрнатыўных» выстройваліся і ў 2010 годзе, і ў 2015-м…

Тым не менш, гэтыя чэргі здолелі прарваць тую самую «спіраль маўчання» пра якую даўно казалі сацыёлагі. Менавіта тады беларусы пабачылі, што іх, незадаволеных 26-гадовым кіраваннем аднаго чалавека, багата. Іх шмат. І, можа быць, іх большасць. Адбыўся выбух у самаасэнсаванні, у масавай свядомасці.

Тады ж улада ўпершыню адчула, што нешта ідзе не так. Але адказваць ёй не было чым — толькі звыкла дзейнічала рэпрэсіўная машына. Цалкам легальныя пікеты па зборы подпісаў абвяшчаліся «несанкцыянаванымі мерапрыемствамі», Лукашэнка казаў пра «каруселі» на пікетах па зборы подпісаў, але свае пікеты не выстаўляў. І вось ужо Ярмошына напісала заяву ў Следчы камітэт, што Сяргей Ціханоўскі «скарыстаў збор подпісаў, накіраваўшы яго на змену ўлады». «Змена ўлады — гэта ж нармальна для выбараў?» — запыталіся ў яе журналісты. «Не, ненармальна. Выбары — гэта канстытуцыйны пераход улады, а не гвалтоўная змена», — сказала ў адказ Ярмошына.

Статкевіч, Севярынец і Ціханоўскі за цалкам дазволеныя пікеты трапілі за краты, прычым, па крымінальным артыкуле. Нібыта, яны рыхтавалі «масавыя беспарадкі». У Ціханоўскага следчыя з трэцяй спробы знайшлі за канапай 900 тысяч долараў — і беларусы сталі масава зазіраць за свае канапы.

Першы пікет па зборы подпісаў за Лукашэнку адбыўся толькі 5 чэрвеня. На той момант асноўныя прэтэндэнты ў прэзідэнты перасягнулі лічбу сабраных аўтографаў у 60 тысяч. 11 чэрвеня ў офіс «Белгазпрамбанка», якім кіраваў Бабарыка, прыйшлі людзі з Дэпартамента фінансавых расследаванняў, 18 чэрвеня Бабарыка быў затрыманы. Лукашэнка сказаў, што Бабарыку трэба дапусціць да выбараў, каб «усе пабачылі, хто ён такі». І ў той жа час следчыя арыштавалі карціны сусветна вядомых беларускіх мастакоў, якія выкупляў «Белгазпрамбанк», каб вярнуць іх на радзіму.

У гэты ж час пад арышты трапілі практычна ўсе рэгіянальныя каардынатары штабу Святланы Ціханоўскай — яна сама ездзіла па рэгіёнах і здавала ў тэрытарыяльныя камісіі подпісы ў сваю падтрымку. Ёй паступіла тэлефанаванне з невядомага нумару з прапановай зняцца з выбарчай кампаніі і подпісы не здаваць, інакш яе пасадзяць, а яе дзяцей адбяруць і адправяць у дзіцячы дом. «Перада мною стаіць выбар: дзеці або далейшая барацьба, думаю, мой выбар будзе відавочны. Прашу вас з разуменнем паставіцца да любога майго рашэння», — кажа Святлана.

Тут гісторыя Беларусі магла збочыць у іншым напрамку. Але… Святлане з падтрымкай патэлефанавала жонка канкурэнта па выбарчай гонцы — Вераніка Цапкала. Астатнія штабы таксама не засталіся ўбаку і выказалі сваю салідарнасць. І Ціханоўская засталася ў кампаніі.

ЦВК не зарэгістраваў Віктара Бабарыку. У Валерыя Цапкалы са здадзеных у камісіі 160 тысяч подпісаў прызнаныя сапраўднымі менш за палову — 75 тысяч, затое дзіўным чынам «дадаліся» подпісы ў Чэрачаня і Канапацкай — каля 35 тысяч кожнаму. Улады па-ранейшаму не бачылі пагрозы ў настаўніцы англійскай мовы і «хатняй гаспадыні» — і зарэгістравалі Святлану Ціханоўскую кандыдатам у прэзідэнты.

А Мінск літаральна захлынаўся гудкамі аўтамабіляў, што сігналілі на ўсіх вуліцах, выказваючы пратэст нерэгістрацыі асноўных кандыдатаў.

Шчыра скажу: я не ведаю, хто да каго звярнуўся, як праходзілі перамовы і гэтак далей. Дый гэта і не важна цяпер. Важна тое, што аб'яднанне штабоў Бабарыкі, Цапкалы і Ціханоўскай было відавочным крокам, — асабліва пасля таго, як Святлану Ціханоўскую падтрымалі ў самы цяжкі момант яе кампаніі. І менавіта гэтую відавочнасць улада проста праспала, зашораная тым, што «тытульная апазіцыя» ў такой сітуацыі ніколі не аб'ядноўвалася. Магчыма, тут спрацавала інерцыя мыслення: кшталту, «аб'яднання не было, няма чаго і пачынаць». А выбарчы штаб Ціханоўскай разгромлены — і сама яна агітацыйную кампанію не выцягне.

Аднак не ўлічылі ані тое, што цяпер на палітычным полі гуляла не «тытульная апазіцыя», ані адсутнасць у Святланы Ціханоўскай якіх-кольвек амбіцый, ані яе, Святланы, выключная дамаўляльнасць.







У выніку на сцэну выйшлі «тры грацыі» — Святлана Ціханоўская, Вераніка Цапкала, Марыя Калеснікава.

Пасля быў 60-тысячны мітынг гэтых неверагодных жанчын на Бангалор, «белыя бранзалеты», стварэнне платформы «Голас», «ды-джэі пераменаў» і іншае, іншае, іншае. Тое, што мы памятаем. Нахабныя, нават не фальсіфікацыі — проста напісанне лічбаў Лукашэнку. Гвалт сілавікоў. Стотысячныя мітынгі неверагодных беларусаў і проста мора бел-чырвона-белых сцягоў у беларускай сталіцы.

### Ці ўяўлялі мы?

Хіба мог хто-небудзь напачатку гэтага года ўявіць, што на вуліцах Мінска будзе збірацца па сто тысяч чалавек з бел-чырвона-белымі сцягамі? Хто-небудзь з тых, хто цяпер кажа, нібы пратэсты «здзімаюцца», мог у сакавіку 2020-га хаця б дапусціць, што ў сваіх дварах, на раёнах будуць збірацца хаця б «маленькія», па іх цяперашнім разуменні, шэсці ў тысячу чалавек? Ці хаця б нават трыста? Стотысячны мітынг падаваўся неверагодный фантастыкай, а «лакальныя мітынгі» не ўзнікалі нават у самым аптымістычным уяўленні.

Падумайце пра адзін факт: калі «тытульная апазіцыя» апошнім разам ладзіла пікетаванне? Проста звычайны пікет з бел-чырвона-белымі сцягамі і колькасцю ў 10–15 удзельнікаў. У 2011-м, пасля выбараў–2010? У 2014-м, падчас Чэмпіянату свету па футболе? У 2015-м, таксама ў час выбараў? А цяпер, у час «садзьмутых пратэстаў» такія пікеты дзе-небудзь у раёнах узнікаюць штовечар.

Хто ў красавіку-траўні 2020 года думаў, што бел-чырвона-белыя сцягі будуць масава вывешвацца ў вокнах дамоў, на дахах будынкаў, у скверах ды парках — у самых нечаканых месцах? У каго з тых жа «ныцікаў» у той час у акне ці на гаўбцы вісеў сцяг? Былі, канешне, энтузіясты, якія вывешвалі іх на сваіх прыватных падворках, як Славамір Адамовіч у сваёй сядзібе, але гэта — выключэнні. А цяпер…

Так, нешта не атрымалася. Напрыклад, арганізаваць сапраўдны масавы нацыянальны страйк. Але яшчэ ў красавіку гэтага года нават сама магчымасць страйку і спыненне працы нейкага прадпрыемства разглядаліся як рамантычнае трызненне, якое не мае нічога агульнага з рэальнасцю.

Ці ўяўлялі мы нават напачатку лета 2020-га, што пенсіянеры выйдуць на мітынг не за Лукашэнку, а супраць яго — пад нацыянальнымі сімваламі? А АМАП будзе ваяваць з бабулямі і дзядулямі? Паўгода (усяго паўгода!) таму гэта таксама падавалася неверагоднай справай.

Таму, перш чым казаць пра тое, што «усё прапала», — азірніцеся назад. Проста паглядзіце, які шлях мы прайшлі толькі за адзін гэты год.



Фота НЧ

### Якімі вы будзеце

Пасля 2020-га беларусы ўжо не будуць ранейшымі. Кажуць, што ў гэтым годзе ў нас адбылося фарміраванне нацыі. Магчыма, сапраўды так. І мы можам паглядзець, якой стане гэта нацыя.

Беларусы і беларускі будуць надзвычай стойкімі. Яны загартаваліся ў пандэмію. Яны выжылі не дзякуючы, а насуперак дзяржаве. І можна здагадацца, чаму так атрымалася. Чаму нават тыя, хто падхапіў заразу ў «кавідных бараках» Акрэсціна, Жодзіна ды Баранавічаў, хварэюць, але не паміраюць.

Дактары даўно казалі, што сацыяльна актыўныя людзі, людзі, якім «няма калі хварэць», хварэюць радзей за так званых шараговых грамадзян, дэвізам якіх ёсць «мая хата з краю». Усе, хто выходзіць на мітынгі, хто вывешвае сцягі, хто стварае і развешвае ўлёткі, хто запісвае відэаролікі салідарнасці — усе гэтыя людзі маюць мацнейшы імунітэт. А значыць, нас чакае вельмі здаровая, стойкая і актыўная нацыя.

Беларусы і беларускі па-ранейшаму будуць цярплівымі, але настойлівымі. Цярплівымі не ў сэнсе таго, што яны стануць трываць несправядлівасць і гвалт, а ў сэнсе, што яны будуць ведаць: проста і хутка нічога не адбываецца. Для таго, каб дасягнуць мэты, трэба прыкласці намаганні і час. І, у залежнасці ад мэты, час і намаганні могуць быць розныя. Зрынанне рэжыму — гэта глабальная мэта, і 140 дзён пратэстаў — яшчэ не мяжа. Трэба «дзяўбсці, дзяўбсці, дзяўбсці», як казала Марыя Калеснікава. І ўсе гэта разумеюць. Таму: цярпенне і настойлівасць.

Беларусы і беларускі будуць салідарнымі і самаахвярнымі. Бо мы выходзім, ведаючы, чым нам гэта пагражае: суткі, нялюдскія ўмовы, штрафы, поўнае судовае свавольле. Але ўжо цяпер мы гатовыя заплаціць гэтую цану за тое, каб «людзьмі звацца». І мы ведаем, што нас не пакінуць сам-насам з нашаю бядою. Што заўсёды знойдуцца тыя, хто падтрымае нас і нашых родных — не толькі маральна. Што нас багата, і што мы разам.

Беларусы і беларускі будуць нацыяй, якую немагчыма скарыць. Бо за 140 дзён нас не зламалі ані гумовыя дручкі, ані гумовыя кулі, ані святлашумавыя гранаты, ані здзекі і катаванні. Мы будзем нязломнымі — і зло нас не пераможа.

Вельмі хацелася б, каб беларусы і беларускі былі ўпартымі і дасягнулі ўрэшце пастаўленай мэты. І я веру, што так і будзе.

А яшчэ б хацелася, каб мы ўсё памяталі. Каб не слухалі ныцікаў, каб азіраліся назад і ўзнёсла ўздыхалі: «Ну нішто сабе, якія мы файныя і неверагодныя!» І ў той жа час, каб словы «не забудзем, не даруем» не засталіся проста словамі. Зло павінна быць не толькі пераможанае, але і пакаранае.

Для гэтага нам трэба не спыняцца і яшчэ багата чаго зрабіць. Насамрэч, барацьба толькі пачалася. Але я веру — мы здолеем.

# «Ведаю, што беларусы загадаюць на Новы год. І ўпэўнена, што здзейсніцца»

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Марыя трапіла на Акрэсціна ў ноч на 10 жніўня, калі там было самае пекла. Яе гісторыю мы ўжо распавядалі: дзяўчына была назіральніцай на выбарах, пазбегла затрымання на сваім участку, але трапіла пад «хапун» увечары ў цэнтры Мінска. Калі праз некалькі месяцаў я адшукала яе і прапанавала пераасэнсаваць тое, што з ёй адбылося, яна адказала: «Ох, так шмат часу прайшло. Але ўсё гэта дагэтуль са мной».**

### «Упершыню бачыла, як у людзей свяціліся вочы»

Марыі 28 гадоў. Па прафесіі яна — усходазнаўца, перакладчыца з кітайскай.

Запытваю ў Марыі, як яна трапіла ва ўсю гэтую гісторыю з выбарамі і чаму вырашыла стаць незалежнай назіральніцай падчас прэзідэнцкай кампаніі.

— Я два гады жыла ў Грузіі. Вярнулася ў сакавіку. Нашы выбары заўсёды лічыла фарсам, і калі б не з'яўленне Бабарыкі, доўга б ігнаравала ўсе падзеі. У Бабарыку я пабачыла сапраўднага лідара, здольнага прывесці Беларусь да таго стану, да якога мне хацелася. Палітыкай цікавілася і раней, прычым даволі глыбока. Але раней мне не хацелася быць часткай гэтых брудных гісторый з прадказальным канцом.

Цяпер сітуацыя была іншай. Пасля ваганняў (бо кавід, як я буду хадзіць па кватэрах) я ўсё ж запісалася ў ініцыятыўную групу Бабарыкі. Думала, хоць 15 подпісаў па сваіх сябрах збяру. У выніку — сабрала 100. Гэта вельмі натхняльна было, упершыню бачыла, як у людзей свяціліся вочы надзеяй. Шмат хто казаў, што будзе галасаваць першы раз за 20 гадоў. Людзі паверылі ў магчымасць нейкага цуда. А калі нават у цуд не паверылі, вырашылі, што зробяць хаця б тое, што ад іх залежыць. Так было і са мной. Я проста не магла сабе дазволіць гэтага не рабіць. Крыўдна, што ў выніку ўсе мае подпісы прызналі несапраўднымі.

Потым я намагалася трапіць у выбарчую камісію. Назбірала 15 подпісаў з пад'езда — менш чым за гадзіну. Не прайшла. Зноў крыўдна: палічылі мой досвед у выбарчым заканадаўстве недастатковым. Адкуль яны ведаюць? Я прайшла падрыхтоўку загадзя, праслухала курс па выбарчым праве. Вельмі падрабязна разабралася ва ўсіх пытаннях, атрымала характарыстыку з былога месца працы.

Майго кандыдата пасадзілі ў СІЗА і не зарэгістравалі 14 ліпеня. Пасля гэтага спектакля ў ЦВК у мяне, шчыра кажучы, пачалася мікраістэрыка. Было цяжка дыхаць і хацелася гучна крычаць. Чаму? За што? Дзе ваш сорам? На якой падставе вы так упэўненыя, што пакарання не будзе?

Мой гнеў і крыўда не далі мне проста апусціць рукі. Тады падалася ў назіральнікі. Назіранне было болем. Большага хамства, дзёрзкасці, нахабнасці, ілжывасці я не бачыла ніколі. Анжаліка Анатольеўна Захарэўская, дырэктарка школы і старшыня майго ўчастка, павінна панесці адказнасць за свае дзеянні. Я ўжо падала на яе скаргу ў праект Ціханоўскай «Кніга рэгістрацыі злачынстваў». У працэсе назірання я падала ёй асабіста 3 скаргі, 1 скаргу ў тэрытарыяльную камісію і 2 скаргі ў пракуратуру. Усе іх адказы-адпіскі я захоўваю, прыйдзе наш час. Усе панясуць адказнасць.

Я шмат разоў сказала слова «крыўдна». Менавіта гэтае адчуванне не дазволіла мне сядзець дома ціхенька 9 жніўня ў 8 гадзін вечара. Мне плявалі ў твар без перапынку. Яны скралі мае подпісы, яны палічылі мой досвед недастатковым, яны пасадзілі ні за што майго кандыдата, яны выстаўлялі мяне як сабаку за тэрыторыю школы падчас назірання, яны не адказалі ні на адну маю скаргу, яны скралі МОЙ голас. Як я магла быць дома 9 жніўня? Далей гісторыю вы ведаеце.

### «Я не гатовая да крымінальнай справы»

— Многія кажуць, што для іх жыццё падзялілася на «да» і «пасля» 9 жніўня. Ці ёсць у вас такое адчуванне?

— Для мяне пераломным стала ўсё ж не 9 жніўня. Маё затрыманне — лагічнае завяршэнне падзей, якія пачаліся для мяне ў траўні. Я думала, мяне затрымаюць раней. Цікава, што ў маёй галаве 9 жніўня чамусьці ўяўлялася ўмоўным канцом, да якога я гатовая дайсці. І дайшла, і была гатовая. А высветлілася, што канец яшчэ о-го-го дзе. Нешта я да гэтага не падрыхтавалася. Столькі ўжо адбылося пасля 9-га, што хопіць на тры жыцці.

Раней, калі я чула ад некага ці чытала пра гэта ўсё дзікунства ў сістэме, я проста адмахвалася. Не хацела пра гэта думаць. А тут яно паўстала непасрэдна наўпрост перада мной. І мне давялося праз гэта ўсё прайсці. Я «крычала» з гэтых цудаў і прыблудаў кожны дзень па сто разоў. Але намеру дзейнічаць і працягваць гэта не збавіла.

Цяпер таксама гэты намер ёсць. Але шмат чаго змянілася. Падзеі мяне не зламалі, але надламалі, даводзіцца шмат пра што думаць. Пра бацькоў, пра бяспеку. 9 жніўня я была пад уладай эмоцый, цяпер за эмоцыі можна атрымаць 2,5 года калоніі (як Наталля Хершэ, якая сарвала з амапаўца балаклаву). Я люблю сваю краіну, але на такую ахвяру я не здольная. Цяпер, на адлегласці, у мяне атрымліваецца быць разам з пратэстам, нечым здольная дапамагаць. Мне вельмі цяжка ад таго, што я фізічна не са сваімі людзьмі. Але на адлегласці я магу рабіць больш, чым седзячы дома і кожную хвіліну баючыся вобшуку. У нашай краіне з прававым дэфолтам, калі прыйшлі з вобшукам і хочуць нешта знайсці — знойдуць.




### Праз тры месяцы запрасілі на медычную экспертызу

***— Пасля вызвалення вамі больш не цікавіліся? Таксама вы збіраліся падаваць скаргі ва ўсе магчымыя інстанцыі, у тым ліку ў ААН. Атрымалася нешта з гэтага?***

— Я пасля выхаду адразу падала скаргу ў суд, каб перагледзелі справу. Яе перагледзелі. Палічылі, што я ўсё роўна вінаватая, але 5-ці адседжаных содняў дастаткова. Таму тыя астатнія 5 — скасавалі.

Акрамя гэтай скаргі я сама стварыла сабе яшчэ адну праблему — падала заяву ў Следчы камітэт. У падрабязнасцях апісала ўсе катаванні, прывяла сведак. Папрасіла правесці праверку наконт узбуджэння крымінальнай справы супраць супрацоўнікаў Акрэсціна. Яны не адказвалі мне на заяву амаль 3 месяцы. Выпадкова я дазналася, што маю справу аб'ядналі са справай яшчэ адной сукамерніцы. Выпадкова дазналася, што яны запытвалі на мяне характарыстыку з мінулага месца працы. Але ніхто ні разу са мной ці з маім бацькам не звязаўся. Потым праз 3 месяцы прыйшоў ліст: «прыйдзіце на медычную экспертызу». Быў указаны нумар тэлефона, я пазваніла следчаму. Па-першае, спытала яго, якую медычную экспертызу ён збіраецца праводзіць праз ТРЫ МЕСЯЦЫ пасля падзей?! У мяне былі сінякі ад нараў, але праз тры месяцы, канешне, нічога не засталося. Я сказала, што не ў Беларусі, знаходжуся на лекаванні ў іншай краіне. Мне сказалі «добра», і больш не звязваліся. Усе тэрміны праверак даўно скончыліся, але мне так ніхто нічога і не паведаміў. Я ўжо думаю, і добра. Бо, зноў жа, мець справы з нашымі «органамі» не маю ніякага жадання.

Я зрабіла, што магла. Дала шмат інтэрв'ю. Падала заяву ў камітэт па расследаванні катаванняў. Падалася ў «23.34», у «Кнігу рэгістрацыі злачынстваў». Я захоўваю ўсе лісты ад пракуратуры, выбарчых камісій, фальсіфікаваныя судовыя пратаколы (мне ўклеілі паказанні сведкі пасля падпісання пратакола, хаця дакладней — непадпісання. Я напісала, што не згодная). Пад лістом у ААН я падпісалася. Скаргі ў СК па выніку нам юрысты параілі пісаць асабістыя, сказалі, што так будзе больш сэнсу. Ну, а маем, што маем — ніводнай крымінальнай справы. Некалькі маіх сукамерніц з'ехалі, як і я, за мяжу, некаторыя пасля 9-га сядзелі яшчэ некалькі разоў. А некаторыя працягваюць па меры магчымасцяў змагацца на вуліцах.

Шчыра кажучы, я шмат працавала з псіхатэрапеўтам пасля ад'езду. Мне было крыўдна, што я нібы збегла, здавалася на саму сябе. Але адно інтэрв'ю са Змітром Дашкевічам мяне нібы супакоіла. Ён кажа пра тое, што нехта гатовы сядзець 15 содняў, нехта — не, нехта гатовы ісці са сцягам, нехта — не, у некага няма часу, нехта перажывае за сям'ю, бяспеку, але робіць, што можа. Цяпер так шмат магчымасцяў рознымі сродкамі ўдзельнічаць у пратэсце. Напісаць пост, пагутарыць з родзічамі-ябацькамі, паказаць ім фоткі і відэа, пайсці валанцёрам каля Акрэсціна і Жодзіна, шмат-шмат чаго яшчэ. І ўнёсак кожнага аднолькава важны. Нехта з-за мяжы зробіць больш, чым са сваёй краіны ў пастаянным стрэсе, што да яго зараз прыйдуць.

### «Далучэнне сілавікоў да пратэстоўцаў было б пачаткам перамогі»

***— Як вы думаеце, што нас прывядзе да перамогі і колькі на гэта можа спатрэбіцца часу?***

— Я дакладна ведаю адно — як раней ужо не будзе. Беларусы змяніліся. Мне застаецца толькі спадзявацца, што гэтая неверагодная і натхняльная салідарнасць нікуды не падзенецца. Што яна не знікне разам з сыходам Лукашэнкі. Той стан, у якім цяпер знаходзіцца народ і яго свядомасць, не апісаць. Я аб гэтым марыла ўсё жыццё: казаць з гонарам, што я беларуска. Хацець вярнуцца, хацець працаваць, каб зрабіць краіну лепшай.

Самі пратэсты да сыходу Лукашэнкі не прывядуць. Думаю, што канец будзе тады, калі на бок пратэстоўцаў пяройдуць сілавікі. Пратэсты цяпер патрэбныя людзям, як вада ці сонца. Гэта моцная псіхалагічная падтрымка, які дае магчымасць потым трымацца тыдзень. Так прыемна побач з сабой бачыць сваіх суседзяў, сяброў, якіх аб'ядноўвае адна мэта. Гэта вельмі важна. Калі на вуліцах не будзе людзей — пратэст не садзьмецца ўсё роўна, але проста настрой будзе больш цяжка падтрымліваць.

***— Вы праўда думаеце, што сілавікі пяройдуць на бок народа?***

— Мы бачым браджэнні ў іх. Па злівах можна зрабіць высновы, што там не ўсё так аднназначна і бескампрамісна. Паводле звестак By_Pol мы таксама бачым, што працэс павольна, але ідзе. Але інтэрв'ю былых сілавікоў сведчаць пра тое, што верагоднасць іх масавага далучэння да пратэсту невялікая. Яны ўжо столькі здзейснілі, што нават абяцанні і гарантыі Святланы для іх не працуюць. Позна.

Таму правільней будзе сказаць так: я думаю, што далучэнне сілавікоў да пратэстоўцаў было б пачаткам перамогі. Таксама я думаю, што пачаткам канца ўлады была б першая крымінальная справа на сілавіка.

### «Я вельмі ганаруся нашым народам»

***— Ці думалі вы пра тое, што б вы хацелі зрабіць найперш, калі вернецеся ў Беларусь?***

— Я шмат дзе жыла ў розных гады, таму вяртанне аднекуль суправаджаецца аднолькавым планам: у першы дзень раніцай даехаць да Нямігі, прайсціся пешшу ад сабора праз тэатр, па набярэжнай, праз парк Горкага, да Кастрычніцкай (вуліцы). Выпіць там каву і з'есці сэндвіч з тунцом. Вечарам пайсці на сквош, а потым сустрэцца з сябрамі. Яны цудоўныя, вельмі мяне падтрымлівалі і падтрымліваюць. Яшчэ ў мяне няма сцяга дома, таму б павесіла свае бчб-ручнікі, як летам. Ну і запісалася б абавязкова валанцёрам.

***— Можа, штосьці хочаце сказаць беларусам?***

— Мне вельмі цяжка знаходзіцца не ў Беларусі. Вельмі-вельмі-вельмі цяжка. Усе мае думкі, шмат таго, што раблю, звязана з Беларуссю. Я вельмі ганаруся нашым народам зараз, вельмі рада бачыць, як людзі не спыняюцца, як не губляюць надзеі, як выходзяць, як намагаюцца супрацьстаяць. Колькі з'яўляецца цудоўных ініцыятываў, якая неверагодная салідарнасць!

Беларусам хацела б сказаць, што я іх люблю, люблю смелы народ, які так хоча людзьмі звацца і не быць скотам. А яшчэ ведаю, што ўсе-ўсе беларусы пажадаюць на Новы год. І ўпэўнена, што здзейсніцца. Бо не можа не здзейсніцца, мы гэта заслужылі. Шчыра веру: тое, што робіць кожны беларус цяпер — ад дзяцей, якія малююць малюнкі і натхняюць сваіх бацькоў, да Святланы і яе каманды за мяжой, якія зрабілі больш, чым Лукашэнка за 26 гадоў, — усё гэта вельмі важна і набліжае нас да краіны, пра якую мы ўсе марым. Свабоднай, незалежнай, дэмакратычнай Беларусі з прыгожай мовай і прыгожым сцягам.

**Фота Дзмітрыя Дзмітрыева**

Літаратурная Беларусь

Выпуск №12 (172)
(снежань)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by



Змест





Ганна КОМАР

# Белыя кветкі... чырвоныя сэрцы

## Пра пачуцці грамадзянкі

Я толькі летась стала грамадзянкай. Да гэтага я была Ганна Комар, якая жыве ў Беларусі, любіць мову, адчувае нейкімі паэтычнымі фібрамі зямлю і людзей, але я была грамадзянкай толькі на паперы. Калі ў мяне пыталі, ці ў апазіцыі я, казала, што я менавіта культурная апазіцыя, бо цуралася палітыкі наогул.

Маё ўспрыняцце перакройвалі людзі. Гэта як у прыватных стасунках, калі твой тата аб'юзер і ты не ведаеш, што можа быць інакш, — і шукаеш такіх жа мужчын. А потым знянацку адкрываеш, што ёсць мужчыны, якія не будуць цябе біць, гвалціць і прыніжаць. І ты думаеш: клас, я хачу тут застацца. І вось Бабарыка стаў для мяне адным са штуршкоў да зменаў. Я не чакала, што такое магчыма: што можа быць чалавек такой пасады і такога статусу, які з павагай і любоўю будзе ставіцца да народа, часткай якога ён з'яўляецца.

Кампаніі, якія праводзіліся, казалі: вы гаспадары свайго жыцця і сваёй краіны — вы можаце паўплываць на тое, што адбываецца. Трэба толькі трошкі папрацаваць. Раней я адчувала сябе ў стане вывучанай бездапаможнасці, калі мне даводзілі, што ад мяне нічога не залежыць і я не магу ні на што паўплываць, а потым мне сказалі: «Вось табе інструменты — ідзі і рабі». Клас, гэта не так складана, як я думала. Мяне вельмі натхняе адказнасць, якую людзі сталі браць за сваё асабістае жыццё і за працэсы, якія адбываюцца на агульначалавечым, агульнанацыянальным, агульнадзяржаўным узроўні. Аказваецца, што іх не тысячы, а дзясяткі тысяч. А потым аказваецца, што іх сотні тысяч. А потым аказваецца, што вас мільёны. І становіцца рабіць усё лягчэй.

За апошнія месяцы ўсё змянілася. Палітыка, сацыяльная сфера, культура сталі для мяне ўзаемазвязанымі. І я гатовая адстойваць свае правы як правы грамадзянкі, каб мець гэтую культуру. Калі я не буду адстойваць гэтыя правы, то мне ніхто іх не дасць.

## Пра боль з уласных ланцугоў

Неяк я стаяла на Пушкінскай у чарговым ланцугу, трымала вялікі плакат з жудаснымі выявамі збітых — гэта было ў другой палове жніўня, бліжэй да верасня. Я зразумела, што я стаю тут як слуп, які трымае плакат, — забыла, што жывы чалавек, і аддала сябе рэвалюцыі.

Мы забываемся на свае патрэбы, на сваё жыццё, на свае справы — усё толькі дзеля рэвалюцыі. Палітычнае, прапушчанае праз мой пачуццёвы ўзровень, — як спосаб загаіць раны, бо за гэтыя некалькі месяцаў было шмат болю. І вось пра гэта балючыя «жаночыя ланцугі салідарнасці».

Так балюча праз тое, што тады для мяне было немагчыма па-іншаму — трэба было стаць рукой, якая трымае кветку, стаць слупам, які трымае плакат пра гвалт, стаць сцягам, лозунгам, чыёйсьці надзеяй. Я ледзь не забылася, што я — гэта я.

Ва ўсім гэтым можна забыцца, што я па-ранейшаму жывы чалавек, у якога яшчэ ёсць асабістыя патрэбы і пачуцці. Для мяне творчасць — як спосаб памятаць, што я жывая. Страціўшы сябе, я не дапамагу нікому. І рэвалюцыі таксама не дапамагу: у тым жа і фішка, каб заставацца жывымі людзьмі.

34mag.net

## Хутчэй бы ўсё гэта скончылася

*ноч на аўтадазвоне*
*гудкі — як дручкі,*
*гумовыя кулі*
*усе на аднаго*
*130, 131 — працяжны,*
*як да ранку тварам у бетон*
*як непрытомнасць, з якой вырывае*
*новы ўдар*
*як трое сутак без ежы*

*няма адказу на ўсе нашы*
*белыя кветкі*
*чырвоныя сэрцы*

*чалавечае цела і памяць*
*вытрымліваюць траўмы,*
*несумяшчальныя з верай у лепшае*
*пераймяноўваем колеры на*
*«страх», «трывогу», «жалобу»*
*«супрацiў», «чаканне», «надзею»*

*калі ўсё гэта скончыцца*
*я дапамагу табе фарбаваць*
*гэтыя голыя сцены*

*белы*
*чыровны*
*белы*

***

*выратавальны круг лета*
*быў бракаваны*
*Кацярына Макарэвіч*

*у гарадскіх калюжынах вучыцца плаваць —*
*інакш не выплысці,*
*калі пачнецца восень з яе залевамі.*

*мяхі пяску на барыкадах лета*
*рыхтуюцца змыць вадамётамі.*
*праколаты выратавальны круг,*
*але і ў вадамётаў праколатыя колы...*

## Жаночыя ланцугі салідарнасці

*уздоўж дарогі ні кветак, ні слёз*
*толькі звон стаіць увушшу*
*я хачу быць зноў целам сваім*

*не чырвоным, не белым, не чорным*




Фота www.moyby.com

*не рукамі, што трымаюць папрок*
*а басаног па траве*

*надзяваю напарстак*
*і лашчу твае валасы*
*калі я так з пальцамі,*
*уяві маё сэрца*

*жывая жанчына*
*не штандар*
*не надзея*

*хачу вярнуць сабе*
*голас і цела*

*можа быць, я ніколі так моцна*
*гэтага не хацела*

## У нашай камеры

*на чацвярох*
*усё агульнае:*
*вадкае белае*
*ліпкае охравае святло*
*рыпенне ложка*
*холад, скручаны абаранкам*
*сонца за густым шклом*
*чыстае паветра са шчыліны ў акне*
*грукат вольных цягнікоў*
*бразгат дзвярэй*
*перастукванне праз сцены*
*цёплая вада ў душы*
*дэзадарант*
*газета сканвордаў*
*голас, які чытае кнігу*
*згушчаны час*
*просьбы*
*праклёны*
*камшары*
*чаканне*
*і адно на ўсіх*
*«Калі я выйду на волю...»*

## Неабароненая

**Стэла**

*за дымам*
*святлошумавых*
*гранат*
*не бачым,*
*куды нам бегчы*
*куды ні бяжы*
*мінулае насоўваецца*
*са шчытамі*
*на нашы сцягі*

**Заслаўская**

*дваццаць шэсць гадоў*
*барыкадамі выбудаваліся*
*паміж мной і табой*
*можаш цкаваць мяне сваімі псамі*
*я не баюся*
*ты — пожыў для груганоў*

**Няміга**

*калі вы кідаецеся на нас*
*дручкамі і вадамётамі,*
*што мне рабіць —*
*маліць вас спыніцца*
*альбо ўцякаць?*

*даволі! хопіць!*

**Пушкінская**

*вы засыпалі соллю*
*нашае «не забудзем!»*
*але гэта соль з нашых слёз*
*яна апячэ вам вочы*
*ад яе ў вас адсохнуць рукі*
*а мы ўсё адно не забудзем*
*нас мільёны*
*і ўсе мы прыносім кветкі*

**Рыга**

*мы разабралі на брусочкі*
*ваш тэрор*
*збудуем сабе новую дарогу*
*ты ганяеш*
*машыну вайны*
*па калдобінах*

**Плошча Незалежнасці**

*вы скралі мой голас*
*аддайце мой голас!*
*я буду прыходзіць штодня,*
*пакуль не пачую яго зноў*

*ад рэха маіх крокаў*
*раструшчацца вашыя*
*бетонныя сцены*
*ад папроку ў маіх вачах*
*разаб'юцца шыбы*
*вашых пустых вокнаў*

# Пацеркі памяці

Паліна КАЧАТКОВА


Фота Антона Грыга

## Анатоль Сыс

1 лістапада 1987 года ў Менску адзначалі дзень ушанавання продкаў — Дзяды.

Гэта былі першыя грамадскія Дзяды, наступную акцыю 1988 года будуць разганяць дубінкамі, а ўдзельнікаў затрымліваць, судзіць, штрафаваць. 1 лістапада 1987 года прайшло мірна.

Вельмі сонечны дзень з яшчэ ярка-зялёнай травой. У скверы Янкі Купалы чыталі вершы і гаварылі пра папярэднікаў, пра дзеячоў нацыянальнай культуры, якія загінулі.

Было шмат выступаў: Кастусь Тарасаў, Ігар Бабкоў, Кася Камоцкая (спявала), Алесь Бадак, Міхась Скобла (чыталі вершы). Анатоль Сыс не толькі прачытаў вершы, але зачытаў спіс расстраляных і рэпрэсаваных дзеячоў культуры. Пранікнёным голасам Сыс прамаўляў з асаблівым значэннем кожнае прозвішча, для ўсіх знаходзіў асобную інтанацыю.

Гэты спіс у гукавым запісе яшчэ доўга «хадзіў па руках». Памятаю, як яго слухалі з магнітафона ў падвале гомельскай «Талакі». У той дзень у скверы было шмат нацыянальна-арыентаванай творчай моладзі, студэнтаў, навукоўцаў, журналістаў.

У кастрычніку 2020 года паэт і журналіст Мікола Кананович згадаў, што завяршыўся выступ уцёкамі Анатоля ад гэб'я:

«Помню Сыса там. Потым Анатолю прыйшлося ўцякаць ад гэб'я. Уцёк тады. Анатоль дачытаў спіс і стаў сыходзіць. І адразу да яго кінуліся двое, Сыс пабег. Тыя за ім, але дзе там ты яго догоніш! Выступоўцаў было шмат, але беглі тады толькі за Сысом. Мне гэта вельмі ўелася ў памяць. Пачытаў чалавек, вельмі выразна, эмацыйна спіс рэпрасаваных, і... за ім пагналіся. Пабег углыб сквера і вельмі хутка. У тых дваіх не было шанцаў ніякіх дагнаць. Ды яны і не стараліся. Гэта было напрыканцы імпрэзы. Сыс апошнім зачытваў спіс».

***

У лютым 1995 года ў Мінск прыехаў Барыс Ельцын з жонкай Наінай. Ельцын сустракаўся з Лукашэнкам, Лукашэнка абяцаў яму «языковой референдум», а нам у музей Максіма Багдановіча патэлефанавалі і сказалі, што Наіна Ельцына прыйдзе да нас на экскурсію. Назвалі дзень і час.

Сітуацыя была дзіўная: з аднаго боку, высокая госця, а з другога — быццам бы ў працэсах «аб'яднання» трэба прымаць удзел.

Вайна ў Чачні ідзе...

Нехта нават пажартаваў у музеі: вывесім з балкона чачэнскі сцяг. Але не вывесілі.

У той час у бальніцы № 2 ляжаў Анатоль Сыс. У вольны ад працэдур час ён хадзіў у музей — то кнігі браў пачытаць з бібліятэкі, то проста на абед. А сітуацыя такая: ніхто не хоча весці экскурсію для Наіны Ельцынай. Для правядзення экскурсіі былі патрэбныя двое — экскурсавод і дублёрка (не раўнуючы, як для палёту ў космас). Але так выйшла, што меркаваная дублёрка якраз прыйшла ў музей пасля сваркі з мужам, і выгляд у яе быў... не вельмі. Засталася толькі адна супрацоўніца, якая вельмі нервавалася.

І тут Сыс прыйшоў. У напаўбальнічным адзенні ён павёў прыгожа апранутую загадчыцу экскурсійна-масавага аддзела ў пачатак экспазіцыі і пачаў угаворваць, што, маўляў, няма нічога страшнага: «Вось, глядзі!».

Ён сам стаў на месца, адкуль пачыналася экскурсія, і добра пастаўленым голасам вучыў: «Становишся сюды і кажаш: «Много у нас в музее бывает гостей, но такие бывают не часто».

Было такое ўражанне, што яшчэ крыху — і экскурсію для Наіны павядзе Сыс у бальнічным адзенні...

А Наіна Ельцына не прыйшла. Ператэлефанавалі на касу і сказалі, што адбыліся змены ў яе праграме.

***

Вясной 1997 года паэт Анатоль Сыс перадаў у Літаратурны музей Максіма Багдановіча вялікае парцалянавае блюда XIX стагоддзя.

Менавіта перадаў, а не прадаў. Анатоль Сыс сквапным не быў.

У тым жа 1997 годзе адбылася ў музеі Максіма Багдановіча паэтычная вечарына Сыса. А тады ўжо не надта ахвотна такія ладзілі, бо ён быў непрадказальны.

Прынёс Сыс у музей блюда. Белае, пашарпанае, з пяшчотнымі кветкамі ў аблямоўцы.

Супрацоўнікі музея разглядвалі блюда на першым паверсе ў навукова-экспазіцыйным аддзеле.

Узяла яго ў рукі Люда Жалязняк, музейная сакратарка, якая цяпер у Беластоку жыве. Анатоль Сыс паглядзеў на Люду і сказаў: «Людаблюда»...

У красавіку 2010-га, калі з Міколам Ваўранюком рабілі фільм «Сыс пра Сыса» з удзелам Сяргея Сыса, вельмі ўразілі школьныя сшыткі Анатоля Сыса. У хаце ў Гарошкаве іх паказала Тамара — сястра. Такія ахайныя сшыткі — з роўнымі палямі каралавага колеру, з роўным почыркам, з падкрэсліваннем каляровымі стрыжнямі, з роўнымі абзацамі, без перакрэсліванняў — як на выставу. І ўсе, усе сшыткі такія...

## Кастусь Тарасаў

Творы Кастуся Тарасава — жывы свет, у які трапляеш і пачынаеш у ім жыць. Верыш ва ўсё і адчуваеш усё, як у рэальным часе. Нават калі гэта часы Міндоўга ці іншы далёкі час. І сам Кастусь Тарасаў быў падобны да сярэднявечнага рыцара.

У 2005 годзе Кастусь Тарасаў пісаў аповесць «Скарбы князёў Радзівілаў, альбо обер-аўдытарская праверка ў Нясвіжы». Для дакладнасці дэталяў выязджаў у мясціны, дзе адбывалася дзеянне, у Талачынскі раён, дзе жыў герой. Для ўдакладнення дэталяў Кастусь Тарасаў даваў мне чытаць аповесць у камп'ютарным наборы. Тэкст захапіў мяне. У красавіку 2006 года мы дамовіліся на вялікае інтэрв'ю пра гістарычную прозу. На той час Кастусь Тарасаў працаваў у памяшканні Таварыства беларускай мовы на вуліцы Румянцава ў Менску. Калі я прыйшла на ТБМ, у вялікім пакоі адбывалася культурніцкая імпрэза, у сярэднім працавалі Алег Трусаў і Ірына Марачкіна (жонка мастака Алеся Марачкіна), а Кастусь Тарасаў быў у самым маленькім пакоі з вокнамі ў двор; ён сядзеў за кампутарам, вадзіў «мышкай» па паверхні стала, але маўчаў, не адказваў на пытанні. І я спачатку падумала, што выклікала гнеў спазненнем на 15 хвілінаў, але потым зразумела, што нешта іншае адбываецца. Паклікала Ірыну Марачкіну, яна патэлефанавала ў «хуткую». Інсульт...

Бальніца «Хуткай дапамогі». Адтуль патэлефанавала дачцэ Ганне ў Маскву. Лячэнне, рэабілітацыя.

Да самых апошніх дзён Кастусь Тарасаў працягваў пісаць тэксты пра нацыянальную ідэю, пра гісторыю Беларусі, супрацоўнічаў з незалежнымі СМІ. Тэкст «Эрзац» быў прысвечаны прэзідэнцкім выбарам 2010 года для сайта «Euramost.org» (цяпер не існуе), у ім Кастусь Тарасаў пісаў: «Нацыянальная ідэя будзе безгаловай без беларускай мовы, без школ і інстытутаў, у якіх бы вучылі па-беларуску. З вяртаннем да рускай мовы мы сталі ў апошні шэраг за Расеяй, і гэта не дае нам магчымасці паглядзець наперад».

Адзін з апошніх тэкстаў Кастуся Тарасава быў пра людзей, якія пасля інсульта вярнуліся да беларускай мовы, якая была роднай, і цалкам забылі рускую.

Апошні ліст ад Кастуся Тарасава я атрымала 19 сакавіка 2010 года ў 20.16: «Паліна! Сёння ў мяне не выходзіць перадаць файл. Перадам заўтра. К.». «Заўтра» было 20 сакавіка, якое пазначана днём ягонай смерці.

## Сяржук Вітушка

З Сержуком Вітушкам мы пазнаёміліся летам 1986 года на раскопках Дамініканскага касцёла ў Менску.

У цэнтры горада на рагу Інтэрнацыянальнай і Энгельса, за плотам будоўлі Палаца рэспублікі, археолагі даследвалі падмуркі касцёла XVII стагоддзя. Я ўладкавалася ў архітэктурна-археалагічны атрад «Верхні горад» у чэрвені 1986-га і працавала штодня, а па суботах з'яўляліся талакоўцы на чале з Сержуком Вітушкам. Кіраваў раскопкамі Зянон Пазняк — на той час супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР.

Раскоп у цэнтры Менска быў як партал у іншы час — праз друз і разбітую цэглу мы заглыбляліся ў мінуўшчыну, знаходзілі рэшткі папярэдняй цывілізацыі. Фрагменты паліхромнай кафлі з выявай ці то цмока, ці то Пагоні...

Мы дакапалі да пахаванняў у сутарэннях, дзе ляжалі былыя жыхары горада. Блакітныя пацеркі былі ў адной са спарахнелых трунаў. І на гэтай мяжы часоў і эпох — Сяржук Вітушка, светлы чалавек быццам бы не з нашага (тады XX стагоддзя). Шмат хто казаў: «Падобны да Максіма Багдановіча».

А ў 1991 годзе Сяржук Вітушка па запрашэнні Алеся Бяляцкага прыйшоў на працу ў філію Літаратурнага музея Максіма Багдановіча — у «Беларускую хатку» на Рабкораўскім завулку.

Экспазіцыя «Беларускай хаткі» была прысвечаная шасці месяцам жыцця Максіма Багдановіча ў Менску, прыфрантавым у 1916–1917 гадах — кароткая сустрэча з Беларуссю, праца на яе карысць і провады ў Ялту насустрач смерці.

Быў у «Беларускай хатцы» і мемарыяльны пакой Максіма Багдановіча, адноўлены па ўспамінах Зоські Верас, якая мела ўнікальную памяць. У доме, дзе Максім Багдановіч напісаў верш «Пагоня», рабілася ўсё, каб перадаць атмасферу 1916–1917 гадоў, — нават шпалеры па старым узоры надрукавалі на фабрыцы. У філіі музея дзейў лялечны тэатр «Батлейка», як напамін пра мару Максіма Багдановіча ўдзельнічаць у батлейкавым спектаклі і вандраваць з ім па Беларусі.

Мара Максіма Багдановіча не здзейснілася. А ў «Беларускай хатцы» да ад'езда ў Вільню ладзіў батлеечныя спектаклі Сяржук Вітушка.

І зноў — між часу — адноўлены дом пачатку XX стагоддзя, батлейка, Сяржук, падобны да Максіма Багдановіча. Пераступіш праз музейны парог — і не разумееш, у якім ты часе. У «Беларускай хатцы» зладзіў Сяржук і вяселле з віленскай беларускай Людвікай Кардзіс...

У 2008 годзе ў Вільні ў Доме правоў чалавека па ідэі Сяргея Дубаўца я дапамагала Сержуку разбіраць яго архіў. Сяржук ужо не бачыў, хвароба адняла зрок. Мы сядзелі на другім паверсе на Латака, 3 у Вільні перад скрынямі, з якіх я даставала тэксты і фотаздымкі.

Тэксты зачытвала, фотаздымкі апісвала, а Сяржук аднаўляў у памяці: што гэта. «Дзіўна, — сказаў тады Сяржук Вітушка, — я гісторык па адукацыі, нас вучылі архівазнаўству. Чаму я адразу не парадкаваў свой архіў?» Але ўпарадкаванне і асэнсаванне ўласных архіваў — справа не маладосці, на гэта ёсць сталы ўзрост, да якога Сяржук Вітушка не дажыў.

## Якаў Гутман

У ліпені 2020 года даведалася, што памёр Якаў Гутман — Кіраўнік Сусветнага згуртавання беларускіх габрэяў, з якім разам былі затрыманыя 25 сакавіка 2000 года.

Я толькі што прыехала са Швецыі, на акцыі мы дамовіліся сустрэцца з сяброўкай, а пасля ехаць да яе ў госці. З сабой у мяне былі падарункі.

На акцыі мы не сустрэліся. На вуліцах былі вайсковыя БТРы. Ратвейлеры. Людзей масава хапалі і валаклі. А мы хадзілі, як зачараваныя, сярод усяго гэтага, магчыма, таму, што збіраліся ў госці і апрануліся па-святочнаму. Але прыхапілі...

У аўтазаку было 11 чалавек, супрацоўнікі міліцыі і сабака. Быў адзін чалавек, жонка, якога гандлявала бананамі, паслала яго размяняць грошы, — а яго забралі. Яна пабегла за ім — яе таксама забралі.

Мы не маглі зразумець, куды нас вязуць — не Акрэсціна, не РАУС ніякі, не Валадарка. Адзін чалавек з затрыманых у аўтазаку рваў на кавалкі ўлёткі і прасіў, каб яму дапамагалі.

Ніхто не дапамагаў.

Прывезлі нас у вайсковую частку на Маякоўскага, дзе ўжо быў цалкам забіты людзьмі ангар. Нас выгрузілі каля сцяны ангара, дзе ўжо стаялі людзі, у асноўным журналісты, сярод іх чэшскія і польскія.

Нам сказалі стаць — рукі на сцяну, ногі на шырыні плячэй. Была там і Таня Снітко (Ждановіч). Тут я выпендрылася — сказала, што не буду так стаяць, як загадана, нават закурыла цыгарэту. Стала тварам да салдат унутраных войскаў. Нічога мне за гэта не было.

Мы доўга стаялі, пасля прыехаў прэс-сакратар МУС і вызваліў журналістаў. Я не пайшла. З ангара пачалі выводзіць людзей, браць у іх адбіткі пальцаў і шыхтаваць у калону, як у фільмах пра палонных.

А пасля заехаў чарговы аўтазак з Любай Лунёвай у белым паліто; ёй нешта крычалі затрыманыя, і яна адказвала. Салдаты, якія стаялі ў ачапленні, былі ўжо стомленыя, найперш ад аднастайнасці, — яны пачалі глядзець на Любу.

У гэты момант мы (4 чалавекі) выскачылі з ачаплення каля ангара і далучыліся да той калоны. Нас пагналі да брамы. Так мы пакінулі тэрыторыю вайсковай часткі. Сярод тых, хто збег, быў і Якаў Гутман — кіраўнік Сусветнай асацыяцыі беларускіх яўрэяў.

# Рэвалюцыя белых лілеяў



Альжбета КЕДА

## Дзеля маіх дзяцей

— Дачушка, паслухай мяне, не ідзі нікуды! Што ты можаш змяніць? Што вы ўсе можаце змяніць? Ужо каторую нядзелю ходзіце, а нічога не мяняецца. А ўжо ж ловяць, б'юць. Не дай Божа, і цябе схопяць! Не ідзі, дачушка! — яна адчайна просіць сваю дачку не выходзіць на маршы. Яна антанёўка, у маладосці з'ехала ў Мінск. Даўно ўжо мінчанка. Але калі трэба дайсці да душы свае адзінае дачкі, заўсёды вяртаецца ў Антанёва, шукае там і знаходзіць прыклады, як жыць, чаму можна адно і нельга другое. Дачка звычайна слухаецца. Ці мо робіць выгляд, што слухаецца, каб не пярэчыць маці, якую вельмі любіць, шануе. Даўно ўжо дарослая, сваіх дзетак гадуе, але маці для яе і зараз застаецца аўтарытэтам.

— Паслухай мяне, дачушка, паслухай, што было з намі ў Антанёве, з тваім дзядулем. Расказвала табе неадноййчы, як душыліся антанёўцы цэлае лета, каб сена на карову накасіць. Сенакосаў не было. Па лесе, па балотах касілі, выносілі, сушылі. Дзялкі, праўда, давалі. Але вельмі мала, нават на адну карову не хопіць. А мы ж заўсёды дзве трымалі. Ды і давалі так позна, што гаспадары дачакацца не маглі. А яшчэ мусілі абяцаць, што цяля, цэлае лета гадуючы, у калгас здадуць. Абкручвалі бедных калгаснікаў. Якая там плата за цяля выходзіла? Ды і выплочвалі не адразу. Пакуль дачакаешся грошаў, то ўжо і наступны раз карова ацеліцца. Каб самі прадавалі, то ці не ў два разы больш мелі б. За гэта тая няшчасная дзялка сена.

Бацька не мог чакаць. Кожную ранічку ўсхопліваўся зацемна, ішоў у лес і касіў, нагледзеўшы раней траву. А тады вяртаўся да ішоў на працу ў калгас. Да вечара. А мама наша, цэлы дзень на ферме адрабіўшы, вечарам, пасля дойкі, бегла ў лес з рэзгінамі і цягнула на сабе сена, каб сушыць каля хаты. Некалькі разоў абярнуцца павінна была, каб усю сырую траву прынесці. Апошні раз ужо сцямнее, бывала, калі ледзьве прыцягнецца з цяжарам на плячах. Усе плечукі былі ў яе на ямах ад тых цяжкіх рэзгінаў.

Сушыць сена мы, дзеці, павінны былі.

— Сена сохне на граблях! — любіў прыгаворваць тата.

Ніякіх адпачынкаў не было. Варочаеш сена, дойдзеш да канца, ізноў пераходзіш, ізноў варочаеш. І так цэлы дзень. А вечарам, як высахне, у адрынку трэба было знесці.

Ужо і лета на другую палову пайшло. І адрынка амаль поўная. Толькі сена з дзялкі заставалася. Ды раптам з'яўляюцца на нашым двары кіраўнікі калгасныя і накідваюцца на бацьку:

— Як ты пасмеў без дазволу касіць?! Лес дзяржаўны. Ты злодзей! Канфіскоўваем сена!

Бацька збялеў. Падавалася, зараз рухне там, дзе стаяў. Але ні слова не вымавіў. Усе мы выйшлі з хаты і таксама моўчкі глядзелі, як чужыя людзі гаспадараць на нашым двары.

Падагналі падводы, пачалі грузіць наша сена. Усё падчысцілі...

Калі падводы з'ехалі, мы, тады старшакласнікі, накінуліся на бацьку:

— Чаму ты маўчаў? Чаму не кінуўся на іх? Ідзі і падпалі гумно! Гэта ж наша сена, наша праца!

Бацька ціха прамовіў:

— Хочаце, каб мяне на Салаўках згнаілі?

Мама пачала гаварыць, што ў іх сіла, у іх усё. І нічога мы не зможам. Загналі ў калгас, усё забралі. І мы мусім маўчаць. І не вытрымала, запрычытала:

— Мы мусім маўчаць, дзеці! Да смерці маўчаць. Да самае смерці. Хай жа ім адгукнецца! Хай яны не дачакаюць! Хай іх зямля не прымае!

Гэта быў страшны ўрок. На ўсё жыццё.

Мы мусім маўчаць, дачушка! Я з гэтым жыццё пражыла, бацькі мае пражылі. Хіба на гэтай зямлі ніколі іначай не будзе. А ты ж не захацела з'ехаць. То скарыся. Яны не даруюць. Не ідзі!

Дачка паслухмяна слухала. Не перабівала, як заўсёды. Але адказала цвёрда:

— Не, мама, я пайду. Так не павінна быць. Пайду. Дзеля маіх дзяцей.



Фота www.belsat.eu

## Рэвалюцыя белых лілеяў

Калі яны сталі пры дарогах на вуліцах гарадоў, сэрцы людзей, што зайшліся ад болю, жаху, безнадзейнасці, адчаю, пачалі ажываць. На вуснах расквітнелі ўсмешкі. Белыя строі, часам перацягнутыя чырвонымі пасачкамі, белыя кветкі, балонікі. Нашы белыя лілеі расквітнелі і далі надзею. Гэта разнеслася па ўсёй краіне. Ужо не толькі гарады, мястэчкі, але і невялікія вёскі расквітнелі белаю пяшчотаю... Але не пра гэта.

На плошчах радасць ажно зашкальвае. Разам, смелыя, за плячыма рабочых, якіх нашы пляцы не бачылі многа дзесяцігоддзяў. Выйшаў яго вялікасць рабочы клас. Але хто і куды завядзе яго? Ці недарэмны гэты парыў? Ці будзе прарыў? Бо нічога пакуль не змянілася. Але і не пра гэта.

Жудасны вір пакутаў, якія вынеслі дзеці нашай краіны, не адпускае, зацягвае. Страшныя аповеды тых, хто выйшаў жывым з катавальняў, вочы прыгожых, маладзенькіх глядзяць з партрэтаў дакорам, і ўсюды — прапаў, памажыце!.. Колькі іх, зніклых? Нават гэтага дакладна ніхто не ведае. Пра гэта немагчыма не думаць. Пра гэта немагчыма думаць. Бо пачынаеш вар'яцець. І таму не пра гэта.

Каб урэшце пра тое, выберу з усіх трагічных гісторый — пра хлопца дэсантніка. Ён, апрануты ў свае святочныя строі, ехаў на сустрэчу з сябрамі. У дзень ПДВ сабрацца не змаглі. Перанеслі на адзінаццатага жніўня. Над машынай лунаў сцяг ПДВ. І калі на люднай дарозе яго прыпыніў даішнік, хлопец прыпыніўся, гатовы да штрафу, бо ж парушыў, сцяг вывесіў. Законапаслухмянасць у крыві беларусаў. Але тут здарылася нешта неверагоднае. Неверагоднае ўсюды ў цывізаваных краінах. Наша краіна такой не была. На яго наляцела цэлая зграя чорных у чорным. Паспеў заблакаваць вокны машыны. Ды тое выратавала яго ненадоўга. Вокны разбітыя, кіроўца на асфальце, яго па-зверску збіваюць дручкамі. З д'ябальскаю асалодаю садыстаў. Адкуль ведаю? Нехта ў гэты час едзе ў аўтобусе і ўсё гэта здымае на камеру тэлефона. Відэа ў інтэрнэце.

Хлопцу пашанцавала: яму разбілі галаву, і крош, хлынуўшы, заліла ўсяго. Звяры ў чалавечым обліку апусцілі дручкі. Напіліся свежае крыві. Інакш, ён пэўны, забілі б насмерць.

Урэшце пра галоўнае. Столькі высокіх словаў пра салідарнасць, дапамогу! Ёсць гэта. Усё гэта ёсць. Але! Калі чалавека збівалі (белы дзень, людная дарога, імчацца машыны), ніхто не прытармазіў, ніхто не прыпыніўся, ніхто не дапамог. Праляцелі дзясяткі аўтамабіляў. А за рулём кожнага здаровы чалавек. Ды яшчэ і ў салоне не адзін. Ні ва Украіне, ні ў Грузіі, ні ў Прыбалтыцы і ні ў Расіі, мяркую, такога б не здарылася. Усе бачылі і ніхто не дапамог. Ніхто.

Яшчэ чаму выбрала менавіта гэтую гісторыю? Чалавек, які перажыў такі жах, не згубіў пачуцця гумару. Апавядае пра гэта і... жартуе. Гэты мужны хлопец выжыве. Баюся толькі, што не дачакаецца ён справядлівага суда над забойцамі. А яшчэ больш баюся, што дзясяткі зніклых ці знойдуцца?

Белыя лілеі вельмі кволыя. Хутка адцвітаюць...

## Праведніца

Яблычны Спас. Царква. Пасля службы падбягае маладзічка. Цененькая, спраўненькая, светленькая. А яшчэ — у белым. Заглядвае ў вочы:

— Вы не пазнаяце мяне?

— ?

— Я сябравала з Вашаю дачкою.

Рассмяшыла. З тае пары мінула амаль трыццаць гадоў. Была калісьці ў дачушкі сяброўка. У першым класе. Глядзела на яе і згадвала тыя далёкія часы. Яна не змаўкала ні на хвіліну. Я слухала. Мая светлая радасць змянялася трывогаю, страхам.

— Учора я працавала дапазна, да цямнэчы. Дахаты прыйшла, калі мае ўжо спалі. Усё ўчора зрабіла, каб вызваліць сённяшні дзень, каб сёння, на Спаса, трапіць у царкву. Веру, што самая магутная зброя — малітва. Падала здравіцу за ягонае здароўе. Ні за дзяцей маіх, ні за бацькоў, ні за сябе з мужам. Адно толькі слова за здароўе — Аляксандра. Ведаю, што ён не чалавек, але ж у яго была душа. Малілася, як магла, усёю душою малілася, каб у душу яго ўлілася хоць кропля чалавечнасці. Я за праўду, за справядлівасць. Я ўсім расказваю, на працы, суседзям, што адбываецца. У мяне няма інтэрнэту, але ёсць талерка, гляджу Белсат. Калі быў адключаны інтэрнэт, мы цэлую ноч глядзелі «Белсат». Каго ні сустрэну, усім расказваю. Яны кажуць, што такога не можа быць. Але ж людзі мяне ведаюць. Ведаюць, што я ніколі не маню. І такія ёсць, што крычаць, злуюцца, бо па тэлевізары казалі... Ці мне страшна? Мне вельмі страшна. Часта хаджу позна, адна. Ведаю, што са мною можа быць. Як з дырэктарам музея з Ваўкавыска. Ведаю, што па мяне могуць прыйсці тады, калі ніхто і не ўгледзіць. Але я буду гаварыць, бо я ведаю праўду...

Глядзела ў яе чыстыя, светлыя вочы, адкрыты, прасветлены твар і думала: «У Рэвалюцыі Белых Лілеяў такія твары, такія вочы. Трымайся, дарагая Белая Лілея!»

А яшчэ думала: «Вось яна — Праведніца...»

Божанька, беражы сваіх Праведнікаў!

# Агонія дзяржавы

## З будучай кнігі вершаў «Левіяфан-2020»



Паша ЛЮБЕЦКІ

### Ешуа

*Ешуа, ну ты ўляпаўся!*
*ты ж проста прарок ды філосаф,*
*апалітычны малы!*
*а тут у цябе сэксот сярод вучняў,*
*а Пілат шые табе экстрэмізм:*
*хочуць даць найвышэйшую меру.*
*ты добра трымаўся на допыце,*
*не адмаўляю!*
*і ты, не забывайся, — габрэй,*
*таму патэнцыйна сам сабе*
*някепскі адвакат.*
*але табе нават памілавання*
*не дадуць:*
*ты ж палітвязень,*
*а тыя проста блатныя.*
*не, я разумею, што насамрэч*
*усё гэта — план твайго Айца,*
*а ў Яго на ўсё ёсць прычыны.*
*вось толькі фінал абяцае быць*
*настолькі брудным,*
*што я баюся, некаторыя з нашчадкаў*
*будуць думаць:*
*менавіта ў гэтым сутнасць*
*твайго вучэння*
*паспрабуй выжыць, Га-Ноцры.*
*так будзе больш веры,*
*што твая жыццёвая філасофія*
*сапраўды жыццяздольная.*
*паспрабуй выжыць.*

### ваенным злачынцам

*стаміўся ад таго, што ў тваім*
*спісе спраў столькі пунктаў?*
*нарэшце ў цябе просты расклад:*
*ваенны трыбунал,*
*расстрэл.*
*а потым чакай Канца Свету,*
*яшчэ горшага, чым стварыў ты,*
*ў следчым ізалятары ў пекле.*
*і вось, нарэшце, апошні суд — Страшэнны,*
*але ж ты і д'ябла з Ісусам*
*паспрабуеш кінуць.*

### абсалютна сакрэтна

*Бог дае анёльчыкам тэчачку*
*з грыфам «абсалютна сакрэтна»,*
*кажа, што занепакоены*
*нават вернасцю святых.*
*яны ж хвалюцца: а раптам у д'ябла*
*свае людзі нават у раі?*
*ці кампрамат на кагосьці з гэтых святых*
*ды рычагі ўздзеяння нават на Бога?*
*а хтосьці мае столькі ўлады,*
*што фабрыкуе крымінальныя справы*
*для Божага Суда.*
*хто? д'ябал іх ведае!*
*ён дык болей за ўсіх інфармаваны.*
*але тым больш хочацца хоць крыху*
*пажыць*
*паводле сумлення,*
*нават калі цвёрда ўпэўнены,*
*што цябе ўсе падставяць*
*нават у Дзень Судны.*

### агонія дзяржавы

*«калі прасталыткі найвышэйшага класу*
*будуць гандляваць лёсамі іншых,*
*іх будучыняй*
*(якая была б куды лепшай без іх),*
*тым, што ім не належыць», —*
*менавіта такі апакаліпсіс і павінна была*
*прадказаць Ванга?*
*мо ёй і злівалі сакрэтную інфармацыю*
*найвышэйшыя сілы,*
*але гэтыя людзі і іх кіданулі.*

### цярплівы пацярпелы

*хоць вы й ведзяце мяне на смерць,*
*для супрацiўлення вам*
*мне трэба будзе рызыкаваць жыццём,*
*а я занадта за яго баюся.*

### карма рэвалюцыянера

*у некаторых рэвалюцыянераў, кажуць,*
*не вельмі добрая карма.*
*нават калі яны гінуць на барыкадах,*
*яны зноў нараджаюцца*
*ў таталітарных дзяржавах.*
*а некаторыя застаюцца ў жывых,*
*але трапляюць у новы таталітарызм*
*на наступны дзень пасля рэвалюцыі.*
*і ўсе адмаўляюць гэта —*
*робячы выгляд, што за гэта*
*яны й змагаліся.*

### інфарматар

*чаму столькі ўвагі атрымаў*
*біблейскі Юда?*
*ён быў звычайным інфарматарам*
*у апазіцыйным да гвалту руху.*
*колькі такіх у наш час?*

### пацыфізм-танка

*пацыфізм — гэта*
*танка ў якой*
*браня і гусеніцы*
*пераўтвараюцца*
*ў гальштукі-матылі*

### ілжэмесія-шлімазл

***аб падманутых спадзяваннях на цуд***

*чакалі прарока*
*чакалі месію*
*дарма выдаткоўвалі*
*царкоўны алей*
*у хістаннях штокроку*
*сляпы і бяссільны*
*не ведае нават*
*што будзе далей!*
*ілжэ-Машыях наш*
*(страшэнны шлімазл!)*
*прымусіў паверыць*
*што ён мае дар*
*знайсці цяпер выйсце*
*яшчэ горшы пазл*
*як можна тут верыць*
*у розных няздар?*

### шэры кардынал

*шэры кардынал*
*заклінальнік шэрых будзен*
*шэры кардынал*
*які праводзіць час за кулісамі*
*шэры кардынал*
*які не грэбуе і месцам*
*у глядзельнай залі*
*шэры кардынал які назірае*
*як яго марыянеткі прагнуць славы*
*заключаюць пагадненні*
*і абвяшчаюць войны*
*вераць што іх перамогі і праўда*
*і праўда іх перамогі і праўда*
*смуткуюць баяцца смерці ваююць*
*за як яны лічаць свае інтарэсы*
*не разумеючы што ёсць толькі*
*інтарэсы спектаклю*
*а людзі гэта ўсяго рэсурс*
*у руках драматурга*
*якому абрыдла выхваляцца ўладай*
*перад кожным стрэчным*
*і ён пакідае гэтую нікчэмную забаву*
*марыянеткам*
*яго ўлады так шмат*
*толькі пакуль ён застаецца ў цэню*
*а плата за яе складаецца ў разуменні*
*што ён і сам усяго толькі рэсурс*
*у руках гаспадара*
*які даўно ўжо навісае над ім*
*і рыхтуецца выставіць рахунак*
*за яго высахлую*
*пакрытую шнарамі і каростай*
*душонку*

### паэзія

*паэзія — гэта ахвяра і подзвіг*
*дзякуй богу, тое, што я пішу —*
*не паэзія,*
*а так, звычайны душэўны эксгібіцыянізм.*
*паэзія — гэта як лёгкі подых,*
*ці амерыканскія горкі, што*
*хутка нясуць цябе ўніз.*
*паэзія — манашка голая*
*з наколкай на спіне,*
*ці маўклівы інтэлігент,*
*якога замучыў штодзённы быт.*
*удзень ён жыве ў рытме разам з усімі,*
*каб ноччу прачнуцца — у халодным поце —*
*злавіўшы свой рытм.*
*паэзія ніколі не трывае халтуры*
*ці фальшу, стракатасці ў вонкавасці.*
*глыбіня для яе — другая натура,*
*і гэтых натураў — бясконцасць.*
*паэзія — гэта несупынныя гонкі,*
*у якіх ты ніколі не прыйдзеш*
*да фінішу.*
*яна ўнутры, хоць ўвесь час лезе вонкі.*
*шэпт ветру,*
*пах яблыкаў,*
*плыні шум.*

*раптам падхоплены плынню словаў*
*ты можаш выказаць невыказнае*
*па-за шаблонамі, па-за ўмовамі*
*а заўсёды тут і заўсёды па-за.*

**Публікацыя падрыхтаваная ў межах майстар-класу для аўтараў дэбютных кніг «Неба з сабою», прысвечанага 90-годдзю Уладзіміра Караткевіча**

# Сон дыктатара



Васіль ЖУКОВІЧ

Ён прачнуўся блакітнаю раніцай знянацку ад сексуальнае насалоды, якую фізічна адчуў, а не толькі зразумеў як факт снення...

Цяпер ён быў чалавек сталы, змяніў-збракаваў дзвюх жонак, ні адна з іх не нарадзіла яму сына. А ён вельмі хацеў, каб нарадзіўся сын, верагодны пераемнік яго неабмежаванае ўлады, бо каму яшчэ так, як роднаму сыну, даверыш пугу, каб паганяць і стрымліваць быдла (гэтак ён называў народ). Сын у яго ўсё ж з'явіўся. Пазашлюбны. Пасля законных дам узурпатар прызвычаіўся забаўляцца дзяўчатамі; спачатку іх лічыў, а потым з ліку збіўся. У спецыяльным міні-штодзённіку не пісаў імёны, ленаваўся, да таго ж яны часта паўтараліся; проста чарговы акт з новенькаю адзначаў на паперы крыжыкам, а з цнатлівую — клічнікам альбо проста палачкай. Паўторна былою наложніцай карыстаўся рэдка, выключна пад настрой, тады ў калонцы ставілася звычайная галачка. Канвеер жывога тавара рухаўся няспынна. Асабліва маральнае задавальненне атрымліваў правадыр ад маладзенькіх інтэлігентак-прыгажунь. Адорваў іх асабліва шчодра.

...Калісьці яму, яшчэ малому, казала маці: «Калі хочаш узгадаць, што снілася, не глядзі ў акно». Можа, у яе словах і была доля праўды. Але сасніў ён такое, што й памяць не трэба напружваць, каб узгадаць сон. Усё адбывалася на цэнтральным пляцы сталіцы, дзе звычайна з'яўляліся рознага кшталту відовішчы, праходзілі мітынгі і дзе нярэдка па яго камандзе паліцыя пралівала нявінную народную кроў. Цяпер сабраўся народ, каб адпомсціць яму, дыктатару. На яго рахунку былі сотні закатаваных смельчакоў, якія казалі праўду ў вочы. Ён жа праўду страшна не любіў, баяўся яе, як і самой смерці. І не дзіва, бо сам быў хлус: пра тых, каго патаемна начамі знішчаў, казаў, што іх бачылі ў замежжы, маўляў, там іх пашукайце... Але ж прасочвалася праўда і пра загубленых жыцці, і пра юных красунь.

І вось — час адплаты (так снілася): яму здрадзіла і войска, і паліцыя, да ўлады прыйшла апазіцыя. Яна й даверыла народу ўчыніць над ім суд. З натоўпу раз'ятраныя людзі выкрыквалі: «Вырваць язык!»; «Павесіць!»; «Вылякшаць!»; «Пасадзіць на кол!». І галоўны карнік, вышэйшы і лысейшы за яго, выгукнуў што ёсць моцы: «Хто за тое, каб дыктатара пасадзіць на кол, прашу падняць рукі!!». Падсудны бачыў: за такую кару была абсалютная бальшыня. У суцэльным лесе паднятых рук ён паспеў заўважыць, што адзін з даўніх сяброў, з якім калісьці разам хадзілі ў лазню, угору ўскінуў абедзьве рукі. «Мярзоцце!» — падумаў дыктатар. Тым часам галоўны карнік падаў знак памагатым — і тыя прывалаклі ўстаноўку з завостраным калом. Адзін з карнікаў лоўка абрэзаў гузікі на нагавіцах асуджанага, другі спрытна спусціў наніз нагавіцы, а галоўны карнік загадаў дыктатару сесці на кол. «Не горшы варыянт», — падумаў публічна асуджаны і дэманстратыўна смела падступіўся да кала. Ён так далікатна сядаў на кол, што зусім нечакана злавіў кайф...

Пасля таго, што здарылася раніцай, ён, не схільны філасофстваваць, не ламаў галаву над пытаннем, ці гэта боская кара такая, ці, можа, д'ябал вытварыў такое, а ўсур'ёз сабе заўважыў: «Чакае пераарыентацыя!.. Добра, што сына паспеў прыдбаць!». Гэтай раніцай ужо не так, як нават учора, яго хвалявала адвечная праблема: як надалей кіраваць краінаю? Ён думаў выключна пра тое, што яму неабходны партнёр, які, вядома, трымаў бы язык за зубамі. Дзе ж яго знайсці? Выбар не вялікі: альбо сярод сваякоў, альбо ў верхніх эшалонах... І абодва варыянты коўзкія.

Але ў хуткім часе ён зразумеў, што яму нічога не давядзецца прадпрымаць, бо ідыёцкі сон пачаў паўтарацца кожную ноч. Такія сны сталі вымотваць яго ныя сілы, ён больш пачаў псіхаваць, прыкметна схуднеў і перастаў заўважаць прыгожых дзяўчат і маладзічак. Нарэшце да яго прыйшла думка, што пакаранне за цяжкія грахі магчымае і пры неабмежаванай уладзе. Нездарма ён так баяўся кары! Падобна на тое, што сваім страхам і наклікаў яе. «Так, гэта ка́ра, — думалася яму, — і мая ўлада мне анічым не дапаможа. Выходзіць, кара якраз мне за яе, маю бязмежную ўладу. Што ж мне з ёю рабіць? Сын яшчэ такі малы!.. Аддаць жа яе на выбарах каму папала — гэта не ў маіх правілах. Ужо лепш памерці!»

І правадыр пачаў пацiху паміраць, хоць яго і лячылі вельмі старанна як псіхічна хворага.

**2005**

# Грыдзькаўскае



Марыя ВАЙЦЯШОНАК

***

Гэтыя дні са смуткам, я далучаюся да гэтага жалю, бо мы выхаваны на гэтым, хочацца заспяваць як даць у голас, бы загаласіць:

*На поле танки грохотали,*
*Солдаты шли в последний бой,*
*А молодого командира*
*Несут с пробитой головой.*

Гэта як быццам майго сына, майго мужа...

Успомніла ўсіх сваіх мужчын-ваякаў. Абое яны пабралі ў жонкі сястёр з беднай сялянскай сям'і: мама Вольга і цётачка Марыля. Бацька ваяваў у войску Пілсудскага, дзядзька Віталік, у якога я жыла ў вёсцы паміж дзіцячымі дамамі, ваяваў у грамадзянскую, быў кантужаны — і на Айчынную яго не забралі.

Ягоныя таварышы збіраліся ў нашай хаце. Віталік, Вінцук, Валерык. Такія імёны з памяншальна-пяшчотнымі суфіксамі, якія захаваліся з дзяцінства ў нашай вёсцы. Гэта адпавядала настрою нашай вёскі, адносінам людзей паміж сабой. Яны зэблілі самакруткі з газеты, казіныя ножкі, дым стаяў — твараў не бачна. Галовы схілены, нейкая памінальная зверка між імі. Быццам яны збіраліся, каб упэўніцца, што жывыя, палічыць адзін аднаго. Дым, хата як акоп. Зямля пад нагамі без падлогі, саламяная страха, акенца. Вясковыя, неадукаваныя мужчыны збіраліся, я нічога не разумела. Кожны вечар засынала пад ціхую гаворку ў нашым «акопе». Цётачка Марыля клалася не распранаючыся побач са мной. Ніколі на мужыкоў не сварылася. Яна пэўна разумела: ім трэба сабрацца, пагаварыць, нагаварыцца, каб адпусціла душу. Калісьці маладыя вясковыя хлопцы, яны пэўна хадзілі на вайну, як на вечарыны ў суседнюю вёску, і там пабіліся. Толькі цяпер яны спрабавалі нешта зразумець. Гэтая хата будавалася як варыўня пасля вайны, але дзядзька Віталік не змог пабудаваць сапраўдную хату, як у людзей. У ёй і памёр.

Помніцца, распавядалі, як прыйшлі немцы, усе пайшлі ў лес, вёска пустая. Дзядзька Віталік час ад часу залазіў на высокае дрэва, каб паглядзець, ці не запалілі немцы хаты. І яшчэ раз залазіў, і яшчэ раз залазіў. Апошні раз ён залез і доўга не злазіў, людзі ўнізе пыталіся: Віталік, што бачыш? Ён маўчаў. Вёска гарэла. І зноў ён маўчаў. Доўжылася хвіліна. Людзі яшчэ думалі, што вёска жывая, яшчэ спадзяваліся. Спусціўся. Яны яго ледзь пазналі. Абняліся, счапіліся, стагналі, ціха плакалі, каб не пачуў лес.

Нічога гэтага сама не бачыла, але апёкі вёскі мне смыляць. Я люблю Грыдзькі. Гэта маё святое месца.

Дзядзька Віталік валодаў нейкім мастацтвам старога ваякі. Ён хадзіў заўсёды ў галіфэ, гімнасцёрцы, у кішэні — люстэрачка, расчоска, бо меў вусы, даглядаў іх. На плячах цяжкая, даўгая пастырова барма. Вялікая берасцяная труба да зямлі. Ён выглядаў як архангел. Яго наймалі з суседніх вёсак пасвіць кароў. Адзін перад адным прыходзілі мужыкі аж зімой, каб замовіць яго. Часта ён пасвіў на палігоне. Да яго збіраліся маладыя салдацікі, як шчанюкі абнюхвалі яго боты ці лапці. Ад яго пахла самасадам, порахам. Яго слухалі бясконца. Ад яго ішоў пах вайны. Ён быццам увесь час знаходзіўся ў гэтым вялікім мужчынскім коле, дзе яны, пабраўшыся за рукі, а то заклаўшы рукі адзін аднаму за плечы, ішлі ў танцы сіртакі, перадаючы адзін аднаму крэсіва, ваяўнічы запал.

Мне шмат гадоў, але я ніколі не зразумею: калі пасварацца жанчыны, яны могуць пакудлаціцца, схадзіць узалабкі, а мужчыны бяруцца за зброю. Гэты дзікі рытуал — абавязкова пусціць крыў. Замест таго, каб сесці, хай сабе і выпіць, але абавязкова дамовіцца, а потым, калі што якое ў ахвоту, «схадзіць на маманта». Можа, будзе час, калі ў школу будуць запрашаць на сустрэчу садоўніка, чалавека, які пабудаваў прыгожы дом, шыкоўнага сямейніка. А 9 мая будуць адзначаць як успамін пра апошнюю ў свеце вайну, і тады б пасавала весяліцца, а так Дзень Перамогі без слёз не абыходзіцца.

Я адчыняю дзверцу камода, дзе ляжаць фотаздымкі маіх салдат, бацькі і дзядзькі Віталіка. З камода цягне прахалодай...

Яшчэ ўспомніла, што нядаўна бачыла сон. Вось ён: «Я адчыняю нізкія дзверы нашай каморы, сені, потым яшчэ дзверы, іду, памятаю, што нікога жывых ужо няма. Раптам бачу: на палку, на саламяным матрацы спіць мужчына, малады з паголенай галавой. Ён прачынаецца, пужаецца, а я раблю выгляд, што не заўважыла яго ў цемры і выходжу. Шчыльна зачыняю за сабой дзверы. Гэта мог быць злодзей, кат ці забойца. Ці тэрарыст?! Хай спіць. Можа, гэта яго апошні сон на зямлі, апошні прытулак».

Ад прыроды я санітарка. Ён, каторы чыйсьці сын, чыйсьці бацька ці муж. Мне ўсіх шкада. І наогул: жанчыны часцей за ўсё санітаркі ў гэтым жорсткім, крывавым мужчынскім свеце.

***

У доме дабавілася вясковага духу. Гэта шафа на мяне вельмі ўздзейнічае. Мы з ёй літаральна абняліся. Яна заняла месца. І ў яе атрымалася пасада вясковая. Яна як брыгадзірка ў доме.

Справа ў тым, што ў мяне ніколі не было шафы. Менавіта шафы. Не шкафа. Шапа, так называлі заўсёды ў вёсцы Грыдзькі. Калі я заходзіла ў хату дваюродных сясцёр Надзі ці Валянціны, выпадала так, што пры мне яны адчынялі шафу. Там ляжалі стосы ручнікоў, тканых на кроснах, вышываных, макатак, і ўсё гэта ляжала, чакала нейкага свята. Надзя магла рукой дакрануцца часцей за ўсё, неяк правесці па стосіку якіх-небудзь макатак, як быццам гэта ўсё жывое. Гэта ўсё было ручное, на станках, на пяльцах, усё было робленае рукамі. Матчына, бабчына, прабабчына. Гэтыя знакі, арнаменты на тканінах як пісьмёны, як фаліянты. І адчынялася шафа. Я заўсёды спынялася перад гэтай шафай. Я не разумела, што мяне спыняла, я яшчэ была малая.

І вось мы заказалі тую шафу сабе. І калі яе ставілі, дзе ёй выбралі месца і яна ўжо стаяла, я толькі што з ёй не абнялася. Таму што яна наддала такога вясковага духу ў хату, такога ўнесла настрою! Выдавалася, што ўвесь час я была не зусім на зямлі, менавіта ў Сілічах, магчыма быццам як яшчэ не асеўшы, быццам не прымасціўшыся, быццам не знайшла сабе месца, яшчэ не нагледзела тое месца, не засвоіла яго. Раптам я зразумела, што я нарэшце асела. І падалося мне: гэта аседласць адбылася якраз насупроць шафы. Таму што зараз я каля яе хаджу, быццам гэта асоба запрашоная, а можа ўжо і жыхарка дома незвычайная, нешта старасвецкае ў ёй, як далёкі ўспамін.

І мы яшчэ доўга прымяралі з майстрам, як замацаваць тое, што мы купілі ў антыкварнай краме, адлітую з металу дэкаратыўную рэч-«конь з вазком». Яны, майстры, не вельмі разумелі, чаму я хачу прымацаваць да шафы гэтую дэкаратыўную дэтальку. Я тлумачыла ім, што шафа — гэта валізка, як чамадан. Што звычайна там усё лепшае, тое, што мы звычайна не носім дома, а бярэм у дарогу ў горад, на свята ў госці. І я разумела, што на мяне дзейнічае шафа, якая стаяла ў дваюроднай сястры Надзі, што яна мне дыктуе, што мне трэба сюды пакласці, што павесіць, якую адзежу. Што шафа, якую я бачыла ў дзяцінстве, яна мяне вучыць, перадае тую моду, тую традыцыю, якую я зведала калісьці ў дзяцінстве.

І нарэшце мне прычапілі каня з вазком, на што я сказала, каб зблізіць іх з маёй шафаю: «Гэта ваш брэнд цяпер, брэнд вашай фірмы!».

Я хачу сказаць, што нічога, што было ў дзяцінстве, не забываецца, гэта самае найдаражэйшае і самае галоўнае, самае блізкае. Тое, што я ніяк не магу з рук выпусціць. Увесь час жыву, блізка прыціснуўшы да грудзей нават гэтую шафу.

***

З аднаго часу ляціш у другі час з такой хуткасцю, ну проста стоцьмя ляціш.

Я чакала камень, чорны камень, мне павінны былі прывезці з Грыдзек. На Пастаўшчыне ён ляжаў каля студні, але потым Таня, мая сваячка, сказала, што ён быў перад высокім парогам нашай каморы, дзе мы жылі з цёцяй Марыляй і дзядзем Віталікам.

Я хадзіла па доме, чамусьці было цяжка, я хвалявалася, ці правільна гэта раблю, што адтуль забіраю камень?..

А раптам яго падыме вецер, як ліст, і занясе зусім у чужы падворак, недзе нейкае ў полі? Мне здавалася, што гэта ўсё самае важнае, што я маю, што я магу мець, знайсці са свайго ранейшага жыцця, якім вельмі даражу.

Камень прывезлі так звычайна, адчынілі вароты, вялікія вароты, шырокія, быццам уязджалі ў двор на кані з калясніцай. У мяне было пачуццё, што гэта мой метэарыт, мой амулет, які ляцеў да мяне з дзяцінства. Калі я разлічвалася з людзьмі за грузаперавозкі, яны вельмі спяшаліся (як добра, што ў мяне былі лішнія грошы), я дала ім лішніцу, каб падсілкаваліся. Сказала, што я вельмі вінавачуся, — у вас была далёкая дарога, а я не магу даць папалудневаць. Побач з намі праз тры кіламетры, як ехаць на Мінск, будзе кафэ, там ёсць і першае, і другое, і трэцяе. Жанчына, якая ўжо сядзела ў машыне, раптам адчыніла дзверы і сказала: «Каб вам Бог здароўя даў, я так хачу есці!». Але я зразумела, што патрапіла зрабіць тое, што трэба. У мяне атрымалася.

У вас бываюць такія моманты, калі вы раптам адчуваеце, што вы знялі заплечнік і раптам адчуваеце, што ўвесь час хадзілі з паднятымі плячыма, увесь час быў у нейкай ці то ў трывозе, ці то ў зняможе, бы ўвесь час пераносілі штосьці за плячыма з аднаго кутка ў другі? Я даўно не адчувала пад сабой такіх лёгкіх ног, як ішла ў дом. З'явілася вось гэтая палёгка, што цяпер у мяне ёсць апірышча, у мяне ёсць падтрымка. Я ішла, як егіпецкая царыца. Я валодала землямі! Нарэшце атрымала той жаданы камень. Мне яго прывезлі на калясніцы, той дарагі камень, які я пакладу ў падмурак свайго новага жыцця якраз тады, калі ў мяне слабне зрок, губляецца голас! Я думаю як японцы, што камень жывы і ўсё памятае. Такі цёмны, цьмяны з твару, як быццам ад перажытага, ад перадумак, ад босых слядоў. Магчыма, гэты камень — прыступка перад высокім парогам здрады, які я ніяк не магу пераступіць — і жыву ў самоце. Магчыма, гэты камень — мая першая прыступка высока ў горы, калі я нарэшце лёгка адлучуся ад людзей.

**г. Менск, 2020**

# Няспешнага Часу!

**Час такі няўмольны і хуткаплынны...**

Здаецца, яшчэ ўчора ты натхнёна і захоплена мроіў пра сваю будучыню, і вось сёння — яна ўжо перад табою, а там, за ёю — наяўідныя, затуманеныя небасхілам, перспектывы... У кожнага так. Абысці гэтага ніяк нельга, як і ўласны наканаваны табе лёс.

Вось і наша выбітная пісьменніца і паэтка Марыя Вайцяшонак няўглядзь апынулася на парозе свайго пашанотнага юбілею.

За ўсёй яе творчасцю стаіць біяграфічнае, звязанае з высылкай сям'і беларускай сялянкі і польскага афіцэра-асадніка на халодны Алтай, у сцюдзёна-люты Змяінагорск, дзе пад снежным смяротным саванам і па сёння ляжаць яе бацькі, а саму Марыю з сястрой Уладзяй на пачатку 50-х, у рэшце рэшт, выпатрабавала цётка Марыля да сябе ў вёску Грыдзькі, што на Пастаўшчыне. З нараджэння (1 снежня 1940 года) спадчыннае гняздо Марыі было парушана, таму ўся істота яе заўжды прагла нажаданага сонца і святла, радзімнасці і бацькаўшчыны. У пастаяннага чытача твораў М. Вайцяшонак можа скласціся ўражанне, што мінулае як бы трымае яе за руку, не раўнуючы, як малое дзіцё, і вядзе-вяртае да таго «раскіданага гнязда», адкуль вывелася яе родавая памяць, і ўжо апераная, — выпала і, не разбіўшыся, на кволым крыле ўзляцела... Пасля ўжо — у Беларусі — было ўсё, як ва ўсіх: школа, універсітэт, журналісцкая, а пасля і літаратурная праца. Такая вось біяграфічная канва наўсцяж творчага шляху. А сама творчасць Марыі Вайцяшонак, бы выключэнне з агульнапрынятых правілаў сучаснай жаночай прозы, з апошніх сілаў трымаецца за сваю, ужо амаль міфалагічную, нацыянальную самасць і за сваё месца ў кантэксце найноўшай беларускай... мовы і літаратуры. Так, так, я не абмовіўся: мовы і літаратуры. Нездарма ў сусветнай літаратурнай крытыцы наяўнасць уласнага стылю лічыцца пазнакай таленту. І такі талент у Марыі Вайцяшонак навідавоку. Ён напрацаваны вопытам душы і плоці, ужо даўно пазнавальны, але неадностайны, бо неардынарныя праявы зямнога бытавання змушаюць яе ўтомнае сэрца час ад часу змяняць, здавалася б, урэшце і назаўсёды наладжаны рытм жыцця, а значыць, і свой асабісты пісьменніцкі почырк.

Турбуюць яе як захавальніцу свайго роду і літаратара-духоўніка і наспелыя грамадскія пытанні... Бо для каго тады выводзіць на звечарэлай шэрай паперы цёмным атрамантам кірылічную вязь з літар, слоў, сказаў, сноў, аповедаў і прадчуванняў? Як зберагчы духоўнае і нацыянальна-культурнае багацце народа, што яшчэ дарэшты не разбэрсалася, не разбілася на разрозненыя аскепкі, не раскралася і не сышло ў нябыт?

Напэўна, прачытаўшы толькі пачатак яе верша ці аповеда, прыхільнікі беларускага краснага пісьменства без асаблівай боязі памыліцца назавуць імя іх аўтара. А гэта ўжо пазнака Боскага дару. Тыя, хто прачытаў адмысловы том яе выбраных твораў «Альбом для цёткі Марылі» (2019), пацвердзяць мае высновы. Пры гэтым нельга абысці арыгінальную асабовасць творцы, яе характар, лінію паводзін, чалавечую і грамадзянскую годнасць. Дзякуючы зробленаму і створанаму, Марыя Вайцяшонак мае своеасаблівую індульгенцыю — быць зразуметай і помнай сваімі наступнікамі. Не сумняваюся, што і надалей выбітны талент гэтай высакароднай жанчыны, адмысловага творцы і неардынарнай асобы будзе выяўляцца з такой жа сілай і з такім жа натхнёным пажадам. Няспешнага часу Вам, Марыя Антонаўна!

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

# М



Вольга БАБКОВА

## Мядзвежына

Дотык ядвабнай травы даўняга ўрочышча казыча мяне ў сне. Трава дакраналася да плячэй. На беразе жоўта-зялёнага мора сядзеў сівы дзед і плёў кош. Донца было ўжо зробленае, і ён далей перабіраў пальцамі гнуткія пруты, размаўляючы з намі і з імі. Побач стаяла хата і рос вялікі дуб. Дах майго дома быў бачны ззаду па-над травой, але адлегласць здавалася падманлівай, бо тут, каля дзеда, віраваў разам з пчоламі зусім іншы свет. Напэўна, гэта былі апошнія гады існавання рэштkаў вёскі Малое Мядзвежына, на месцы якой паўсталі новыя вуліцы. Дзедавай мясціне пасавалі б назвы Белы Дзед, Божы Дар ці Рай, якія мне даводзілася сустракаць пазней у старых дакументах, але імёны блізкага наваколля былі іншыя — Доўгая Ніва, Тучынка, Нядзвежына, Плешчанка, Грушаўка… У Паўла Шпілеўскага нядаўна прачытала апісанне Мядзвежына: «Хутар, што красуе пагоркамі ды палямі, паміж якімі заўважныя дзве глыбокія лагчыны, падзеленыя паплавамі і ўпрыгожаныя размаітымі травамі». Вось менавіта гэтыя рознакаляровыя травы з пругкімі мяцёлкамі, пабачаныя вандроўнікам Шпілеўскім у сярэдзіне пазамінулага стагоддзя, казыталі мяне ў сярэдзіне мінулага, а дотык іх застаецца жывым у гэтым стагоддзі. Люблю лавіць такія ланцужкі.

Што засталося мядзвежынага ў гэтым куточку Мінска? Асабіста для мяне — неверагодная прытульнасць ад голаса начных цягнікоў, які працінае прастору былых урочышча, хутара і вёскі Мядзвежына. І калі ты ляжыш захутаны ў коўдру і чуеш іх тужлівы гуд — раптам адчуваеш сябе як у мядзведзя за пазухай.

## Мухля

Мухлю нейкі дабрадзей узнагародзіў белымі і ружовымі лілеямі. Мухлі больш за сто гадоў, і велізарная колькасць гараджанаў былога Нямецкага квартала гадаваліся тут у вазочках, у вадзе і на лёдзе, таму ўганараванне яе вады лілеямі цешыць вока і душу. Крынічны ставок упрыгожвае стары гарадскі квартал. У вадзе звыкла адлюстроўваюцца дрэвы, рыбакі, сонца і месяц, зоры і ліхтары, а таксама цені вечных качак і кірляў. Безумоўна, у ёй няма адбітку профілю ці анфасу татарскага князя Бекіра Александровіча Мухлі, але менавіта вада гэтай азярынкі захавала памяць пра яго праз імя —Мухля. Цэлы татарскі род Мухляў жыў у Менску і валодаў апроч іншага землямі непадалёк блізкай Кальварыі. Чуткі, шэпты, пераказы спляліся невядомым чынам, замацаваліся тут і ўкараніліся. Ставок атрымаў імя. Калі я бачу бегуноў з навушнікамі, што наразаюць колы вакол Мухлі, то ўяўляю гучанне «Часоў года» Вівальдзі. Бо менавіта тут яны змяняюцца раз ад разу як на адвечнай кінастужцы без кінамеханіка з вузкімі вачыма.

## Мора

Калі горад не стаіць на беразе мора ў атачэнні гор, гэты недахоп часам выпраўляюць аблокі. Ідзеш па галоўным праспекце Мінска ці едзеш на якіх колах — і раптам вочы засціць нечуваны краявід на даляглядзе: снегавыя шапкі з ружовым падсветам ці пеністае бурлівае мора, што вось-вось залье горад да самай Круглай плошчы. Вочы вільгатнеюць ад уявы, а ў душы расце прадчуванне даранай свежасці, якая чакае за паваротам. Насамрэч Мінск мае іншыя прыгожыя экзоты. З даху любога хмарачосу ці чортавага кола ў Гарадскім садзе заўсёды бачны край лесу ўдалечыні, які вабіць і дае спадзеў на ўратаванне. А калі пільна паўзірацца ў пэўны бок, на даляглядзе можна пабачыць і люстра Мінскага мора.

Калі ўначы глядзіш з вяршыні Мтацмінды, тбіліскай святой гары, на мапе асветленага горада ўнізе бачныя дзве велізарныя цёмныя плямы — гарадскіх могілак і Тбіліскага мора. Гэтая цемра вабіць і заварожвае. Мора затоена дыхае, а могілкі затойваюць маўчанне.

Менчукі добра ведаюць натуру свайго аддаленага ад горада мора, напрыклад, ягоную звычку зелянець у жніўні, але вада ўсё роўна прыцягвае, і цягнікі выкульваюць новыя полчышчы распранутых цягам усяго лета. Тут усё амаль па-сапраўднаму: хвалі, пірс, пясок, хвоі, яхты, ветразі, блакіт, чэрвеньскі лубін на белых пагорках, які дадае фарбаў сціпламу мору. Тут завязваліся раманы і выспявалі шлюбы, паліліся вогнішчы, з'ядаліся кавуны нават пасярод восені. Калі ўсё ж зеленкаватая раска бязлітасна зацягне водны краявід да сярэдзіны, а аер з асакой наструнiцца ды запанюць, я буду ведаць дзе шукаць логава самага вялізнага менскага Вадзеніка.

## Майстар

Горад быў слаўным сваімі гільдыямі, зэгармістрамі ды злотнікамі пад размаітымі штандарамі цэхаў. Майстра, народжанага па вызначэнні, пазнаць няцяжка. З ім не гуляецца час, не кладзе на яго свой зменлівы адбітак. Добры майстар у горадзе заўсёды на сваім месцы. На вуліцы Чырвонай уздоўж трамвайных рэек, дзе калісьці пахла кавай з крамы «Нектар», працуе ў маленькай майстэрні-пад'ездзе гадзіннікавых спраў майстар. Ужо гадоў колькі трымае там свой пост за высокай катэдрай з дзясяткамі маўклівых і тахкіх механізмаў. Лупа на складцы ля вока, ліхтарык на сівых валасах, тонкія прылады ў вялікіх мяккіх пальцах. Гулівер, які запускае праз зубчастыя колцы час для ліліпутаў. Ён кіруе тым часам і пануе ў малой прасторы свайго прытулішча. Ты глядзіш на яго знізу ўверх, працягваючы руку з мёртвым гадзіннікам на высокую стальніцу катэдры, і чакаеш прысуду. А пакуль азіраеш насценныя гадзіннікі, карэньчыкі кніг у старой шафе, мапу свету і ўсё, што можа ўхапіць вока на краі ягонага стала. Сама дзея адбываецца ў глыбокай нішы, атуленай святлом лямпы. Дзіва, але калі трапляеш у гэты пад'езд з шумлівай вуліцы і прычыняеш за сабой дзверы, застаешся сам-насам з маўклівым часам і мудрым менскім габрэем-зэгармістрам, які — так хочацца верыць мне — ніколі не пакіне свой пост.

## Месцы

Горад зладаваны так, што на яго скрыжаваннях часам паўстаюць надзвычай запамінальныя месцы. Такой была і засталася ў памяці UPTEKA — файная кавярня непадалёк Нямігі, насупраць старога кінатэатра «Перамога». Колькасць шматлікага посуду ў кавярні адпавядала колькасці размаітых наведнікаў і мілай абслугі. Твары былі знаёмыя і незнаёмыя. Пульхныя і завостраныя, згрябныя і не вельмі. Увагу забіралі ножкі афіцыянтак, якія мільгалі з-пад шырокіх разрэзаў даўгіх кармінавых спадніц-накідак, абкручаных вакол попак накшталт хустак. Нізкая хада абутку нараджала плаўнае слізганне па паверхні каменнай падлогі з выявамі накрэсленых лацінскіх выразаў. Можа, гэта былі фрагменты медычных парадаў Парацэльса, а можа, урыўкі старой рэцэптуры, знойдзеныя на паддашку менскай камяніцы, дзе аптэкарам колісь быў Матыс Чаховіч? Такі самы фрагмент, але адбіты на паперы, ляжаў на стале пад таўстасценным парцалянавым кубачкам кавы, якой было роўна столькі, каб зрабіць тры глыткі, акурат як прымаючы мікстуру са сталовай лыжкі. Толькі гэтым разам мікстуры духмянай, гаючай, чорнай, з дымком, што цягнуўся амаль ад кожнага століка да столі, дзе перамешваўся і на хвіліну ўтвараў фігуры, расшыфраваць якія мог бы толькі ўтрапёны дэшыфроўшчык сваіх і чужых вiдзежаў. Кава, як і цыгарэта, рабілі свет на імгненне шчаслівейшым.

Вежа касцёла на КАЛЬВАРЫІ заўсёды была бачная з вокнаў майго дома, пакуль дрэвы былі меншымі. Так і тырчала ўдалечыні светлым шпілем з цёмнай купы могілкавых дрэў. Цяпер гэтую віддзежу мне замянілі залатыя дзюбы крумкачоў на блізкіх хвоях насупраць акна, якія разам з клёнамі, каштанамі ды ліпамі выраслі і разліліся зялёным морам да самага краягляду. Цяпер я не бачу, але адчуваю прысутнасць менскай Кальварыі непадалёк. Могілкі вабяць. Гэта, бадай, адзінае месца ў горадзе, дзе пануе сапраўдная ціша. Восеньская, зімовая, вясновая, летняя маўкліня. Менавіта тут з лёгкім смуткам прымаеш да сэрца словы старой мовы пра свет, у якім жывем: прывідны, мізэрны, адменны, аблудны, нярозны, надзны.

Менавіта тут разам з людзьмі пахаваныя тысячы і тысячы маўклівых гісторыяў, таму цвінтарнае паветра звініць не толькі гудам пчолаў ды чмялёў. Кальварыйскім могілкам пашанцавала, яны, спадзяюся, застануцца тут датуль, пакуль Менск будзе горадам. Бо ў астатніх мінскіх кладоў незайздросны лёс: спачатку яны хаваюць у сваіх нетрах жыхароў горада, а пасля горад паглынае могілкі ў сваіх.

Ёсць на мапе горада адно стракатае месца, пра якое ведаю, напэўна, усе карэнныя жыхары — СТАРАЖОЎКА. Часам мне здаецца, што менавіта тут таксама сэрца Менска. У гэтай мясціне спляліся ўзоры самых розных канфігурацый, магчымых у гарадской прасторы, а таксама розныя водары і гукі. Тут каменная мліва выраблялі Менеск, а далонь памятае вагу камянёў з часоў менскай мытні, якімі пасля брукавалі горад. Тут бомкаюць званы Магдалены, а калісьці пазвоньваў менскі трамвай, калі спыняўся каля царкоўнай брамы, тут і сёння можна пабачыць фрагмент старой рэчкі Пярэспы, што брала пачатак ад Камароўскага балота. Тут месцяцца старая і новая сінагогі, тут у архіўным сховішчы захоўваюцца самыя старажытныя дакументы нашай краіны, а калісьці і яе кінахроніка (у магутных сценах царквы). Тут спачываюць парэшткі праваслаўных жыхароў на былых, бясследных цяпер Старажоўскіх могілках. Тут пахне печанай скарынкай са старога хлебазавода, соладам з менскага бровара, вадой Свіслачы. Тут можна пачуць украінскую, ангельскую, беларускую мовы, ідыш… Зрэдку, але пачуць.

## Маці

На Нямізе тоўпілася згряя здзічэлых сабак — вялізных і малых, чорных і рудых, як вавёркі. Якраз у тым самым месцы, дзе ўнізе было старое рэчышча. Бетонныя сцены і бліскучыя рэкламы засталіся недзе наўзбоч, увагу прыцягвалі менавіта яны — беспрытульныя і чуйныя. Круціліся, прысаджваліся, падскоквалі, бегалі, нібы шукаючы кагосьці, па старых адрасах. Вось тут, на рагу вуліцы, на месцы шклянога дома, дзе падазрона пахне ежай, сядзіць клоун у чырвоных чаравіках, а ўсярэдзіне гучыць «Стары Ольса», у пяцідзясятыя стаяла старэнькая драўляная сіняя (ці зялёная) пошта №5, дзе мая маці — студэнтка ўніверсітэта — атрымлівала пераводы з дома. Аднаго разу тры рублі з тых пераводаў у яе з рук выхапіў нейкі хлопец, калі яна выходзіла з жалезнай брамы інтэрната, каб зайсці ў гастраном, у які, дарэчы, трэба было спускацца па лесвіцы ўніз. Так і ішла задуменная па нямігскім квартальчыку з трохрублёвікам у руцэ, пакуль не забралі. А непадалёк на другім баку вуліцы, калі ісці да керасінавай лаўкі, была майстэрня жалезных вырабаў. Туды маці насіла рамантаваць патэфон, які прывезла ў Менск з Ваўкавыска. Якраз непадалёк у краме прадаваліся кружэлкі. Глядзець кіно хадзілі пераважна ў кінатэатр «Першы», пабудаваны яшчэ немцамі. Самы ўлюбёны фільм таго часу — «Машанька». Маці ў одуме выходзіла, брала новы квіток і ішла зноў у глядзельную залу. У той час толькі яшчэ будаваўся Паштамт. Ён стаяў у рыштаваннях і быў завешаны афішай фільма «Сабор Парыжскай Божай Маці» з велізарным прыгожым тварам Джыны Лолабрыджыды. Дзень, калі абвясцілі пра смерць Сталіна, запомніўся тым, як адна са студэнтак звыкла падфарбоўвала вочы каля люстэрка, на што атрымала абураную вымову ад старасты курса: «Сталін памёр, а яна вочы сурміць!». Цікава, што лыжны крос студэнты-філолагі здавалі амаль за межамі горада, на пустцы, якая пачыналася ад цаглянай карункавай агароджы старых Нямецкіх (Лютэранскіх) могілак. Напярэдадзе была белая неруш з пагоркамі, а на даляглядзе справа чарнела купа дрэваў Кальварыі. Ці магла тады падумаць мая маці, што неўзабаве тут пабудуюць дамы, і яны пераедуць сюды сям'ёй з драўлянага дома на Артылерыстаў і прывязуць мяне, двухгадовую, і брата.

А я запомніла сваё, напэўна, першае з'яўленне на Нямізе — з татам за руку, з коскамі, у сандалях. Ішла па вузкім ходніку і зачыняла расчыненыя форткі, якія траплялiся ў дамах па дарозе, бо вокны раслі ад самага тратуара, так што варта было толькі выцягнуць руку…

## Метро

Калі ў Мінску з'явілася метро, горад пабагацеў на новыя пахі. Свае пазнавальныя пахі маюць вакзал, шпіталь, басейн, тэатр, але дух новай падземкі казытаў па-асабліваму. Дараваў няўцямныя спадзяванні, накладаючыся на грукат, свіст ды імклівы рух зырка асветленых вагонаў. Па нацёртым да бляску мармуры хацелася слізгаць з разбегу. Новае мінскае метро пахла свежасцю.

Цяпер пад зямлёй можна хадзіць гэтаксама, як і па яе паверхні. Прызначаць спатканні і смела азірацца назад. Тут не прыжываюцца людзі з боязззю замкнутай прасторы. Глыбіня пагружэння невялікая, але падэшва зямлі адчуваецца ўсё роўна, як і блізкая прысутнасць вады. Метро адразае ад нас неба і сонца. Толькі ўсё роўна ў гэтым змрочным месцы, дзе за святочнай ілюзіяй мармуру і ліхтароў точаць зямлю чэрві і звісае са столі і сценаў, схаванае за бліскучую плітку, чаплістае карэнне, можна пабачыць самыя розныя праявы жыцця. Вось ідуць Міхась і Алена. Не ідуць — плывуць паўз усіх. Ён, такі звычайна ўнураны, нахілiўся да яе, невялічкай, і штосьці шапоча з усмешкай. Яна, бялёсая, заружавелася, вочы — долу, усмешка — у нікуды. Ад гэтага святло невымернае. Роўнае, глыбокае, цёплае. Як ад мандарынавай свечкі ўночы… Рознае здараецца ў метро. Нядаўна зачапіў мяне за рукаво на станцыі «Якуба Коласа» ўшчэнт разгублены, запыханы чалавек. Казаць не мог, галавой матляў, вачыма лыпаў. Тыкаў у вочы пакамечанай сурвэткай(!). На ёй было неразборліва надрапанае слова. Угледаюся, разбіраю тры літары — «ЦУМ». Чалавек рукамі пытаецца, маўляў, у які бок? Паказваю. Пачціва кланяецца. Узбек. Згадалася адразу хроніка з СССРа. А яшчэ згадваю, як напярэдадні ягонага сыходу з гэтага свету сустрэла ў метро паэта Сяргея Грахоўскага — у

берэце, у доўгім чорным паліто-не. Ён ішоў у атачэнні невымоўнай цішы. Нагадваў рыцара.

Мінскае метро вельмі прыгожае. Асабліва станцыі «Акадэмія навук», «Грушаўка», «Міхалова». На адной заварожваюць іншасветныя каменныя краявіды на слупах, на другой — улюбёная літара у слове ГрушаЎка з кранальнай масянжовай грушкай наверсе. Ну а «Міхалова» я з любасці называю «Міхалава» ў гонар недалёкай прысутнасці тут чалавека-аркестра Міхала Анемпадыстава. Урэшце, зоркі на станцыі «Міхалава» таксама сведчаць пра гэта.

Станцыя метро «Няміга» нітуецца з неразблытаным вузлом болю, з успамінам пра катлаван і менскую гісторыю. Ніколі не пакідала адчуванне, што разам з пластамі чорнай зямлі на паверхню падчас будаўніцтва выкопвалі спластаваныя маўклівыя да часу цені мінулага разам з рэшткамі шматслойных драўляных тратуараў і шматлікімі слядамі на іх.

Падземкі ва ўсім свеце вядомыя сваімі чытачамі. Гэткая бібліятэка на хуткіх колах. Адзін вагон мінскага метро праз шпалеры з выявамі кніжных паліц паспрабаваліператварыць ва ўтульны кабінет, але атрымалася адно абалонка без зместа, бо карэньчыкі ўяўных каляровых кніг былі пустыя, імёны аўтараў здзьмуў метроўскі скразняк. А якім сэнсам напоўніўся б час у вагоне з накрэсленымі на кнігах імёнамі Платона, Гамэра, Гётэ, Быкава, Маркеса, Памука, Багдановіча, Караткевіча!

Чым можна было б займацца на падземным эскалатары, калі б ён быў удвая даўжэйшы за наш? Працягваць чытаць, размаўляць па тэлефоне, набіраць эсэмэскі, корпацца ў торбах, калупацца ў носе, завязваць матузкі, таропіцца ў нішто, абдымацца, гладзіць іншага па валасах, расшпільвацца, размаўляць, стаяць спінай, абапірацца, барабаніць пальцамі па гумавай парэнчы, кідаць уніз манеткі, і цалавацца-цалавацца... Хтосьці паспявае зрабіць з усяго гэтага толькі палову.



Фота www.pinterest.com

### Маруднасць

Мне часам здаецца, прычынай таго, што Мінск «амаль не падлягае любові», ёсць прычына метафізічная. І звязаная яна з вадой. Як нейкае таўро, ляжыць на горадзе пячатка нялюбасці. Места, працятае скразнякамі бязмежжа, прадзьмуванае з усіх бакоў нестваральнымі віхурамі, жыве неяк «знудліваправільна», аж занадта размерана, нехапатліва, абыякава. Так падаецца тым, хто нарадзіўся ў іншых месцах, але абраў для жыцця Мінск, так пачуваюцца зрэдку і карэнныя жыхары. Для некаторых горад не збіраецца ў цэлае, не прымагнічваецца цэнтрам, распадаецца на фрагменты. Штосьці замінае гораду разгарнуцца і спраўдзіцца, дыхаць напоўніцу? Можа быць, застыглая рака?

Чаму не натхняе нас Свіслач?

«Вада з ракі — малітва», — казалі ў на далёкім Поўдні. А ў Мінску галоўнай рацэ перакопвалі рэчышча, змянялі памеры, рабілі балюча і не давалі веры ве сапраўднасці. І рака ў горадзе знерухомела. Зрабілася маруднай. Перавучанай і перавыхаванай. Не плюскоча, не гамоніць, не бяжыць навыперадкі хваля за хваляй, не віруе пад кладкамі і парожкамі, як Вілейка, як Дзвіна і Палата, як Нёман, як Дзісна... Ціхая рака. Калісьці Свіслач хацелі зрабіць галоўнай артэрыяй горада, пасля, наадварот, аддалі перавагу Цэнтральнай плошчы, якая мусіла дамінаваць над ракой. Цяпер жа над ёй дамінуе ў небяспечнай блізкасці недарэчная гаргара, якая сваім цяжарам прыціснула рачную пойму, а цэнем палохае качак ды мінакоў. А калісьці па яе вадзе шпарка плылі наўздагон адзін аднаму чаўны пад ветразямі, ялікі ды плыты. Вада Свіслачы кіпела як праспект у гарачы час. А яшчэ раней у Менску быў порт.

«Шумяць за акном хвалі Свіслачы... цячэ і шапаціць Свіслач», «пайшоў на бераг Свіслачы і доўга слухаў шум хваляў, шумяць хвалі Свіслачы, шумяць...» — пісаў ў трыццатых гадах Сяргей Пясэцкі. «Вада Свіслачы ўвечары мацней пахне гарадской цеснатой», — адзначаў Кузьма Чорны. І Янка Юхнавец бачыў яшчэ жывую раку:

*...Вецер у Менску здаецца мне белы.*
*Між руінаў ён песня недапяяная.*
*І калі б Свіслач паводкай не шумела,*
*усе чулі б вецер з водарам*
*падвалаў.*

Але ўсё ж цяперашняя маруднасць ракі нібы запавольвае час на сушы, і праз гэта мы мусім быць удзячныя нашай рацэ. З імклівым часам дамовіцца немагчыма, а Свіслач, сама таго, магчыма, не ўяўляючы, зрабілася закладніцай паміж ім, Часам, і горадам, у якім маруднасць насамрэч ёсць утоеным і яшчэ нерасчытаным намі кляйнотам.

Усё ўрэшце зруйнуецца, спляжыцца — дамы, масты, платы. Заваліць друзам вялікія пляцы зямлі. Друзам нерухомым. А праз яго, як прывід, летнімі вечарамі будзе сачыцца вечаровы туман у тым месцы, дзе калісьці, безліч гадоў таму, была рэчка. Яе вады даўно няма, а вечаровы туман будзе стаяць кожны пагодны вечар над руінамі роўненна-роўненька, свежа і натхняльна.

### Маё

Памеры майго горада вызначаюцца па тым, як раніцай пасля летняй начной буры ці самай віхурыстай снежаньскай завірухі выпадковыя сустрэчныя цягам усёй тваёй некароткай дарогі дзеляцца ўражаннямі пра перажытае і пабачанае — у аўтобусе, краме, метро, у мімаходзь пачутай размове на праспекце, у падземным пераходзе... Арэол агульнага перажывання пашыраецца і пашыраецца ў розныя бакі, у залежнасці ад выбранага кірунку. Нібы чытаеш паветраную гарадскую газету, словы і абзацы якой пераносіць з месца на месца вецер. Менавіта тады горад набывае для мяне «чалавечае» вымярэнне. Ясная рэч, што недзе існуюць далёкія незнаёмыя вуліцы і дамы, дзе жывуць чужаватыя людзі, якія робяць абсалютна аднолькавыя рэчы, напрыклад, адмыкаюць ключом дзверы, але кожны робіць гэта і тысячы іншых справаў зусім па-рознаму. І я не ведаю гэтых людзей. І тады горад падаецца мне сотамі, сотамі бясконцымі, безаблічнымі сотамі... Але вось аднойчы зранку я згубіла з кішэні заплечніка тэлефон. А праз гадзіну затэлефанаваў нейкі чалавек, і неўзабаве прапажа вярнулася. Увечары таго ж самага дня з майго заплечніка выцягнулі гаманец. Гадзіны праз дзве затэлефанаваў нейкі чалавек і сказаў, што гаманец знайшоўся. Дзядзька аказаўся ахоўнікам цэнтра «Сталіца» і выдатна размаўляў па-беларуску. Гэтыя недарэчныя здарэнні шмат гавораць пра мяне саму... Але раптам горад падаўся проста вялікім домам, у якім твае згубленыя рэчы сямейнікі выцягваюць з розных куткоў ды закануркаў і вяртаюць са смехам.

Пакуль раслі дрэвы, за якімі спакваля хавалася вежа Кальварыйскага касцёла, здарылася шмат усяго. Часам горад падкідваў, як на батуце, да самых вяршалінаў сваіх дрэваў, а бывала, утоптваў у які біты шлях і рабіў нябачнай самой сабе. Ён меў здольнасць пашыраць вядомыя межы і ў той жа час звужацца на доўгі час да памераў маленькага пакоя. Тады мой горад не мог адшукаць мяне, бо я ўпарта баранілася ад яго за шчыльнымі фіранкамі.

Свой Менск я заўсёды нашу пры сабе. У ім людзі адгукаюцца на позірк з паўнамёку, і паразуменне, хай нават на імгненне, запаляе звыклую прастору. За тысячы кіламетраў, у іншых гарадах, на чужых вуліцах я сустракаю «знаёмыя» твары і постаці, якія калісьці вылучала вачыма ля «Лакамкі» на мінскім праспекце, ці на Прывакзальнай плошчы, ці на прыступках кінатэатра «Перамога»... Алтарны Хрыстос у найстаражытнейшым храме Грузіі ў Мцхеце глядзеў на мяне ад самага ўваходу вачыма маёй бабулі.

Кажучы пра Менск, я кажу пра саму сябе.

На Нямізе ёсць дамок, які яшчэ колькі гадоў таму кідаўся ў вочы адсутнасцю дзвярэй для выхаду на гаўбец. Вось проста так віселі на глухой тынкаванай сцяне чыгунныя краткі. Заляталі да яго адно птушкі. Напэўна, адзін быў такі на ўвесь горад. Аднойчы цёмным зімовым ранкам я заўважыла ў асветленым акне гэтага дома маладую жанчыну, якая прычапляла перад люстрам завушніцы...

Рэчы — апошняе цела людзей, якое жыве найдаўжэй, напісаў калісьці Алесь Разанаў. Пра горад сапраўды можна расказваць праз дэталі...

Аднойчы на велізарнай каменяломні пад Лагойскам я пабачыла распілаваную сярэдзіну валуноў і знерухомела перад маўклівай таямніцай утоенай сярэдзіны ледавіковых вандроўнікаў. Цяпер хаджу па горадзе і заўважаю каменную структуру ягонай забудовы. Лесвіцы, калоны, борцікі тратуараў, плітка ў метро, — усё, па чым раней мімаходзь прабягаў пагляд, цяпер набыло змест, які можна прачытваць. Урэшце, гэтым камяням было б пра што паведаміць імклівым мінакам.

Колькі ног пратупала па нашым горадзе! Колькі імёнаў рэхам знеслася ветрам унівеч. Зямля Беларусі ўвогуле суцэльны Вавілон. Каго тут толькі не сустрэнеш, гартаючы старыя запісы ў архіве: селяніна Пілата, мяшчанаў Буша, Коляды Шродэра, нейкага Бабая, двараніна Гедыміна, рамесніка Кроненбэрга, ляснога аглядчыка Шумахера і чалавека з імем Максім Багданавіч Неба... А ў Менску колішнюю Юраўскую гару, на месцы якой цяпер стаіць Палац прафсаюзаў, абыходзілі ці паглядалі на яе здалёк габрэй Чарток, татарын Калдунка, Іван Непрывальніцкі (жыў, відаць, не пры самым вале), Цімафей Праява, Арлай Гедэон, Вальтэр, Алена Гузікаўна, Фурс Галыбес, Арусяды Руся...

Калі я памру, Менск застанецца?

Таямніца асабістага ўспрымання горада — перадусім таямніца. Такая ж рэальная, як цень ад гадзіннікавай вежы каля былых езуітаў.

Дунін-Марцінкевіч, седзячы ў фатэлі ды прытупваючы нагою, дэкламаваў у сярэдзіне XIX стагоддзя:

*Няма як Мінск наш, дзетачкі,*
*міленькі!*
*Прыгожы, відны, кругом*
*весяленькі;*
*Ні адной мізэрнай не сустрэнеш*
*хаты,*
*Вот, маўляў, снег белы, каменны*
*палаты;*
*Пасярэдзіне ўецца круглай*
*стружкай*
*Свіслач рака — зялёнай устужкай;*
*Вот не урокам — горад хоць куды!*

А мой час вытуквае пад маімі крокамі на менскіх вуліцах Таццяніным і Касіным голасам зусім іншы рытм:

*Мы — дзеці чорнага горада,*
*мы выйшлі з ягонага чэрава,*
*мы сталі ягоным голасам,*
*а голас не мае цэну.*

# Майстар спорту



Павел КАСПЯРОВІЧ

На дровах эканомілі, таму сцены вагона хутка астывалі, і здавалася, што ад холаду няма ратунку — ён прабіраўся пад коўдру і вопратку да самых костак. Да гэтага дадавалася несупыннае пачуццё голаду і цяга да тытуню. Васіль заўсёды намагаўся прачнуцца да агульнай пабудкі і пабыць у думках сярод храпу паўсотні мужчынаў. У такія хвіліны ён узгадваў «Архіпелаг ГУЛАГ» з аповедамі пра сталыпінскія вагонзакі.

«Чаму так усё сталася? Гэтае нішчымнае жыццё… Дзеля чаго, навошта?..»

І гэты ранак нічым не адрозніваўся ад папярэдніх.

Пад столлю слаба мігцела 25-ватная лямпачка Ільіча.

Ад смуроду сцінала дыханне.

Васіль са стогнам апусціў ногі, намацаў у паўзмроку «кірзачы» і вузкім праходам між двух'ярусных ложкаў выйшаў у тамбур, дзе над забітай дошкамі дзіркай ад клазета вісела ракавіна з рукамыйнікам, а над імі надпіс: «Браты, хто будзе мачыцца ў ракавіну, той будзе злоўлены і з ганьбай выгнаны з манастыра».

Але адчувалася, што нехта парушыў правілы брацкага пражывання.

Васіль адчыніў дзверы і выйшаў на вуліцу.

Было яшчэ цёмна.

«Чым не рэзервацыя?» — падумаў ён і агледзеўся.

У дальнім кутку манастырскай тэрыторыі за ангарамі з тэхнікай літарай «П» стаялі тры плацкартныя вагоны, абгароджаныя сеткай-рабіцай з шыльдай на варотах «Без благаслаўлення не ўваходзіць» і з драўлянай прыбіральняй на заднім плане.

Гадзіннік паказваў за пятую гадзіну.

Праз некалькі хвілін у вагонах дзяжурны паслушнік зазвініць званочкам і запяе: «Брація, падымайцеся на малітву!», а потым, як запраўскі «вертухай», агледзіць вагоны, каб ніхто не схаваўся, і зачыніць вароты.

І натоўп людзей рознага паходжання, але аднолькавага сацыяльнага статуса — труднікаў — пасунецца ў манастырскі храм на палунашніцу, дзе размесціцца ўздоўж сценаў і пачне вычытваць, а то і проста перагортваць пад няўцямнае мармытанне сшыткі з імёнамі.

Потым будзе снеданне з ліпкай бульбяной масы і цяжкая праца да палудня, на якім будзе чарговая міска капуснай баланды, і зноў праца да вячэрняй службы, пасля якой выдадуць чарпак грэчкі з кубкам гарбаты.

Кожную восень з першымі прымаразкамі бедалагі рознага кшталту з усіх канцоў Беларусі збіраліся ў манастыр. Спачатку бралі амаль што ўсіх, хто прыязджаў. Гэта авечцы цяжка апрануць звярыныя аблічча, а мацёраму ваўку прыкінуцца авечкай прасцей простага. Труднікі ўводзілі паміж сабой турэмныя стасункі, перыядычна напіваліся, дэбашырылі і хадзілі сярод паломніцкіх экскурсій скрываўленыя, што прыносіла шмат клопату мясцоваму ўчастковаму міліцыянеру. Ён і ўвёў новыя ўмовы для пражывання: наяўнасць пашпарта, не больш за дзве судзімасці і без артыкулаў за разбой з бандытызмам.

Пашпарт Васіль згубіў яшчэ ў Амерыцы і быў дэпартаваны без дакументаў. Бацькі памерлі, не дачакаўшыся сына, сястра іх кватэру прадала, жыла ў іншай вобласці і брата бачыць не хацела.

Адзіны дакумент, які ў яго ацалеў — гэта пасведчанне майстра спорта Савецкага Саюза па боксе, якое ён заўсёды насіў на грудзях, загорнутае ў цэлафан. Бліжэй да цела быў толькі крыж.

Спачатку бацька адвёў маленькага Васілька на секцыю класічнай барацьбы, але нешта не пайшло, і праз два гады Васілёк перайшоў на бокс. Там ён хутка стаў паказваць добрыя вынікі і паступова атрымаў усе разрады, пакуль у 18 гадоў не выйграў першынство СССР у вагавай катэгорыі да 79 кілаграмаў. Стаў трэніравацца «на Еўропу», паступіў на гістарычны факультэт, але на зборы так і не паехаў.

Ты ідзеш па вуліцах роднага горада, малады і здаровы, адзіны 18-гадовы майстар спорта па боксе на ўсю вобласць, на кожным рагу піўны ларок — цябе ведаюць і запрашаюць выпіць.

Толькі баксёрам пад страхам смерці забаронены алкаголь, бо адзін удар, і чалавек — труп.

Як той хлопец прычапіўся да яго, Васіль не помніць. Бойка доўжылася некалькі секундаў. У выніку хлопец ледзьве выжыў у рэанімацыі.

Пасля следства вялікі спорт давялося кінуць, з інстытута выключылі.

Нейкі час папрацаваў грузчыкам у мэблевай краме, ды спіна не жалезная. Прыйшла перабудова. Барцы і баксёры масава зыходзілі ў крымінал. Рабіцца бандытам не хацелася.

Па турыстычнай візе ён з'ехаў у Злучаныя Штаты і не вярнуўся.

Працы не цураўся ніякай: мыў аўтамабілі, прыбіраў памяшканні. Змяніў некалькі штатаў. Калі ўжо было зусім нішчымна, выходзіў на рынг. Шчыра кажучы, ён і ехаў за мяжу з разлікам на свае кулакі. Рускі баксёр у амерыканскай глыбінцы выклікаў зацікаўленасць (бо хто ведаў на Вялікіх Раўнінах пра Беларусь). Плацілі за пяць сотняў за паражэнне і тысячу за перамогу. Пасля аднаго з паядынкаў у Паўднёвай Дакоце пазнаёміўся з дзяўчынай.

Спачатку гэта было каханнем. «Боні і Клайд» яны прагледзелі мноства разоў. Ён выходзіў на бой, яна чакала яго пад рынгам. Потым разам гулялі на ганарар.

Паблізу быў сумна вядомы Пэйн Рыдж — рэзервацыя плямёнаў сіў. Як пісалі ў газетах — філіял сацыяльнага пекла на зямлі, абсалютную большасць якога складалі хранічныя алкаголікі.

Там Васіль канчаткова і спіўся. З боксам прыйшлося завязаць. Адзінае, на што ён стаў здольным, гэта бадзяцца са сваёй сяброўкай па розных прытулках і крышыць зубы абарыгенам.

У рэдкія перыяды прасвятлення прыходзілі думкі, ці варта было з'язджаць на край света, каб спіцца ў рэзервацыі. На Радзіме гэта можна было здзейсніць з тым жа поспехам.

Віна-гарэлачныя крамы знаходзіліся за межамі індзейскай тэрыторыі. Найбліжэйшая ў штаце Небраска. Там Васіля і арыштавалі пасля крадзяжу. Дакументаў ніякіх не было, акрамя пасведчання майстра спорта.

Паліцыянты пакруцілі пасведчанне ў руках:

— What is it?

Ён патлумачыў.

Афіцэры ўсміхнуліся:

— O, o, o, Russian Mike Tyson! — але біць і здзекавацца не сталі.

У Пэйн Рыдж Васіль больш не вярнуўся і каханкі сваёй ніколі не бачыў.

На Радзіму прыляцеў у наручніках.

Родны горад сустрэў яго халадна — каму патрэбны алкаголік пасля 20 гадоў эміграцыі. Першыя месяцы Васіль жыў у знаёмых, потым стаў начаваць у пад'ездах і падвалах. Як не хацелася, стараўся не піць: разумеў, што калі ў юнацтве ён пазбег турмы, дык цяпер адразу сядзе.

Надыходзіла восень. На ўскрайку горада праходзіла цеплатраса, дзе ў калодзежах развязкі ўладкавалі прытулак бамжы. Днём яны выходзілі на промысел, а ноччу збіраліся на начлег. Там Васіль і даведаўся пра манастыр.

Сёння быў апошні дзень яго знаходжання ў манастыры.

Учора ігумен сустрэў Васіля і, хаваючы вочы, папярэдзіў, што пасля літургіі трэба сабраць рэчы і выйсці за вароты. І мітусліва сунуў яму некалькі дробных купюр на дарогу.

Труднікі зайшлі ў храм і расселіся на лаўках.

Пасля палунашніцы пачалася літургія. «Благаславі, душа мая, Госпада, і не забывай усіх дабрадзействаў Яго», — спяваў хор.

У кутку за «галгофай» адбывалася споведзь. Людзі падыходзілі да святара, нешта расказвалі, той слухаў, потым накрываў галаву спаведніка епітрахіллю і чытаў адпускальную малітву.

Васіль дачакаўся сваёй чаргі.

Святар быў знаёмы — айцец Пётр, ужо не малады, гадоў за сорак іераманах, які нёс паслушанне ў бібліятэцы і многа чытаў.

— Добрай раніцы, Васіль, у чым каешся перад Госпадам?

Васіль як ком праглынуў:

— Сорамна за жыццё, прапіў большую палову. Было столькі мар у юнацтве, мог атрымаць адукацыю, стаць чалавекам. Звязаўся з гэтым праклятым боксам, ламаў насы, сківіцы. Навошта? Ледзьве чалавека не забіў. Збег у Амерыку. Жыў у рэзервацыі. Пакахаў там жанчыну, потым спіліся разам. Аборт яна зрабіла, я пагадзіўся… Што з ёй цяпер? Не магу забыць яе. Сёння з'язджаю ад вас. Крыўдую на Бога, на бацькоў, на сябе. Прападу я на волі. Ні працы, ні жылля. Каму я там патрэбны? Зноў бамжаваць, красці, пабірацца ў прывакзальных кафэ. Кулакі мае свінцовыя, адсекчы мне іх, ці што?

Айцец Пётр зніякавеў, бо людзей з сапраўдным болем заўсёды цяжка спавядаць:

— Васіль, хлусіць не буду, не ведаю, як цябе падтрымаць. Мы жывём у манастыры як у Бога за плячыма. Я не быў у тваёй скуры. Помніш індзейскую прымаўку, што не вучы чалавека, пакуль не пройдзеш некалькі міляў у яго макасінах. Вяртайся ў свой горад. Не забывай, што Гасподзь заўсёды паблізу і назірае за табой. Колькі разоў ты мог памерці, але жывеш, значыць, ёсць нейкія планы ў Госпада на цябе. Галоўнае, не пі і не распускай кулакі без сур'ёзнай прычыны.

Святар прачытаў малітву і дабраславіў Васіля крыжам.

Праз некалькі гадзін Васіль ужо трэсся ў прыгарадным аўтобусе. За лясныімі ўзгоркамі знікалі купалы святой абіцелі.

Лета завяршалася, але ночы былі яшчэ цёплымі.

Васіль ляжаў на лаўцы гарадскога парка і глядзеў у неба. Зоркі зіхацелі дыяментамі. Ціха шапацелі векавыя таполі. Рэдкія мінакі таропка праспешвалі хаду.

40 гадоў таму ў парку існавала танцпляцоўка пад народнай назвай «Клетка», і яны бавілі на ёй свае вечары. Знаёміліся з дзяўчатамі, праводзілі іх дамоў. О, светлая пара юнацтва, час летуценняў і кахання. Пачатак жыццёвага шляху. Калі б толькі была магчымасць выправіць усё гэта і надаць сэнс свайму існаванню…

На суседняй лаўцы сядзелі некалькі хлопцаў і гагаталі, як вар'яты, паблізу на паркоўцы стаяў заведзены аўтамабіль:

— Хлопцы, што мы тут сядзім, паехалі ў «Эпалет», там якіх «цёлак» знойдзем, — прапанаваў адзін з іх, здаравяк у спартовым касцюме.

— Ды там будуць адныя малпы, — запярэчыў другі, худы і цыбаты, па інтанацыі галоўны завадатар.

— Кастыль, а табе прыгажуню падавай, не ўсё роўна, у якую шчыліну шчыміцца? — зарагатаў здаравяк.

— Не, не ўсё роўна. Давайце пачакаем, можа, якая лярва будзе ісці.

— Ды мы тут нікога не сустрэнем, мо бамжа вунь таго возьмем? — прапанаваў трэці, па фігуры відаць — «шасцёрка».

— І што ты будзеш з ім рабіць, га-га-га… — засмяяўся яшчэ адзін.

Але тут пачуўся стук абцасаў, праз парк ішла дзяўчына.

Кампанія прыціхла.

— Пацаны, цішэй… не спужайце, — і цыбаты, растапырыўшы рукі, кацінай паходкай пайшоў ёй насустрач. — Дзяўчынка, пастой, не спяшайся, мы з сябрамі якраз цябе і чакаем.

— Проста нябёсы Вас паслалі, га-га-га… — зарагатаў Юрка.

Дзяўчынка пабегла, і хлопцы кінуліся за ёй.

— Кастыль, даганяй, трымай яе! — закрычаў здаравяк.

Цыбаты схапіў дзяўчыну за руку і жорстка пацягнуў у аўтамабіль. Дзяўчына закрычала немым голасам:

— Памажыце!!!

Васіль падхапіўся з лаўкі і падбег:

— Вырадак, адпусці дзяўчыну!

— Што-о-о-о, бамжара паганы, ідзі спаць пад лаўку! — зашыпеў цыбаты і замахнуўся.

Васіль прыгнуўся і паслаў крос — сківіца хруснула, хлопец паваліўся. Васіль развярнуўся, выкінуў джэб у пераносіцу другому, падскочыў і паслаў аперкот у падбародак трэцяму. «Шасцёрка» прысеў, закрыў галаву рукамі і заскавытаў:

— Не бі!

Дзяўчына трэслася ад плачу. Васіль прыціснуў яе да сябе, пагладзіў далонёй па галаве, як быццам дачку, якую калісьці пабаяўся нарадзіць:

— Ну ўсё, супакойся. Пайшлі, праведу цябе дамоў.

Далёка яны не дайшлі. Нехта бачыў бойку і выклікаў міліцыю. У канцы парка іх дагнаў патруль. Васіля скруцілі і начапілі наручнікі. На месцы бойкі стаяла машына «Хуткай дапамогі», цыбатага са здаравяком у непрытомным стане паклалі на насілкі. Васіля, дзяўчыну і астатніх гвалтаўнікоў загрузілі ў патрульны «УАЗік».

У аддзяленні міліцыі хлопцаў прычапілі наручнікамі за краты. Дзяўчыну пасадзілі ў крэсла і ахінулі плечы кіцелем, але яна працягвала плакаць. Васіля груба штурханулі на падлогу і пачалі абшукваць.

— Лейтэнант, паглядзі, што гэта, — сказаў адзін з міліцыянераў і падаў цэлафанавы скрутак.

Лейтэнант гідліва разгарнуў, дастаў маленькую кніжачку і прачытаў:

— Майстар спорта Савецкага Саюза па боксе…

Дзяўчына здзіўлена падняла заплаканыя вочы, хлопцы спалохана азірнуліся.

— Ну што, вырадкі, не пашанцавала вам сёння, на ўсё жыццё запомніце, як дзяўчат гвалціць, — прамовіў лейтэнант. — А ты, баксёр, малайчына, толькі, на жаль, гадоў шэсць з цяжкімі цялеснымі і перавышэннем самаабароны ты зарабіў. Падымайся, майстар, — і падаў яму руку.

Васіль стаяў пасярод аддзялення — брудны і неахайны, але горды і непераможаны. І некалькі дзесяткаў вачэй глядзелі на яго і бачылі не бяздомнага валацугу, а героя, які толькі што здзейсніў самы высокі ўчынак свайго жыцця і мусіць пайсці за гэта ў турму.

Пад бяздонным небам Вялікіх Раўнін, на ўзбочыне пыльнай шашы, самотна стаяла жанчына-індзеянка. Фары рэдкіх машын на некалькі імгненняў выхоплівалі з цемры яе спіты маршчыністы твар, і яна зноў знікала ў цемры. Калісьці ў яе быў сябрук, шмат гадоў яны пражылі разам, але аднойчы ён паехаў па віскі і не вярнуўся. Ніхто не ведаў, што здарылася з ім.

Даўным даўно прыплылі з-за Салёнага Возера белыя людзі і прынеслі многа зла індзейскім плямёнам. Нічога, акрамя нянавісці, не адчувала яна да гэтых людзей, але дзявочаму сэрцу не загадаеш, і яна пакахала аднаго з іх. Цяпер яго няма — праклятая «вогненная вада» атруціла іх каханне. Доўга чакала яна яго і страціла надзею. А сёння раптам адчула ў сэрцы, што ён жывы. І гэта прымусіла яе выйсці пасярод ночы на дарогу і прамаўляць у зорнае неба словы даўняй малітвы індзейскіх жанчын за зніклых воінаў:

— О, Вялікі Маніту, дух зямлі і нябёс, будзь з ім на гэтым ці на тым свеце…

# Пра халеру і…



Яўгеній ЗАМЯЦІН

## Першая казка пра Фіту

Завёўся Фіта самаадвольна ў падполлі паліцэйскай управы. Складзены былі ў падвале старыя паперы, і чуе ўчастковы Пятровіч: нехта ўсё шкрабецца, пагруквае. Адкрыў Пятровіч: пыл, не прачхаешся, і выходзіць шэранькі, прыпылены Фіта. Полу — пераважна мужчынскага, чырвоная сургучная пячатка з нумарам на вяровачцы боўтаецца. Кропельны, бы немаўля, з выгляду самавіты, лысаваты, з брушкам, акурат надворны саветнік, і твар — не твар, а так… Фіта, адным словам.

Дужа ўпадабаў Фіту Пятровіч. Усынавіў яго ўчастковы і там жа, у кутку, у канцылярыі, пасяліў, — і гадаваўся Фіта ў кутку. Панацягаў з падвала старых рапартаў, адносінаў за нумарамі, у рамачках у куточку сваім развесіў, свечку запаліў — і малiцца паважна, адно пячатка шамаціць.

Аднойчы Пятровіч, бацька названы, прыходзіць, а Фіта, бач, да чарніліцы прыпаў і смокча.

— Гэй, Фіцька, ты чаго ж, вісус, робіш?

— А чарнілы, — кажа, — п'ю. Мне ж таксама трэба чагосьці.

— То добра, пі, усё адно казённыя.

Так і харчаваўся Фіта чарніламі.

І да таго дайшло — смешна нават сказаць: пасмокча пёрка ў роце — і піша. З Фітавага ратка — чарнілы самыя сапраўдныя, як ва ўсёй паліцэйскай управе. І ўсё Фіта розныя рапарты, адносіны, прадпісанні крэмзае і ў сябе развешвае.

— Ну, Фіта, — кажа ўчастковы, каторы названым бацькам, — быць табе губернатарам.

Што прадказаў Пятровіч, тое і выйшла: уадначас зрабіўся Фіта губернатарам.

А год быў цяжкі — ну які там год, той самы: і халера, і голад.

Прыкаціў Фіта ў губерню на кур'ерскіх, адразу абывацеляў сабраў — і давай разносіць:

— Гэт-та што ў вас такое? Халера, голад? У — я вас! Чаго глядзелі, што рабілі?

Тыя пачухваюцца:

— Дык мы што, мы нічога. Дахтары вось — халерку выганялі трохі. Зноў жа да смаленскіх па хлеб пасылалі…

— Я вам — дахтары! Я вам — смаленскіх!

Пасмактаў Фіта пяро:

«Прадпісанне № 666. З гэтай даты, уступіўшы належным чынам ва ўладу, голад у губерні мною строга адмяняецца. Катэгарычна прадпісваецца жыхарам адгэтуль быць сытымі. Фіта.»

«Прадпісанне № 667. З гэтай даты пастаноўлена мною неадкладнае спыненне халеры. Зважаючы на вышэйсказанае, неадкладна звальняюцца тыя, хто самавольна называе сябе дактарамі. Тыя, хто незаконна абвяшчае сябе хворымі на халеру, маюць атрымаць законную цялесную кару. Фіта.»

Прачыталі прадпісанні ў цэрквах, расклеілі па ўсіх платах. Жыхары адслужылі падзячны малебен і ў той самы дзень збудавалі Фіту манумент на базарным майдане.

Мінуў дзень, потым другі. На трэці — бач ты, халерны з'явіўся проста ў Фітавай канцылярыі, стаіць там і курчыцца, — от жа, не разумее народ сваёй карысці. Загадаў Фіта выдаць яму законную цялесную кару. Ды халерны сыйшоў — і супрацьурадавым спосабам памёр.

І пачалі, і пачалі паміраць — ад халеры і ад голаду, і ўжо паліцыянтаў не хапала для ўтаймавання злачынцаў.

Пачухаліся абывацелі і гуртом вырашылі: дактароў вярнуць і па смаленскі хлеб паслаць. А Фіту з канцылярыі выцягнулі і вучыць пачалі — па-мужыцку. Народ жа неадукаваны, цёмны.

І расказваюць, скончыўся Фіта гэтаксама не па-сапраўднаму, як і ўзяў пачатак: не крычаў і нічога такога, а толькі ўсё меншаў і меншаў, і таяў, як надзімань амерыканскі чорт. І засталіся толькі чарнільная пляма ды тая самая сургучная пячатка з нумарам.

Паглядзелі мястэчкоўцы: антыхрыстава пячатка. У анучку загарнулі, каб рукамі не чапаць, і закапалі ля цвінтарнай агароджы.

Так Фіта і скончыўся. Але да канца яшчэ ўмудрыўся столькі дзіўных спраў натварыць, што ў адзін дых і не сказаць пра ўсе.

## Другая казка пра Фіту

Указам Фіта адмяніў халеру. Жыхары вадзілі карагоды і працвіталі. А Фіта двойчы на дзень хадзіў у народ, зюкаючы з таксоўшчыкамі і адначасна з любасцю пазіраючы на манумент.

— А што, браткі, каму манумент, ці ведаеце?

— Як, паночку, не ведаць: пану выконваючаму Фіту.

— А то ж. Ці не трэба вам чаго? Усё магу, мне нядоўга.

А быў таксапарк ля самага сабора. Паглядзеў кіроўца на манумент, на сабор, і кажа Фіту:

— Ды вось, гаманілі мы надоечы: дужа ўжо нам вакол сабора ездзіць няўручна. Каб праз плошчу напрасткі…

Было ў Фіты правіла: усё для народа. І быў Фіта розумам хуткі, бы куля. Мігам у канцылярыю за стол — і гатова:

«Гэтым наяўны гарадскі сабор невядомага паходжання прадпісваю прыбрадь неадкладна. На месцы вышэйназванага сабора заснаваць прамаездную дарогу для таксоўшчыкаў. Для прадухілення забабонаў выкананне вышэйвыкладзенага даручыць сарацынам. Падпісаў Фіта».

Раніцай жыхары так і самлелі:

— Сабор жа наш, людцы! У сарацынах увесь — зверху данізу: і на ўсіх пяці галовах, і на крыжы вярхом, і па сценах, рыхтык мухі.

І ўжо сініх галоў няма, і на сінім — зорак срэбраных, і чырвоная старадаўняя цэгла крывёю праступіла на белагрудых мурах…

Тут успомнілі жыхары: не так даўно прыходзіў па сабор Мамай татарскі. Ад Мамая адкупіліся — мо і ад Фіты адкупімся. У складчыну паслалі Фіту ясак: трох дзевак найпрыгажэйшых і чарнілаў чвэртку.

Разгневаўся Фіта, затупаў на жыхароў:

— А ну, зараз жа псік адсюль! Віш, Ма-май! Мамай ваш — мямля, а ў мяне сказана — і аман.

І сарацынам памахаў ручкай: пакуй, браткі, па поўнай, ужо статак дахаты ідзе.

Зайшло сонца — ад сабору застаўся адзін друз. Уласнаручна абазначыў Фіта крэйдаю па лінеечцы прамаездную дарогу. Усю ноч сарацыны шчыравалі — і на досвітку пралегла праз базарны пляц дарога. Простая, паглядзець прыемна.

У пачатку і ў канцы дарогі ўсталявалі слупы, размаляваныя ў пастарункавы чарнільны колер, а на слупах напісана:

«Такога-та года і чысла невядомы сабор знішчаны выконваючым абавязкі Фітам. Ім жа пабудавана гэтая дарога са скарачэннем шляху таксоўшчыкаў на 82,6 аршына».

Базарны пляц быў нарэшце прыведзены ў культурны выгляд.

## Трэцяя казка пра Фіту

Жыхары паводзілі сябе зусім добра — і а пятай гадзіне Фіта абвясціў волю, а паліцыянтаў адмяніў назаўсёды. Ад пятай гадзіны апоўдні ля паліцэйскай управы, на ўсіх скрыжаваннях і вартах, — паўсюль стаялі вольныя.

Жыхары жагналіся:

— Маці святая, дажылі-такі. Зірні: у скуранцы стаіць. Замест мундзіра — у скуранцы, га?

А галоўнае што: вольныя ў скуранках сваю справу ведалі, чыста мянтамі нарадзіліся. У пастарунак цягнулі, у пастарунку — і ў рэпу, і пад дыхавіцу, — ну ўсё як мае быць. Жыхары ад радасці плакалі наўзрыд:

— Слава табе, Госпадзе! Давялося — не хто-небудзь, свае б'юць, вольныя. Стой, браткі, ватоўку скіну: вам гэтак па спіне будзе зручней. Лупі, браткі! Тааак… Слава табе, Госпадзе!

Адзін перад адным ламіліся жыхары навыперадкі пасядзець у астрозе. Да таго там стала добра — слоў няма. І абшукаюць цябе, і на замочак зачыняць, і ў вочка зазірнуць — але ж усе свае, вольныя: слава табе, Госпадзе…

Аднак неўзабаве месцаў бракаваць стала, і пускалі ў астрог толькі тых жыхароў, каторыя больш пашаны маюць. А іншыя ля ўвахода ночы напралёт дзяжурылі і квіткі ў астрог перакуплівалі ў фарцы.

Якія ўжо тут парадак і стабільнасць! І прадпісаў Фіта:

«Злодзеяў і душагубаў загадваю выгнаць з астрога з ганьбай на ўсе чатыры бакі».

Злодзеяў і душагубаў выгналі з астрога на ўсе чатыры бакі, і ахвотныя жыхары патроху ў астрозе размясціліся.

Абязлюдзелі вуліцы — адны вольныя ў скуранках; неяк яно не чапляе. І выдаў Фіта новы ўказ:

«Гэтым указам усім жыхарам прадпісваецца найстражэйшым чынам няўхільная свабода песнапенняў і шэсцяў у нацыянальных строях».

Вядома, калі што ў навіну — яно цяжкавата. І для палягчэння невядомы людзі ўручылі кожнаму жыхару пад распіску тэкст прыблізнага зместу. Але жыхары ўсё-ткі саромеліся і хаваліся па завуголлях: цёмны народ!

Пусціў Фіта па завуголлях вольных у скуранках — вольныя пераконвалі жыхароў не саромецца, паколькі цяпер — воля, пераконвалі ў карак і пад дых. Урэшце пераканалі.

Увечары — як Вялікдзень… Ды што там Вялікдзень!

Паўсюль спявалі адмыслова запрошаныя салаўі. Паўзводна, у нагу, крочылі жыхары ў нацыянальных строях, і каля кожнага ўзвода вольныя з гарматай. Аднагалосна і натхнёна жыхары спявалі, згодна з тэкстам прыблізнага песнапення:

*Слаўся, слаўся, наш добры цар,*
*Богам нам дадзены*
*Фіта-гаспадар.*

А часова выконваючы абавязкі Фіта кланяўся з балкона.

З прычыны нечуванага поспеху жыхары там жа, ля Фітавага балкона, пад кіраўніцтвам вольных, у аднагалосным узвесяленні пастанавілі: увесці штодзённую паўзводную свабоду песнапенняў ад гадзіны да дзвюх.

У тую ноч Фіта ўпершыню спаў спакойна: жыхары відавочна і хутка прасякаліся духам асветы.

## Апошняя казка пра Фіту

А быў яшчэ ў горадзе прамудры аптэкар: чалавека зрабіў, ды не так, як мы, грэшнікі, а ў шклянцы, ці ж яму чагосьці не ведаць?

І распарадзіўся Фіта аптэкара даставіць.

— Скажы ты мне, будзь ласкавы: і чагой-та мае людзі ў неслужбовы час ходзяць сумныя?

Зірнуў прамудры аптэкар у акенца: некаторыя хаты з канькамі, некаторыя з пеўнікамі, некаторыя жыхары ў нагавіцах, некаторыя ў спадніцах.

— Вельмі проста, — адказвае Фіту. — Хіба гэта парадак? Трэба, каб усё было аднолькавае. Наогул.

Так — так-так. Жыхароў — паўзводна за горад усіх, на выган. І ў пустым горадзе — агонь з усіх чатырох старон: дашчэнту выгарэла, толькі плеха чорная — ды манумент Фіту пасярод.

Усю ноч пілы пілілі, малаткі грукаталі. Пад ранак — гатова: барак, накшталт халернага, даўжынёю ў 8,215 км, па баках — закуткі з нумарамі. І кожнаму жыхару — масянжовую бляху з нумарам і з шэрага сукна ўніформу з іголачкі.

Як гэта ўсё пашыхтавалася ў калідоры — кожны ля свайго шастка, бляхі на паясах — бы жар-птушкі, аднолькавыя ўсе, бышцам новыя шэлегі… Да таго добра, што наколькі ўжо Фіта моцны, і тое ў носе заказытала, сказаць нічога не сказаў. Рукою махнуў — і ў свой пакойчык, № 1. Слава табе, Госпадзе, цяпер і памерці можна…

Раніцою, ледзь развіднела, яшчэ і званок не забомкаў (па званку ўставалі) — а ўжо ў дзверы № 1 грукаюць:

— Дэпутаты там да Вашай міласці, па неадкладнай справе.

Выйшаў Фіта: чацвёра ва ўніформе, пашанотныя такія жыхары, лысыя, у гадах. Паясны паклон Фіту.

— Ды вы ад каго дэпутаты?

І загаманілі шаноўныя — усе чацвёра адразу:

— Гэта што ж такое — ніяк немагчыма — гэта непарадак нейкі… Ад лысых мы, значыцца. Гэта, значыць, аптэкар кучаравы ходзіць, а некаторыя пад полькy, а мы — лысыя? Не-е, аніяк немагчыма…

Яшчэ і пастрыгчы ўсіх не паспелі — зноў Фіта патрабуюць, і зноў дэпутаты. Выйшаў Фіта маркотны: якога йшчэ ражна?

А дэпутаты:

— Гы-ы! — адзін у кулак. — Гы-ы! — другі. Макраносыя.

— Ад каго? –прабурчэў Фіта.

— А мы, ета… Гы-ы! Да вашай міласці мы: ад дурняў. Гы-ы! Жадаем, значыць, каб, значыць, усім, ета значыць, раўнамерна…

Хмара хмарай вярнуўся Фіта ў № 1. Па аптэкара.

— Чуў, брат?

— Чуў… — галасок у аптэкара баязлівы, галава ў сітцавай хустачцы ад холаду. Нязвыкла стрыжанаму.

— Ну, то што ж нам цяпер?

— Ды што-што: цяпер ужо чаго там. Назад нельга.

Перад вечаровымі модламі прачыталі загад жыхарам: быць усім чмурнымі дурнямі раўнамерна — ад заўтрашняга дня.

Войкнулі жыхары, а што будзеш рабіць: супраць начальства хіба пойдзеш? Разумныя кніжкі апошні раз паселі чытаць, да самага вечаровага званка ўсе чыталі. Па званку спаць палеглі, а раніцай усе ўсталі — чмурныя. Весялосці — поўныя штаны. Локцямі адзін аднаго падштурхоўваюць — гы-ы! Гы-ы! Толькі і гутаркі — зараз вольныя ў скуранках цэбар з кашай прыкоцяць: каша ячная.

Прагуляўся Фіта ў калідоры — восем кіламетраў і сто дваццаць пяць метраў, бачыць — вясёлыя. Ну, адлегла: цяпер ужо ўсё. Прамудрага аптэкара ў закутку абняў:

— Ну, брат, за парады дзякуй. Век не забуду.

А аптэкар Фіту:

— Гы-ы!

Во якая справа: адзін застаўся. Аднаму за ўсіх думаць.

І толькі Фіта зачыніўся ў № 1 — думаць, — як зноў у дзверы. І ўжо не грукаюць, а папросту ломяцца, лезуць, гахаюць:

— Э-э, брат, не, не ашукаеш! Мы хоць і чмурныя, а таксама, знычць, разумеем… Ты, брат, тожа чмурэй. А то віш ты… Не-е, брат!

Лёг Фіта на ложак, заплакаў. А рабіць няма чаго.

— Бог ужо з вамі, ладна. Дайце часу да заўтра.

Увесь дзень Фіта сярод чмурных цягаўся і ўсё дурэў патрошку. І пад раніцу — гатоў, ходзіць і — гы-ы!

І зажылі шчасліва. Няма на свеце шчаслівейшых, як чмурныя.

**1917**

**Пераклаў з рускай**
**Вольф Рубінчык**

# Старонкі з «Памятнай кніжкі»



Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК

**23 красавіка 2015 г., чацвер.**

Голы красавік, а думаю пра няголы верасень — пра кветкі ў маім былым давыд-гарадоцкім агародзе...

Блакітны агератум, ружовая і белая флёкса, сіняя фацэлія, белыя лейкі батуры, дробненькія маргарыткі, белая і ружовая петунія, густа чырвоная сальвія, жоўта-апельсінавая календула, астры (размаітыя, ужо крыху паніклыя), белы алісіум (мядоўкі), блякла-чырвоная хінацэя...

Тое, што не можа вярнуцца, ніколі не вернецца, — і гэта добра!

Памяць робіцца моцнай ад таго, што яно не вернецца...

**1 верасня 2015 г., аўторак.**

Сёння йшоў да станцыі метро «Малінаўка» і спыніўся ля шапіка, убачыўшы на вітрыне кнігу Аляксея Карпюка «Пушчанская адысея».

Імя пісьменніка на бэзавай вокладцы напалову было залеплена цэннікам — 25900; выглядвалі толькі тры літары «... сей».

Я намерыўся быў ісці далей, аднак жа не — вярнуўся і купіў гэту кнігу...

Некалькі разоў я слухаў выступленні Аляксея Карпюка (чалавека надзвычай смелага!) у Саюзе пісьменнікаў, некалькі разоў сустракаўся з ім у Гародні і ў Мінску, у выдавецтве «Мастацкая літаратура», калі быў рэдактарам альманаха «Літаратурная Гродзеншчына», у які А. Карпюк прапаноўваў цалкам уключыць раман Янкі Брыля «Птушкі і гнёзды».

Незвычайная прапанова!

А ўсё, што ён прапаноўваў, рабіў, гаварыў зазвычай мела рысы незвычайнасці, нават неверагоднасці.

Ён сам быў незвычайны.

І не мне тут расказваць пра ягоны фантастычны лёс; Васіль Быкаў напісаў аб тым і дакладна, і праўдзіва, і з вялікай сімпатыяй да свайго сябра Алёшы.

Я толькі хачу сказаць, што памяркоўныя беларусы мелі непамяркоўнага Аляксея Карпюка, які сказаў пра сябе ў рамане «Пушчанская адысея»: «Я заўсёды падабаюся сабе, калі знаходжу сілы з многіх шляхоў выбіраць самы цяжкі...».

Вось такі беларускі нарцысізм — свядома выбіраць не лёгкае, а цяжкое, каб сабе спадабацца!

Здаецца, гэта й ёсць адказ на пытанне: «Чаму празаік Аляксей Карпюк быў непадобны на іншых?».

**22 верасня 2015 г., аўторак.**

Мая любімая кніга Максіма Гарэцкага — «Віленскія камунары», і любімая перш за ўсё таму, што яна дае магчымасць спазнаць, адчуць душу беларуса не вясковага, а сталічнага, жыхара роднай Вільні, які жыве ў сваёй Вільні і размаўляе па-беларуску.

Няхай сабе ў творы і пракідваюцца сказы накшталт: «...уцягвалі беларускія нацыяналісты ў свае сеці «масу»...», але не трэба забываць: «Віленскія камунары» ствараліся ў 1930-я гады на выгнанні пад пільным сталінскім вокам, і такія рэдкія фразы выконвалі ролю адчапнога, аднак жа і ў іх Максім Гарэцкі не баяўся выказаць іронію — невыпадкова ж слоўца «маса», якое так любілі бальшавікі, ён узяў у двукоссе...

Немагчыма чытаць гэты цудоўны твор і не сачыць за ягонай адметнай мовай...

Чалавек, які добра пра цябе гаворыць, паводле Максіма Гарэцкага — светлагляздзец, а замежныя мовы — іншакраінныя мовы, а заместа назоўніка лётчык пісьменнік ужывае свой назоўнік — лётнік, а канцылярскі выраз: «Данёс на яго ў паліцыю...» у рамане гучыць так: «Утапіў таварыша...».

**23 верасня 2015 г., серада.**

У сваёй кнізе «Поўня» Леанід Галубовіч прамовіў: «Наша пісьменніцкае. Увесь час хочам спасцігнуць глыбіні ўласнай душы. А там усё так мелка і каламутна».

Здаецца, не толькі ў пісьменніцкіх душах так, у іншых таксама, аднак жа ёсць істотная розніца...

У старой адзінокай Мартачкі было пятнаццаць курэй, адна свіння і козная каза. Зімовай ноччу здзічэлыя сабакі загрызлі ўсіх курэй і свінню, а каза ўратавалася, бо зашылася ў адрыне за дровы і там аказілася — тры козкі і козлік упалі на салому, і каб не змерзлі, Мартачка на досвітку забрала іх у хату, казе дала цёплай вады, падаіла і напаіла малаком казлянятак...

Увесну Мартачка памерла.

За гадзіну да яе смерці каза з казлянятамі прыбегла з выпасу і развіталася з Мартачкай — раней жа такога ніколі не было, каб сярод дня (!) пакідала пашу...

Дык вось, істотная розніца ў тым, што за гадзіну да нашай, пісьменніцкаў, смерці козы не прыбягуць развітацца з намі.

**1 кастрычніка 2015 г., чацвер.**

Я двойчы наўздагад разгарнуў «Вайну і мір» Льва Талстога і, нібыта з акіяна, вылавіў дзве жамчужыны.

Першая: «Несмотря на то, что доктора лечили его (П'ера. — Л. Д.-М.), пускали кровь и давали пить лекарства, он все-таки выздоровел...».

Добра вядома тое, што аўтар выдатнейшага рамана выступаў супраць дзяржаўных інстытутаў, царквы, арміі, развіцця капіталізму — пабудовы заводаў і чыгункі; высмейваў Напалеона, оперу як форму мастацтва і п'есы Антона Чэхава; не прымаў «Слова пра паход Ігаравы»; як бачна, не мілаваў і лекараў з іхняй медыцынай.

І жамчужына другая: «Только в наше самоуверенное время популяризации знаний, благодаря сильнейшему орудию невежества — распространению книгопечатания, вопрос о свободе воли сведен на такую почву, на которой и не может быть самого вопроса...».

Пытанне пра свабоду волі пакіну мыслярам, бо зацікавіла мяне перш за ўсё неверагодная трактоўка кнігадрукавання.

Дык вось, калі кнігадрукаванне паводле Льва Талстога — невуцтва, прычым мацнейшая яго стадыя, то што тады геній сказаў бы пра словасвет — інтэрнэт?

Вельмі хацеў бы я пачуць...

**7 кастрычніка 2015 г., серада.**

Люблю восень, бо яна ніколі не хлусіць!

Заўсёды хлусіць вясна, нават у сталыя гады кружыць галаву, часам абяцаючы неверагоднае.

Восень жа нічога не абяцае, а цвяроза гаворыць: «Жыві ў адпаведнасці з тым, што маеш. Калі ў тваёй кішэні пяць капеек — жыві на пяць капеек! А калі маеш пяць залатых царскіх рублёў — жыві на пяць залатых царскіх рублёў!».

Вясна кажа: «Ты — кароль!».

І няшчасны зазвычай верыць гэтаму падману.

А восень гаворыць: «Ніякі ты не кароль, а проста чалавек, таму і жыві па-чалавечы, бо калі размахнешся жыць па-каралеўску — чакай тады бяды!».

**12 кастрычніка 2015 г., панядзелак.**

З месяц таму без ніякай патрэбы (у такім выпадку прынята казаць: ад няма чаго рабіць!) разгарнуў я на 802-й старонцы «Советский энциклопедический словарь», выдадзены ў Маскве ў 1989 годзе, і прачытаў першае, што ўпала ў вока: «Мёрике (Mörike) Эдуард (1804–75), нем. писатель-романтик. Лирика в нар. духе, сказки, пов. «Моцарт на пути в Прагу» (1856)...».

«Моцарт на пути в Прагу»! Якая дзівосная назва! — толькі й падумаў і тут жа пакпіў з сябе. «Выпускнік Літаратурнага інстытута, а дагэтуль і не ведаў, што ёсць такі пісьменнік, і, мусіць жа, ягоную аповесць з такім слаўным тытулам так ніколі і не прачытаеш?!»

І от жа дзіва — літаральна праз дзень-два згаданая аповесць на мове арыгінала (!) апынулася на маёй паштовай скрыні — не ўсярэдзіне, а зверху — бо мая паштовая скрыня шырокая, як паліца.

Вядома, кнігу Мёрыке (дарэчы, 1946 года выдання!) пакінуў тут нехта з маіх суседзяў ці нехта з гасцей маіх суседзяў — справа звыклая, людзі пераглядаюць свае кніжныя зборы і ўсё тое, што ім здаецца лішнім, заносяць куды заўгодна.

Словам, ніякай тут асаблівай таямнічасці або загадкавасці няма, проста супала так, што, скажам, сёння ты выпадкова даведаўся пра нейкі невядомы мастацкі твор, а ўжо назаўтра табе яго падкінулі...

І ўсё ж такі — супадзенне, можна сказаць, незвычайнае, да цёплай дрыготкі ў целе!

**2 лістапада 2015 г., панядзелак.**

Сёння з кампазітарам Ігарам Лучанком па Койданаўскай (Рэвалюцыйнай) і паўз помнік Максіму Гарэцкаму мы выйшлі на Пляц Волі і селі на аўтобусным прыпынку плячыма адразу да трох пасольстваў — балгарскага, французскага і швейцарскага, а вачыма — да ратушы.

Вуліца, як заўсёды, густа засыпана была аўтасмеццем, і праз ягоны працяглы смуроды гудат ратушныя куранты адыгралі пачатак прыпеву «Песні пра Мінск», якую Ігар Лучанок напісаў на верш Пімена Панчанкі і якая ўпершыню прагучала ў радыёспектаклі «Мінскі напрамак» паводле аднайменнага рамана Івана Мележа...

— У нас ёсць з табой забытая песня! — сказаў Ігар Лучанок.

— Якая? — здзівіўся я.

І ён прачытаў пачатак майго даўняга, здаецца, з 1991-га года верша:

*Мы не згубіліся ў свеце,*
*Мы збераглі свой дом...*
*Нам пераможна свеціць*
*Грунвальд сваім шчытом!*
*Радзіма Беларусь,*
*Ты сцяг свой узняла,*
*Сатканы з белых руж*
*І чырвані-святла...*

**15 лістапада 2015 г., нядзеля.**

Доктар Казімір Ірмалевіч, адзін з галоўных герояў рамана Кузьмы Чорнага «Сястра», раіў Мані, якая даводзілася яму стрыечнай сястрой: «Не паглыбляйся вельмі ў тое, што ніколі не будзе афармленым і канчаткова акрэсленым. Шкодна гэта і непатрэбна...».

Зрэшты, гэта парада самога Кузьмы Чорнага, выдатнейшага беларускага празаіка — парада сваім чытачам і, кажу без ніякага пафасу, парада ўсяму народу.

І што на гэта нашы людзі — ну, хоць бы тыя, якія прачыталі раман «Сястра»?!

А нічога...

І ў палітыцы, і ў сямейным жыцці ўвесь час толькі й робіць тое, што паглыбляюцца ў неаформленае і неакрэсленае, і зусім не заўважаюць або не хочуць заўважаць, што гэта і шкодна, і непатрэбна.

**11 снежня 2015 г., пятніца.**

У 1920-я гады гэта быў Каломенскі (па назве) сквер, а пазней і пасёння — Міхайлаўскі; побач знаходзіўся Віленскі рынак і зусім блізка — Віленскі вакзал.

Аднак жа не, не Каломенскі і не Міхайлаўскі, а скверык Сястры!

Прынамсі так я называю гэту менскую мясціну, бо яе ўславіў у сваім геніяльным рамане «Сястра» Кузьма Чорны.

Тут некалі залацела кавярня, куды ўчашчалі героі рамана, якія шмат думалі пра Сястру — вобраз безумоўнай беларускай чысціні — Маню Ірмалевічанку.

Паблізу жыў стары Радзівон Цівунчык, які мудра маркоціўся: «На добрага чалавека ты мала дзе трапіш!».

І гэты скверык — любімы менскі куток Ваці Браніслаўца...

Лясны каморнік Ваця — чалавек пачуцця, так пра яго сказана ў рамане; Ваця «...ганяецца за нечым па свеце...» — і ўрэшце, у ім «...радасць існавання жыла... вялікімі навальніцамі...».

І менавіта ж тут, у скверыку, Ваця сказаў Мані:

— Я хачу быць блізкім да вас.

— Можа, мы і ёсць блізкія...

Па-іншаму хутаранская каралеўна і адказаць не магла, бо мела крэда: «Жывое душы больш патрэбна чалавеку...».

Сёння скверык Сястры ўпрыгожваюць скульптуры У. Жбанава; першая — прыгажуня ў капелюшы, якая самотна адпачывае на лавачцы, але гэта не блокаўская Незнаёмка, як заяўлена ў электронных энцыклапедыях, а менавіта Сястра — пяшчотная гераіня рамана Кузьмы Чорнага.

Другая скульптура — юнак у кепцы — Ваця Браніславец.

І што цікава (дзякуй скульптару!): ёсць помнік і будучай чытачцы рамана «Сястра» — гэта дзяўчынка з парасонам...

Магчыма, у больш літаратурную, у больш беларускую эпоху мы, непахісныя ў веры, што беларуская літаратура ствараецца толькі (!) на беларускай мове, будзем прыходзіць у скверык Сястры з аднайменным творам Кузьмы Чорнага і будзем тут прачытваць хоць некалькі старонак ягонай дзівоснай кнігі, не забываючы пра свой штодзённы клопат...

Неблагая можа скласціся завядзёнка...

**25 снежня 2015 г., пятніца.**

Калі я першы раз прачытаў аповесць Міхася Стральцова «Адзін лапаць, адзін чунь»?

Не памятаю.

Аднак жа ма́ю дакладную дату, калі перачытаў гэту рэч — 17 красавіка 2003 года.

І от учора зноў разгарнуў прозу, у якой хлопчыку Іванку, бацька якога загінуў на вайне, зімой няма ў чым выйсці на вуліцу, і ён гэтак жа шчымліва марыць пра абутак (чуні!), як гогалеўскі Акакій Акакіевіч марыў пра шыняля!

Аповесць М. Стральцова мае ўсе прыкметы вялікай літаратуры.

Іванкаў дзед Міхалка моліцца: «Божа... У мяне падбілася душа. У мяне не стала душы — засталося адно шкадаванне. Мне ўсіх шкада... Так, мусіць нельга...».

Думаючы пра шчырага, але крыху неразумнагааднавяскоўца Лякcея Гурмака, Іванкаў дзед непакоіцца: «...Бог не даў розуму, але даў добрую душу. Ці справядліва гэта? Ці можна замяніць адно другім? І адкуль, навошта ў яго гэты неспакой, жаданне дакazаць сабе, што ён такі ж, як і ўсе... Божа, ты не даў розуму, але чаму ты не даў няведання пра гэта — хіба ж не пакута?».

Аднак жа дзед Міхалка больш думае пра ўнука Іванку, які ўжо ўмеў падняцца над сваімі дзіцячымі няўдачамі і крыўдамі і адчуць сябе цэнтрам усяго, бо «...усё існавала толькі таму, што быў ён (Іванка. — Л. Д.-М.)...».

Хто з нас не ведаў (і не ведае!) гэтага салодкага з дзяцінства адчування: свет жыве толькі таму, што я жыву!

Варта адно заплюшчыць вочы, і свет знікае; варта расплюшчыць, і ўсе жыццёвыя фарбы вяртаюцца!

...Не знаю, калі зноў разгарну аповесць Міхася Стральцова «Адзін лапаць, адзін чунь»; знаю толькі, што разгарну...

# Даследнікі даўніны



Уладзімір АРЛОЎ

**Яшчэ ў далёкія антычныя часы гісторыю называлі настаўніцаю жыцця. Ва ўсе часы яе лічылі надзвычай важнаю навукай. Яна дапамагае людзям зразумець, адкуль іх род, якімі шляхамі ішлі продкі з мінулага ў сучаснасць. Гісторыкі даследуюць даўнейшыя падзеі, каб высветліць іхнія сапраўдныя прычыны і вынікі, назваць імёны герояў і ворагаў, знайсці ў даўніне ўрокі для новых пакаленняў. Кажуць, той, хто не ведае мінулага, не будзе мець будучыні. Гэта датычыць і кожнага чалавека, і цэлага народа. Гістарычная памяць — магутная стваральная сіла, што яднае народ і дапамагае яму з годнасцю прайсці праз самыя цяжкія выпрабаванні. У XIX стагоддзі, калі насуперак чужой уладзе нашыя прадзеды ператвараліся ў шматмільённы беларускі народ, гістарычная навука была асабліва неабходнаю.**

## Прафесура Віленскага ўніверсітэта

Мінулае Літвы-Беларусі грунтоўна вывучалі ў галоўнай вышэйшай навучальнай установе краю — Віленскім універсітэце.

Прафесар Міхал Баброўскі знайшоў каштоўны Супрасльскі летапіс і стаў першым айчынным скарыназнаўцам. Ігнату Даніловічу належаць вялікія заслугі ў вывучэнні Статутаў Вялікага Княства Літоўскага. Ён сабраў і надрукаваў дзве з паловаю тысячы старадаўніх дакументаў. Гэтыя вучоныя выступалі за аднаўленне нашай дзяржаўнасці, вяртанне ў шырокі ўжытак беларускай мовы і сталі пачынальнікамі нацыянальнага адраджэння.

Вядомае і імя прафесара Яўхіма Лялевеля — натхняльніка патрыятычнай моладзі з кола філаматаў і філарэтаў, аўтара закліка «За нашу і вашу свабоду». Лялевель разглядаў мінулае не як гісторыю князёў і каралёў, а як гісторыю дзяржаваў і народаў. Ён лічыў, што гістарычная навука павінна ствараць «лістапад народнага жыцця». Напісаная ім «Гісторыя Літвы і Русі да Люблінскай вуніі з Польшчай» выводзіла пачатак айчыннай дзяржаўнасці з Полацкага княства. Прафесар ведаў спадчыну Францішка Скарыны. Высока ацэньваючы дзяржаўную беларускую мову Вялікага Княства, Яўхім Лялевель, як і Адам Міцкевіч, падкрэсліваў яе старажытнасць і багацце.

У час паўстання 1831 года Лялевель уваходзіў у яго Часовы ўрад. Пад уплывам гэтага гісторыка і палітыка пазней склаліся погляды Кастуся Каліноўскага ды яго аднадумцаў. Сёння ў Вільні і Горадні можна прайсці па вуліцах імя Лялевеля. У адной з залаў бібліятэкі Віленскага ўніверсітэта створаная цікавая экспазіцыя пра Лялевеля, а ва ўніверсітэцкім двары лёгка знайсці памятную дошку выдатнаму суайчынніку.

Плённа збіраў археалагічныя і пісьмовыя сведчанні гісторыі Літвы-Беларусі прафесар Ігнат Анацэвіч. Яго ведалі і паважалі супрацоўнікі архіваў і бібліятэк Варшавы і Кёнігсберга, Дэрпта і Рыгі, Пецярбурга і Масквы.

Віленскія студэнты з нецярпеннем чакалі гістарычна-археалагічных экспедыцый па родным краі, куды іх клікаў прафесар Іван Лабойка. Пад яго кіраўніцтвам моладзь зрабіла апісанні васьмідзесяці гарадоў і мястэчак.

Прафесар Язэп Ярашэвіч вызначаўся бліскучым веданнем летапісаў і хронік. Ён мог бы вольна паразмаўляць на старабеларускай мове з вялікім князем Гедзімінам пра перавод сталіцы дзяржавы з Навагрудка ў Вільню або з гетманам Канстанцінам Астрожскім пра разгром маскавітаў у бітве пад Воршай. Ярашэвіч напісаў гістарычныя нарысы пра беларускія Бельск, Драгічын, Супрасль. Калегі-выкладчыкі і студэнты зачытваліся ягонай трохтомнай кнігай «Вобраз Літвы ад найстаражытнейшых часоў да канца XVIII ст.». Пасля змагарскіх падзей 1831 года Ярашэвіч апынуўся ў ліку гісторыкаў-патрыётаў, абвінавачаных уладамі ў «няправільным накірунку мыслення» і надоўга пазбаўленых працы.

У 1832-м на дзверы ўніверсітэцкіх карпусоў павесілі цяжкія замкі. Каланізатары не толькі помсцілі за ўдзел педагогаў і студэнтаў у змаганні за незалежнасць. Страх выклікала сама дзейнасць віленскіх гісторыкаў і філолагаў, паогул гуманітарыяў. Яны адкрыта і абгрунтавана заяўлялі пра самастойнасць беларускага народа, яго гісторыі, культуры і мовы.

## У Полацку, Гомелі, Слуцку

Гісторыяй свайго краю глыбока цікавіліся выкладчыкі Полацкага езуіцкага калегіюма, пераўтворанага ў 1812-м у Акадэмію з правамі ўніверсітэта. Гэта пацвярджае акадэмічны часопіс «Полацкі месячнік», што меў адмысловы гістарычны раздзел. Там публікаваліся ўрыўкі з даўніх рукапісаў, краязнаўчыя і навуковыя нарысы. Аўтары часопіса прыйшлі да высновы, што ў часы Рагвалода і Рагнеды продкі беларусаў — крывічы — ужо мелі дзяржаву, якая дасягнула найвышэйшай магутнасці за князем Усяславам Чарадзеем. Гісторыя дзяржаўнасці працягвалася ў Вялікім Княстве Літоўскім, дзе галоўнае месца належала беларускім землям, а дзяржаўнай моваю была старабеларуская.

Аднак каланіяльныя ўлады зачынілі Полацкую акадэмію яшчэ раней за Віленскі ўніверсітэт...

Знаныя калекцыі рукапісаў, старадрукаў, археалагічных і этнаграфічных матэрыялаў былі



Двор Віленскага ўніверсітэта з вежай абсерваторыі напрыканцы XVIII ст.

сабраныя ў Гомелі. Іх даследнік Іван Грыгаровіч пачаў выдаваць «Беларускі архіў старажытных грамат». Туды ўвайшлі дакументы XIII–XVIII стагоддзяў: прывілеі вялікіх князёў, граматы гарадоў з магдэбургскім правам на самакіраванне, пастановы Берасцейскага царкоўнага сабора 1596 года, на якім была створаная Вуніяцкая царква. З'яўленне такога архіўнага зборніка доказна абвяргала цвярджэнні пра адвечную прыналежнасць Літвы-Беларусі да «русского мира». Царская цэнзура спыніла публікацыю «Беларускага архіва». Толькі пры канцы XX стагоддзя знайшлася і была надрукаваная праца Грыгаровіча «Беларуская іерархія». Яна ўзбагаціла сучасных гісторыкаў шматлікімі звесткамі з мінулага праваслаўнай царквы.

Вялікая ўвага надавалася айчыннай гісторыі ў Слуцкай гімназіі. Яе выпускнік Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч стаў каталіцкім арцыбіскупам і мітрапалітам, але, нягледзячы на шматлікія царкоўныя клопаты, усё жыццё цікавіўся беларускай даўнінай. Ён спачуваў паўстанню Тадэвуша Касцюшкі, разглядаў у сваіх працах паходжанне беларусаў, напісаў кнігу «Гісторыя сарматаў і славян».

Магілёвец Міхал Без-Карніловіч быў генералам і кіраваў некалькімі тапаграфічнымі экспедыцыямі па беларускіх губернях. У выніку нарадзілася кніга «Гістарычныя звесткі пра знакамітыя мясціны ў Беларусі». Яна зрабіла аўтара вядомым гісторыкам, краязнаўцам і этнографам. Без-Карніловіч з гонарам пісаў пра створанае крывічамі магутнае Полацкае княства і яго паспяховае змаганне з наступам крыжакоў. Ён вызначыў месца — берагі Валовай азярыны, — дзе ў дахрысціянскім Полацку знаходзілася галоўнае паганскае капішча. І сёння з вялікай цікавасцю чытаюцца сабраныя гэтым гісторыкам звесткі пра беларускія гарады і мястэчкі Магілёў, Віцебск, Воршу, Мсціслаў, Друцк, Копысь, Лукомль,Чарэю, Себеж, Невель, Люцын.

Без-Карніловіч даў дасціпныя апісанні характару нацыянальных меншынаў краю, аднак найперш — саміх беларусаў. У сярэдзіне XIX стагоддзя ён пісаў: «Ад беларуса ўсяго можна дабіцца справядлівасцю, памяркоўнасцю і ласкай. Ён верны і ўдзячны за дабро, ды пры гэтым не стрывае ўчыненай яму несправядлівасці. Нашчадкі крывічоў шчырыя і дасюль захавалі мову, народнае адзенне і звычаі даўніх пакаленняў».

## Павел Шпілеўскі

Беларускімі паданнямі пра пярэваратняў-ваўкалакаў, пра зачараваныя скарбы і змаганне асілкаў з лютымі цмокамі з дзяцінства цікавіўся будучы этнограф, фалькларыст і пісьменнік Павел Шпілеўскі. Ён нарадзіўся на Бабруйшчыне, але вучыўся і значную частку жыцця правёў у Пецярбурзе. Там пад адметным псеўданімам — Драўлянскі — і сапраўдным прозвішчам выходзілі ў свет яго шматлікія этнаграфічныя і гістарычныя публікацыі: «Беларускія народныя паданні», «Даследаванне пра ваўкалакаў», «Беларускія прымаўкі», «Вясельныя абрады», «Беларусь у фантастычных яе казках», «Пасольства Льва Сапегі ў Масковію».

Беларусаў гэты вучоны лічыў «найстаражытнейшым народам у славянскім свеце».

Шматлікія чытачы і сёння маюць літаратурна-краязнаўчыя нарысы Шпілеўскага, аб'яднаныя ў кнігу «Падарожжа па Палессі і Беларускім краі».

## Вандроўнік Даленга

У першай чвэрці XIX стагоддзя ў многіх беларускіх гарадах і паселішчах адбываліся раскопкі, якімі кіраваў высокі, вастраносы, нязменна засяроджаны чалавек адразу з некалькімі нататнікамі ў кішэнях. Ён заўсёды гатовы быў прачытаць гістарычную лекцыю цікаўным мясцовым жыхарам. Гэтага археолага звалі Зарыян Даленга-Хадакоўскі.

Амаль ніхто не ведаў, што яго сапраўднае імя –Адам Чарноцкі. Шляхціча Чарноцкага за сімпатыі да Напалеона здалі ў салдаты. З войска ён уцёк да французаў разам з планам Бабруйскай фартэцы. Потым, развітаўшыся з няспраўджанымі надзеямі на аднаўленне Вялікага Княства, Адам і змушаны быў памяняць імя і прозвішча.

Даленга-Хадакоўскі шмат вандраваў: збіраў старадаўнія рэчы, запісваў народныя звычаі, песні і казкі, загадкі і замовы. У 1818 годзе ён упершыню атрымаў ад Віленскага ўніверсітэта дазвол на раскопкі ў Літве-Беларусі і правёў паспяховыя археалагічныя росшукі ў Полацку, Тураве, Віцебску, наваколлі Берасця, Магілёва, Гомеля, Бабруйска. Зарыян удакладніў межы рассялення крывічоў і месца векапомнай бітвы на Нямізе. Яго цікавілі даўнейшыя гандлёвыя шляхі па Дзвіне, Дняпры, Нёмане, Бярэзіне. Дваццаць істотных памылак ён выявіў у «Гісторыі дзяржавы Расейскай» Мікалая Карамзіна.

Зарыян Даленга-Хадакоўскі пакінуў наступнікам гістарычна-геаграфічны і астранамічна-батанічна-заалагічны слоўнікі, зборнікі беларускіх песняў і міфаў, запісы прыказак і прымавак. Мы называем яго адным з першых айчынных гісторыкаў, археолагаў і этнографаў. Ягоныя даследаванні сталіся ўзорам для цэлага шэрагу славутых вучоных: чэха Паўла Шафарыка, паляка Лукаша Галамбёўскага, расейца Ізмаіла Сразнеўскага. Сваім настаўнікам лічылі Зарыяна Даленгу і прадаўжальнікі ягонае справы ў Беларусі браты Канстанцін і Яўстах Тышкевічы.

## Графы Тышкевічы

Беларускія арыстакраты Тышкевічы здаўна валодалі мястэчкам Лагойск. Граф Пій Тышкевіч, які пражыў 102 гады, збудаваў там на пачатку XIX стагоддзя прыгожы двухпавярховы палац. У Лагойску ён адчыніў палатняна-папяровую мануфактуру. Часта запрашаў да сябе гасцей на балі ды канцэрты, бо цудоўна граў на скрыпцы.

Пія любілі за гасціннасць, хоць сёй-той лічыў графа дзіваком, таму што мацней за гаспадарчыя клопаты яго вабілі справы даўно мінулых дзён. Гаспадар лагойскага палаца пісаў хроніку свайго роду і старанна парадкаваў яго архіў. У палацавых пакоях на сценах былі развешаныя панцыры і кальчугі, мячы, дзіды і арбалеты. Граф ганарыўся нумізматычнай калекцыяй з 1150 манет і медалёў, рэдкімі знаходкамі з антычных гарадоў Пампеяў і Геркуланума, што загінулі ад вывяржэння вулкана Везувія. Пій мог на цэлы дзень зачыніцца ў палацавай бібліятэцы з даўнім рукапісам. На пытанні родзічаў, што ён шукае ў старасвеччыне, дасціпна адказваў: «Заўтрашні дзень».

Цікавасць да гісторыі ад бацькі перайшла сынам. Старэйшы, Канстанцін, вучыўся ў Полацкім езуіцкім калегіюме і Віленскім універсітэце. Малодшы, Яўстах, скончыў Менскую гімназію. Яе выхаванцам маглі б пазайздросціць па ўзроўні адукацыі і некаторыя выпускнікі ўніверсітэтаў.

Братоў Тышкевічаў найбольш вабіла археалогія. Канстанцін даследаваў болей за 200 курганоў, гарадзішчаў і замчышчаў у Менскай і Віленскай губернях. Ён правёў экспедыцыю па рацэ Вілія (Вялля) і выдаў краязнаўчую кнігу «Вілія і яе берагі». Яўстах раскопваў археалагічныя помнікі ў Менску, Крэве, Гальшанах, Міры, Слуцку, Лідзе, Заслаўі. Для тых росшукаў, апрача немалых грошай, патрэбна была і асабістая мужнасць: мясцовыя жыхары лічылі загадкавыя капцы-курганы недатыкальнымі і часта ставіліся да археолагаў з непрыхаванай варожасцю.

Каб пазнаёміцца з досведам замежных калегаў, Яўстах выпраўляецца ў Швецыю, Данію і Фінляндыю. Там у архіўных сховішчах ён адшукаў шмат памятак беларускай гісторыі.

У 1842-м браты-археолагі на аснове папоўненых імі бацькавых калекцый стварылі ў Лагойскім палацы першы ў краі музей старажытнасцяў. Гасцей сустракалі там партрэты дванаццаці пакаленняў роду Тышкевічаў. Ганаровае месца займаў жывапісны партрэт графа Пія, замоўлены ў мастака Яна Дамеля.

Працяг на стар. 18 (12) »

# Даследнікі даўніны

« Працяг.
Пачатак на стар. 17 (11)

Побач з граматамі і картамі эпохі Вялікага Княства Літоўскага ў лагойскім музеі былі выстаўлены багатыя археалагічныя зборы, зброя — ад старадаўніх гарматаў і ручніцаў да цэлага арсенала часоў вайны 1812 года, беларускія ручнікі і абрусы... Да ўнікальных экспанатаў, ад якіх не адмовіўся б любы музей Еўропы, належалі два мячы з мініяцюрнымі партрэтамі вялікага князя і караля Сцяпана Батуры, шпага цара Пятра І, творы італьянскіх мастакоў фларэнтыйскай школы.

## Віленскі музей старажытнасцяў

Браты Тышкевічы мелі далёкасяжныя планы. Яны перавезлі частку лагойскіх экспанатаў у Вільню і дамагліся ад уладаў дазволу заснаваць Віленскі музей старажытнасцяў. Той красавіцкі дзень 1856 года, калі ў самай вялікай зале былога ўніверсітэта адчынію дзверы новы музей, Яўстах і Канстанцін называлі адным з найшчаслівейшых дзён жыцця.

Заснавальнікі музея паставілі мэту стварыць у ім атмасферу ўрачыстасці і велічы айчыннай даўніны. На ўваходзе віселі харугвы з гербамі Вільні, Горадні, Менска, Віцебска, Полацка, Магілёва. Наведнікаў віталі мармуровыя бюсты знаных продкаў — вялікіх князёў, ваяводаў, палітыкаў. Ва ўрачыстай прамове Яўстах Тышкевіч (ён быў галоўным аўтарам экспазіцыі) казаў, што музей павінен «як у люстэрку, даць адбітак жыцця народа на кожным этапе яго шляху». Гісторык з удзячнасцю ўзгадаў тых, хто ахвяраваў музею свае прыватныя скарбы, сярод якіх быў асобнік Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 года. Усім тромстам запрошаным на ўрачыстасць гасцям уручылі напісаны з гэтай нагоды верш Уладзіслава Сыракомлі.

Музей у Вільні меў дванаццаць тысяч эспанатаў і адпавядаў дасягненням музейнай справы Еўропы. Улады дазволілі, каб экспазіцыя была адчыненая для ўсіх ахвотных усяго два разы на тыдзень па чатыры гадзіны. Але музей хутка набываў папулярнасць, і за першыя два месяцы ў ім пабывалі чатыры тысячы віленцаў і прыезджых. Наведнікі падоўгу затрымліваліся перад партрэтамі знакамітых асобаў з арыстакратычных родаў Радзівілаў, Хадкевічаў, Сапегаў, Храптовічаў, Тышкевічаў. Навукоўцаў і ўсіх аматараў гісторыі вабілі калекцыі геаграфічных карт і атласаў, рукапісаў і старадрукаў, аўтографаў гістарычных дзеячаў. Захапленне выклікалі слуцкія паясы, манетныя скарбы і зброя розных стагоддзяў. У археалагічным аддзеле ўвагу спынялі каменныя паганскія стоды (ідалы) са Случчыны, гарматныя ядры з Менскага замка, пячатка з Крэва, кальчуга са славянскімі пісьмёнамі з Воршы.

Сваімі поглядамі супрацоўнікі музея і археалагічнай камісіі былі блізкія да змагароў 1863 года, ды і сама экспазіцыя нараджала патрыятычныя настроі. Расправіўшыся з паўстанцамі, генерал-губернатар Мураўёў-Вешальнік загадаў Віленскую археалагічную камісію зачыніць, а музей — прыстасаваць для паказу «живых свидетельств исконной русской жизни здешнего края». Найбольш каштоўныя экспанаты адправілі ў Маскву. Цяпер у Гістарычным музеі Расіі выстаўленая, да прыкладу, старажытная аршанская кальчуга, якой ганарыліся браты Тышкевічы.

Каланізатары знішчылі дзівосны свет беларускай даўніны, куды траплялі наведнікі віленскага музея. Улады добра разумелі магутную сілу гістарычнай памяці.

## Тодар Нарбут

На землях былога Вялікага Княства аўтарытэтным было імя яшчэ аднаго гісторыка і археолага — выпускніка Віленскага ўніверсітэта Тодара Нарбута. У 1812 годзе ён разам з усёй ліцвінскай шляхтай чакаў прыходу Напалеона як збаўлення ад чужынскай улады. Нарбут меў



вайсковы і інжынерны досвед і валодаў дзевяццю еўрапейскімі мовамі. Імператар Францыі высока ацаніў веды патрыёта-ліцвіна. Той выконваў адказныя заданні ў сувязях Часовага ўрада адроджанага Вялікага Княства з французскімі ўладамі. Пасля адступлення напалеонаўскіх войскаў Тодар хаваўся ад пераследу, але ўсё жыццё зберагаў у скураным куфэрку свой французскі мундзір, называючы яго «старым прыяцелем».

Тодар Нарбут праводзіў раскопкі курганных пахаванняў, вывучаў Лідскі і Навагрудскі замкі, міфалогію і фальклор. Ён надрукаваў помнік айчыннага летапісання — «Хроніку Быхаўца» — і стаў аўтарам дзевяцітомнай «Гісторыі», давёўшы разгляд падзей да Люблінскай вуніі.

Калі Беларусь-Літва зноў узнялася за волю ў 1831-м, адстаўны капітан-інжынер Нарбут намаляваў для паўстанцаў некалькі планаў Вільні і наладзіў ліццё гарматаў. Сыны гісторыка — Людвік і Баляслаў — сталі камандзірамі паўстанцкіх аддзелаў у 1863 годзе.



## Нястомны Адам Кіркор

Жыхары краю ў другой палове XIX стагоддзя зачытваліся публікацыямі гісторыка, археолага і этнографа Адама Ганоры Кіркора. Сябры называлі яго «працавітым мурашом», які дзень пры дні аднаўляе айчынную даўніну. Кіркору дапамагала тое, што ён меў літаратурныя здольнасці, быў выдаўцом і ўладальнікам друкарні. У «Віленскіх зборніках», «Памятных кніжках Віленскай губерні», у газеце «Віленскі веснік», якую сам рэдагаваў, Кіркор таленавіта паказваў скарбы беларускай культуры, асаблівасці нашай мовы і нацыянальнага характару.

Нястомны Кіркор вывучыў блізу 1000 курганоў па ўсёй Беларусі. Свае археалагічныя і этнаграфічныя калекцыі ён ахвяраваў Віленскаму музею старажытнасцяў.

Галоўны вынік вандровак і росшукаў Адама Кіркора — ягоныя працы «Літоўскае Палессе» і «Беларускае Палессе». У 1882 годзе яны выйшлі асобным важкім томам у папулярнай серыі «Маляўнічая Расея». Літоўскім Палессем гісторык называў Віленскую, Гарадзенскую і Ковенскую губерні, а Беларускім — Віцебскую, Магілёўскую, Менскую і Смаленскую. Чытачы атрымалі два дзясяткі добра ілюстраваных нарысаў, прысвечаных гісторыі, народным звычаям і традыцыям, побыту і гаспадарчаму жыццю, а таксама прыродзе колішніх земляў Вялікага Княства Літоўскага.

У той час беларуская мова ў кнігадруку была пад забаронай, таму Кіркор пісаў свае працы па-польску або па-расейску, аднак усе яны былі прасякнутыя гонарам за слаўнае мінулае свайго народа і вераю ў яго духоўныя сілы.

## Гісторык Прыдзвіння

Увесь Віцебск ведаў высокую постаць і адметныя вусы Аляксея Сапунова. Абараніўшы дыплом гістарычна-філалагічнага факультэта Пецярбургскага ўніверсітэта, ён выкладаў лацінскую і грэцкую мовы ў Віцебскай гімназіі. Але павагу яму прынесла найперш не педагагічнае майстэрства, а бліскучая дасведчанасць у гісторыі Прыдзвіння. Сапуноў узнёсла пісаў, што менавіта ў хвалях Дзвіны нараджалася беларуская гісторыя.

З-пад пяра гісторыка і краязнаўца выйшлі працы «Полацкі Сафійскі сабор», «Дзвінскія, або Барысавы камяні», «Помнікі часоў старажытных і найноўшых у Віцебскай губерні», «Універсітэт у Полацку» (пра гісторыю Полацкай акадэміі). Кнігу Аляксея Сапунова «Рака Заходняя Дзвіна» можна назваць тагачасным бестсэлерам, які і сёння чытаецца з захапленнем.

Гэтая кніга падае безліч гістарычных, геаграфічных, прыродных цікавостак. Да прыкладу, аўтар падрабязна апісвае рыбу, што вялася ў Дзвіне і яе прытоках, спосабы рыбнай лоўлі і звязаныя з гэтым заняткам легенды, паданні і прыкметы. Дзвінскія самы ў тыя часы сваімі памерамі і паводзінамі нечым нагадвалі акулаў і маглі пацягнуць неабачлівага купальніка на дно. Шчупакі дасягалі пудовай вагі, а лавілі іх, апрача вядомых сёння снасцяў, шастамі з пятлёй. У наваколлі Полацка ў Дзвіне сустракаліся ласосі. Даўней у нізавінах ракі іх было столькі, што, наймаючыся на службу, работнікі ў дамове з гаспадаром прасілі, каб болей двух разоў на тыдзень іх ласосямі не кармілі. Асобны раздзел кнігі прысвячаўся тэме «Дзвіна ў паэзіі».

Самай буйной і значнай працаю Сапунова сталі тры тамы сабраных ім дакументаў пад назваю «Віцебская даўніна». Там змешчаныя Віцебскі летапіс, урыўкі з айчынных хронік, граматы полацкіх і віцебскіх князёў, прывілеі на магдэбургскае права, матэрыялы 1812 года. Шмат старонак «Віцебскай даўніны» апавядаюць пра войны Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай з Масковіяй. Яны вельмі абгрунтавана паказваюць захопніцкую палітыку цароў Івана Жахлівага і Аляксея Міхайлавіча. «Віцебскую даўніну» аздаблялі партрэты гістарычных асобаў, малюнкі архітэктурных помнікаў, карты.

Аляксей Сапуноў актыўна спрычыніўся да стварэння Віцебскага археалагічнага музея і Віцебскай архіўнай камісіі. Ён ствараў у родным горадзе аддзяленне Маскоўскага археалагічнага інстытута і потым чытаў там лекцыі. Студэнты любілі жывыя расповеды выкладчыка пра яго гімназічнае і студэнцкае юнацтва. Напрыклад, пра тое, што ў гімназіі Сапуноў любіў запускаць паветраных змеяў. Майстравалі іх са старых папераў з пячаткамі, сцягнутых гімназістамі з царкоўнага архіва, дзверы якога не зачыняліся на замок. Гісторык скрушліва казаў, што такім чынам на вецер бяздумна пусцілі безліч гістарычных дакументаў. Ён вучыў студэнтаў берагчы кожнае сведчанне даўніны.

## Насуперак замовам каланізатараў

Імперская навука імкнулася ўсяляк давесці, што Беларусь — спрадвечная частка царскай імперыі, а беларусы — заходняя галіна «русского племени». Гэтай мэце павінен быў служыць створаны ў Вільні неўзабаве пасля паўстання 1863 года Паўночна-Заходні аддзел Расейскага геаграфічнага таварыства. Ягонымі супрацоўнікамі былі этнографы-беларусы Павел Шэйн, Юллян Крачкоўскі, Еўдакім Раманаў. Але яны кіраваліся не замовамі чынавенства, а сумленна даследвалі мову, фальклор, звычаі і абрады народа.

Шэйн сабраў у зборніку «Беларускія народныя песні» звыш тысячы разнастайных твораў. Крачкоўскі ўпершыню глыбока заняўся сямейнымі, каляндарнымі і сельскагаспадарчымі абрадамі беларусаў. Ён адкрываў свету беларускія традыцыі выхавання дзяцей і фальклорныя скарбы нашага вяселля, здабыткі народнай кулінарыі і медыцыны. Еўдакім Раманаў выдаў дзевяць кніг свайго «Беларускага зборніка», сапраўднай энцыклапедыі побыту і культуры.

## Мітрафан Доўнар-Запольскі

Мітрафан нарадзіўся ў шляхецкай сям'і. Ён з дзіцячых гадоў вылучаўся захапленнем гісторыяй і наогул шырокім светапоглядам. З восьмага класа кіеўскай гімназіі Доўнар-Запольскага адлічылі за чытанне кніг «злачыннага зместу». Такімі страшнымі для ўладаў кнігамі былі прызнаныя, напрыклад, паэмы Тараса Шаўчэнкі. Будучы на падазрэнні ў паліцыі, юнак, тым не менш, здолеў здаць гімназічныя экзамены экстэрнам і паступіць на гістарычна-філалагічны факультэт Кіеўскага ўніверсітэта.

У 1888-м, усяго ў дваццаць адзін год, Мітрафан надрукаваў нарыс «Беларускае мінулае». Там ён стварыў канцэпцыю гістарычнага развіцця беларускага народа. Малады гісторык заявіў пра неабходнасць нацыянальнага адраджэння беларусаў, якія павінны заняць раўнапраўнае месца ў сям'і народаў Еўропы.

Неўзабаве з'явілася першая буйная праца Доўнар-Запольскага — «Нарыс гісторыі Крывіцкіх і Дрыгавіцкіх земляў да канца XII стагоддзя». Ён апублікаваў дзясяткі артыкулаў, дзе разглядаў самыя розныя перыяды і падзеі айчыннай гісторыі ад старажытных беларускіх княстваў да ўздыму Вялікага Княства Літоўскага ў часы Вітаўта і яговых наступнікаў. Дзякуючы Доўнар-Запольскаму быў надрукаваны Баркулабаўскі летапіс XVII стагоддзя. Вялікую каштоўнасць маюць і ягоныя этнаграфічныя публікацыі пра беларускае стаўленне да зямлі, пра нашыя святы, вяселле, шлюб і сямейныя звычаі...

Доўнар-Запольскі імкнуўся аб'яднаць калегаў — беларускіх гісторыкаў — у навуковую супольнасць. Ён марыў пра нацыянальны Беларускі ўніверсітэт.

На мяжы XIX і XX стагоддзяў Мітрафан Доўнар-Запольскі сказаў пра беларусаў прарочыя словы: «Народ, які меў сваю дзяржаву, мусіць мець яе зноў».

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 354-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# Шэсць сцэнараў развіцця падзей у Беларусі

Аляксандр ДАБРАВОЛЬСКІ

**Беларусь знаходзіцца ў сітуацыі вострага палітычнага крызісу, які паўстаў пасля таго, як былы прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка прайграў выбары, але вырашыў застацца ва ўладзе, сфальсіфікаваўшы вынікі галасавання. Паводле шматлікіх сведчанняў, выбары выйграла Святлана Ціханоўская, і ў гэтым не сумняваецца большасць грамадзян Беларусі.**



Адразу пасля выбараў пачаліся масавыя акцыі пратэсту, якія працягваюцца ўжо амаль чатыры месяцы. Пратэстоўцы патрабуць спынення рэпрэсій, вызвалення палітвязняў і правядзення новых сумленных выбараў. Міжнародная супольнасць у сваёй пераважнай большасці не прызнала Лукашэнку абраным прэзідэнтам, пры гэтым вядучыя краіны свету фактычна прызнаюць пераможцай выбараў Святлану Ціханоўскую, з якой праводзяцца сустрэчы на вышэйшым узроўні.

Святлана Ціханоўская з самага пачатку прапанавала перамовы і ініцыявала для гэтага стварэнне Каардынацыйнай рады. Аляксандр Лукашэнка на перамовы з Каардынацыйнай радай іці не хоча і пераследуе яе чальцоў. Як альтэрнатыву перамовам Лукашэнка прапануе правядзенне канстытуцыйнай рэформы ў нявызначаныя тэрміны, праект змены Канстытуцыі таксама не прад'яўлены грамадству. Пратэстоўцы ўспрымаюць гэта як падман і спробу цягнуць час. У краіне ідуць масавыя рэпрэсіі супраць пратэстоўцаў.

У гэтай сітуацыі падзеі могуць развівацца па некалькіх сцэнарах.

### Першы сцэнар: новыя выбары ў выніку перамоваў

**Варыянт 1.1.** Лукашэнка прымае рашэнне пра гатоўнасць да перамоваў. Ён прызначае перамоўную групу. З боку пратэстоўцаў у перамовах бярэ ўдзел перамоўная група, прызначаная Святланай Ціханоўскай, група супрацоўнічае з Каардынацыйнай радай.

**Варыянт 1.2.** Група людзей, якія прадстаўляюць інтарэсы ранейшай улады, прымае рашэнне пра ўступленне ў перамовы. Яны фарміруюць перамоўную групу. З боку пратэстоўцаў у перамовах бярэ ўдзел перамоўная група, прызначаная Святланай Ціханоўскай, група супрацоўнічае з Каардынацыйнай радай.

Прадмет перамоваў — правядзенне новых выбараў і парадак дзеянняў у пераходны перыяд. Магчымае абмеркаванне парадку дзеянняў у перыяд да ўступлення ў паўнамоцтвы зноў абраных органаў улады.

Тэмы перамоваў:

Хто праводзіць выбары, як фарміруюцца выбарчыя камісіі?

У якой паслядоўнасці праводзяцца выбары ў розныя органы ўлады (прэзідэнцкія, парламенцкія, мясцовыя)?

Паводле якога заканадаўства праводзяцца выбары?

Як узгадняецца і прымаецца новая Канстытуцыя?

Як забяспечваецца кіраванне краінай у перыяд да ўступлення ў паўнамоцтвы зноў абраных органаў улады?

Як забяспечваецца стабільнасць эканомікі ў пераходны перыяд?

Як забяспечваецца выкананне дамоўленасцяў, дасягнутых у выніку перамоваў?

Якія гарантыі даюцца прадстаўнікам ранейшай улады наўзамен на вызваленне палітвязняў, адмову ад прымянення гвалту і на згоду выконваць дасягнутыя на перамовах дамоўленасці?

### Другі сцэнар: новыя выбары ў выніку таго, што пасада прэзідэнта становіцца вакантнай

**Варыянт 2.1.** Былы прэзідэнт пакідае краіну.

**Варыянт 2.2.** Былы прэзідэнт падае ў адстаўку. Магчымы вынік — перацяканне сітуацыі ў варыянт 1.1.

**Варыянт 2.3.** Былы прэзідэнт арыштоўваецца.

Магчымыя дзеянні:

1. Склікаецца круглы стол для прыняцця ўзгодненых рашэнняў наконт парадку правядзення выбараў. У круглым стале прымаюць удзел прадстаўнікі ўрада з аднаго боку і Святланы Ціханоўскай і Каардынацыйнай рады — з другога боку. Магчымы вынік — перацяканне ў варыянт 1.2.

2. Святлана Ціханоўская ўступае на пасаду выконваючай абавязкі прэзідэнта і арганізуе выбары. Пры гэтым павінны быць вырашаныя пытанні, пералічаныя як тэмы для перамоваў у сцэнары 1.

### Трэці сцэнар: узмацненне жорсткасці рэжыму, масавыя рэпрэсіі, магчымае ўвядзенне надзвычайнага або ваеннага становішча

Прымаецца ўказ прэзідэнта аб надзвычайным ці ваенным становішчы, уводзіцца каменданцкая гадзіна на частцы тэрыторыі краіны, межы закрываюцца, абмяжоўваецца перамяшчэнне па тэрыторыі краіны, дзясяткі тысяч чалавек у зняволенні, апазіцыя пераходзіць у падполле. Фарміруецца Рух Супраціву.

Вынік: Лукашэнка застаецца ва ўладзе на некаторы час, але адсутнасць яго легітымнасці і дэфіцыт рэсурсаў для існавання рэжыму скарачаюць гэты перыяд. Сцэнар становіцца няўстойлівым, ёсць тэндэнцыя перацякання яго ў сцэнар 1 або 2.

Павысіць устойлівасць, хоць і не на доўгі перыяд, дапаможа масіраванае знешняе фінансавае падсілкоўванне рэжыму, якое можа паступіць толькі з Расіі. Сама такая падтрымка будзе для Расіі сур'ёзнай праблемай. Стануць больш жорсткімі санкцыі супраць кіраўніцтва Беларусі і Расіі. Сцэнар так ці інакш мае тэндэнцыю перацячы ў сцэнар 1 або 2.

### Чацвёрты сцэнар: спробы зацягнуць час з абяцаннем канстытуцыйнай рэформы ў надзеі, што пратэсты сціхнуць

Праводзіцца Усебеларускі народны сход (які з'яўляецца неканстытуцыйным органам). На сходзе прымаецца праект змены Канстытуцыі (хутчэй за ўсё, без канкрэтнага зместу і без канкрэтных тэрмінаў рэалізацыі). Нягледзячы на магчымае зацягванне часу, Лукашэнка ў гэтай сітуацыі застаецца нелегітымным, на грамадскую падтрымку ён разлічваць не зможа. Крызіс дзяржаўнага кіравання і эканамічны крызіс будуць узмацняцца. Акцыі пратэсту будуць працягвацца, набываючы новыя формы. Будуць расці і ўмацоўвацца новыя грамадскія структуры супраціву — ад незалежных прафсаюзаў да мясцовых ініцыятыў.

Абвяшчэнне новых прэзідэнцкіх выбараў вясной 2021 года магло б змякчыць сітуацыю і аслабіць пратэсты, але Лукашэнка наўрад ці на гэта пойдзе. Зацягванне ж цяперашняй нявызначанай сітуацыі не можа доўжыцца бясконца. Калі не будзе прыкмет пераменаў, абвастрэнне крызісу магчыма ў любы момант.

Вельмі малаверагодна, што атрымаецца захаваць кіравальнасць да вясны 2021 года. Верагоднасць пратрымацца да восені і зусім блізкая да нуля. Гэты сцэнар няўстойлівы і мае тэндэнцыю да перацякання ў сцэнары 1, 2 або 3 (які таксама няўстойлівы).

### Сцэнар пяты: увядзенне ў Беларусь расійскіх вайскоўцаў і паліцэйскіх фарміраванняў

**Варыянт 5.1.** Інкарпарацыя Беларусі ў склад Расіі. У гэтым выпадку ў Расіі хопіць рэсурсаў на ўтрыманне рэжыму на даволі доўгі час, але санкцыі, вялікая нагрузка на эканоміку і ўнутраныя хваляванні прывядуць да нестабільнасці сітуацыі ў Расіі.

**Варыянт 5.2.** Інкарпарацыі не будзе. Пры гэтым наступствы будуць блізкімі да варыянту 5.1.

Расія ўводзіць войскі і паліцэйскія сілы, спасылаючыся на абавязанні ў рамках АДКБ і/або просьбу кіраўніцтва Беларусі. Лукашэнка альбо адхіляецца ад пасады, альбо пазбаўляецца рэальнай улады.

Адбываецца раскол у сілавых структурах. Фарміруецца Рух Супраціву. Пачынаюцца масавыя пратэсты, з'яўляюцца ачагі ўзброеных сутыкненняў. Уводзяцца жорсткія санкцыі супраць кіраўніцтва Беларусі і Расіі. Пагражае адключэнне ад SWIFT. У Расіі пачынаюцца хваляванні. У Расіі дастаткова рэсурсаў на падтрыманне сітуацыі на працягу некалькіх гадоў. Аднак сітуацыя становіцца нестабільнай. Будуць тэндэнцыі перацякання сцэнара ў сцэнар 1 або 2. Пры гэтым грамадскія настроі прывядуць да з'яўлення масавага антырасійскага руху. Стасункі з Расіяй будуць безнадзейна сапсаваныя.

### Сцэнар шосты: наменклатурны або ваенны пераварот

**Варыянт 6.1.** Наменклатурны пераварот. Група высокапастаўленых чыноўнікаў адхіляе Лукашэнку ад улады. Вынік: перацяканне ў сцэнар 2.

**Варыянт 6.2.** Ваенны пераварот. Падраздзяленні сілавых структур бяруць пад кантроль сітуацыю, нейтралізуюць рэпрэсіўныя падраздзяленні і адхіляюць Лукашэнку ад улады. Вынік:

1. Перацяканне ў сцэнар 2.

2. Перыяд ваеннага становішча, затым перацяканне ў сцэнар 2.

Аналіз пералічаных вышэй сцэнараў паказвае, што толькі два з іх устойлівыя і могуць мець стабільныя наступствы. Гэта сцэнары 1 і 2. Вынікам рэалізацыі гэтых сцэнараў з'яўляецца вырашэнне базавай супярэчнасці (народ адмовіў у даверы і патрабуе сыходу Лукашэнкі, але той не хоча сыходзіць).

Абвяшчэнне новых выбараў пераарыентуе ўвагу грамадства на выбарчую кампанію, прычына для пратэстаў знікне. Калі грамадства ўспрыме новыя выбары як свабодныя і справядлівыя, будуць створаныя ўмовы для развіцця краіны без сур'ёзных унутраных канфліктаў на працягу як мінімум некалькіх гадоў. Калі выбары будуць зноў сфальсіфікаваныя, сітуацыя ў краіне застанецца нестабільнай.

Сцэнары 3, 4, 5 і 6 нестабільныя па некалькіх прычынах. Адна з прычын палягае ў тым, што ўлада застанецца нелегітымнай і не будзе мець падтрымкі грамадства. Другая прычына — у тым, што для падтрымання мінімальнай стабільнасці спатрэбіцца занадта шмат рэсурсаў, якіх у цяперашняй улады не хопіць надоўга. Калі ўмяшаецца Расія, рэсурсаў будзе больш, але і яны не бясконцы. Да таго ж у такой сітуацыі непазбежная дэстабілізацыя сітуацыі ў самой Расіі. Трэцяя прычына — непазбежны эканамічны крызіс з-за ўнутраных (супраціў насельніцтва) і знешніх прычынаў (санкцыі, міжнародная ізаляцыя). Па гэтых і іншых прычынах сцэнары 3, 4, 5 і 6 будуць мець тэндэнцыю да перацякання ў сцэнары 1 і 2.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ШАТЛАНДЫЯ. Вірус і незалежнасць

Напярэдадні Калядаў здзейснілася старая мара шатландскіх нацыяналістаў, якія даўно хацелі адмежавацца ад Англіі. Пасля ўспышкі новага штаму каронавіруса на паўднёвым усходзе Альбіёна ўлады Шатландыі 21 снежня абвясцілі пра закрыццё межаў з іншымі рэгіёнамі краіны. Такім чынам, калядныя святы шатландцы першы раз за амаль 300 гадоў будуць адзначаць асобна ад англічан. Праўда, пакуль строгая забарона на паездкі паміж Шатландыяй і астатняй часткай Вялікабрытаніі ўводзіцца толькі на святочны перыяд. Такая мера блакіроўкі мяжы ў рамках каранціну абмяркоўвалася ў тым жа Эдынбургу яшчэ вясной, але выклікала супярэчлівыя ацэнкі сярод шатландцаў. Аднак апошнія правалы кабінета Барыса Джонсана ў барацьбе з эпідэміяй выклікалі бум скепсісу адносна працягу знаходжання ў саюзе з Англіяй. Ужо ў кастрычніку колькасць прыхільнікаў незалежнасці наблізілася да 60 працэнтаў. Калі пераломy на эпідэміялагічным фронце не адбудзецца, то, паводле ацэнак спецыялістаў, ужо ў траўні Шатландыя пачне падрыхтоўку да новага рэферэндуму наконт незалежнасці. Зрэшты, цяпер у палітычным жыцці Вялікабрытаніі пануе такі хаос, што нельга выключаць прыняцця гэтага рашэння яшчэ да вясны.

**Паводле брытанскай прэсы**

### МАЛДОВА. Навагодні штурм

Адна з самых незвычайных сустрэч Новага года адбудзецца ў малдоўскай сталіцы. Тут працягваецца акцыя пратэсту фермераў, якія акупавалі плошчу перад будынкам парламента. Сяляне патрабуюць прыняцця законаў, каб падтрымаць аграсектар. А вось ноу-хау пратэстаў — трактары, на якіх фермеры прыехалі ў цэнтр горада. Пару разоў з дапамогай тых трактароў яны ўжо спрабавалі штурмаваць адміністрацыйныя будынкі, аднак паліцыя гэтыя наступы адбівала. Зрэшты, пратэстоўцы кажуць, што галоўны штурм наперадзе, — яго плануюць зладзіць на Новы год, калі ў цэнтры горада будзе шмат людзей. З іх дапамогай спадзяюцца захапіць парламент. У сваю чаргу, прадстаўнік МУС ужо паабяцаў кожнаму з удзельнікаў гэтага штурму да сямі гадоў турмы. Застаецца дадаць, што большасць трактароў на кішынёўскім майдане зробленыя на МТЗ і, адпаведна, носяць марку «Беларусь». Гэта дазваляе мясцовай прэсе друкаваць рэпартажы пад загалоўкамі накшталт «"Беларусы" штурмуюць парламент».

**Паводле малдоўскай прэсы**

### ПЕРУ. Санта і крымінал

У Ліме супрацоўнікі паліцыі, якія спецыялізуюцца на барацьбе з незаконным абаротам наркотыкаў, затрымалі буйнога гандляра. Здавалася, гэта досыць звычайная навіна. Аднак арыгінальнай яе робіць той момант, што дзейнічалі паліцыянты пад выглядам Санта-Клаўсаў і эльфаў. У прынцыпе, гэта стары трук мясцовых аператыўнікаў. Напрыклад, у мінулым афіцэры выдавалі сябе за вулічных прыбіральшчыкаў або бяздомных, каб зафіксаваць акт продажу наркотыкаў і ўзяць злачынцаў з доказамі. Гэтым разам паліцыянты скарысталіся касцюмамі навагодніх казачных персанажаў, што дазволіла ім прасачыць і арыштаваць наркакур'ера. Апошні нават не падазраваў, што ў турму яго будуць канваяваць Дзед Мароз і эльф. Практыку работы агентаў пад прыкрыццём Санта-Клаўса вырашана працягнуць і далей, падчас калядных святаў. Аднак на ўсялякі выпадак цяпер агенты будуць абавязаныя насіць пад футрам Санты бронекамізэлькі.

**Паводле французскай прэсы**




### СААЗ. Санта-Клаўса вірус не бярэ?

21 снежня Сусветная арганізацыя аховы здароўя (СААЗ) афіцыйна запэўніла дзяцей, што Санта-Клаўс неўспрымальны да віруса COVID-19, і, як вынік, зможа дастаўляць калядныя падарункі. Такую заяву зрабіла тэхнічны кіраўнік па надзвычайных сітуацыях у галіне аховы здароўя. Яна сказала ў тэлевізійным звароце: «Я разумею, што дзеці непакояцца пра Санту, таму што ён больш сталага ўзросту і належыць да адной з груп рызыкі, але я магу вам сказаць, што Санта-Клаўс неўспрымальны да гэтага віруса». У СААЗ адначасова заявілі, што казачны персанаж зможа бяспечна ўваходзіць-выходзіць ды дастаўляць падарункі. Але функцыянеры арганізацыі пры гэтым папярэдзілі дзяцей, што трэба памятаць пра сацыяльнае дыстанцыяванне. Цікава, што шматлікія бацькі на інтэрнэт-форумах вельмі крытычна паставіліся да заявы. На іх думку, дзеці — не дурні, і калі пасля Калядаў будзе назірацца чарговая ўспышка эпідэміі, многія абвінавацяць Санта-Клаўса ў тым, што менавіта ён стаў прычынай новых заражэнняў.

**Паводле брытанскай прэсы**

# Вядзьмарка замест Святога Мікалая

*Алег НОВІКАЎ*

**Аказваецца, падчас фашысцкай дыктатуры ў Італіі грамадству як эрзац Святога Мікалая спрабавалі навязаць культ вядзьмаркі.**


Фота www.mail.instacontrolapp.com

Не толькі Мусаліні, але і многія іншыя дыктатары спрабавалі прыватызаваць навагоднія святы. Напрыклад, у гітлераўскай Германіі хрысціянскія элементы Калядаў падмяняліся артэфактамі германскіх паганскіх культаў. Сцвярджалася, што Каляды першапачаткова не мелі нічога агульнага з нараджэннем Ісуса Хрыста, а святкаваліся як зімовае сонцастаянне і «адраджэнне сонца». Паколькі сімвалам сонца была свастыка, то Каляды, лагічна, набывалі рысы партыйнага свята нацыстаў.

Пад кардынальны перагляд у часы нацыстаў падпалі таксама ўсе біблейскія калядныя персанажы. Святы Мікалай быў абвешчаны германскім богам Одзінам (ці Вотанам), а Марыя і Ісус паказваліся ў вобразе эфектнай бландзінкі і, адпаведна, бялявага немаўляці. Падчас усталявання нацысцкага рэжыму пачалі анансавацца і намеры адзначаць на Каляды прыход у свет «Збавіцеля-фюрэра». Зрэшты, няўдачы на франтах затармазілі праект. Хіба што ў 1944 годзе немцаў заклікалі падчас Калядаў памінаць загінулых салдат Вермахта.

Эксперыменты з Калядамі праводзілі і італьянскія фашысты. Іх прапагандысты таксама сыходзілі з задачы выкарыстання паганскіх і рымскіх міфаў таксама зайграла новымі колерамі. Не вобраз быў адаптаваны пад італьянскія міфы пра багінь урадлівасці і багацця, якія лёталі над палямі ўначы, каб дабраславіць ураджай.

Была яшчэ адна прычына для таго, каб ператварыць бабулю з барадаўкамі на носе ў калядную зорку. Афіцыёзам было заяўлена, што, у адрозненне ад імпартаванага Санта-Клаўса, Бяфана з'яўляецца сапраўдным сімвалам італьянскіх Калядаў. Адпаведна, дзецям раілі атрымліваць падарункі ад вядзьмаркі.

Для папулярызацыі вобразу Бяфаны ў масах былі імкліва мабілізаваныя пісьменнікі і паэты, якія складалі дзіцячыя вершы і загадкі пра вядзьмарку. Дайшло да таго, што некаторыя функцыянеры пачалі называць бабулю «фашыстка Бяфана». Аднак гэтым не абмяжоўваліся — і ў 1934-м кіраўніцтва партыі пастанавіла называць яе «Бяфана Дучэ», каб у рамках калядных святаў узмацніць таксама прэстыж дыктатара. Цікава, што такая трактоўка вядзьмаркі не спрацавала,

**Шматлікія фірмы і арганізацыі ў Італіі і цяпер шануюць сваю карпаратыўную вядзьмарку, якая на Каляды прыносіць падарункі дзецям супрацоўнікаў. Яна таксама папулярная як сувенір**

або сімвалаў для ўслаўлення рэжыму. Галоўная стаўка была зроблена на такую незвычайную фігуру, як Бяфана, або Бяфанія — міфалагічнага персанажа, які ў казках выяўляўся як старая жанчына, што ляціць на зношаным веніку, каб наведаць дзяцей у ноч з 5 на 6 студзеня (ноч Богаяўлення) і напоўніць іх шкарпэткі, адмыслова павешаныя на камін альбо каля вакна. Дзеці, якія добра сябе паводзілі на працягу года, атрымлівалі ад Бяфаны прысмакі. Тыя, хто паводзіў сябе кепска, знаходзілі ў шкарпэтках вугаль або часнык.

Італьянцы шанавалі гэтую справядлівую вядзьмарку з язычніцкіх часоў, але ў 1928 годзе Беніта Мусаліні абвясціў дзень Бяфаны, які адзначаўся 6 студзеня, нацыянальным святам. Сама постаць Бяфаны і ў выніку фашысты вярнуліся да першапачатковай версіі.

Адначасова правінцыйным федэрацыям фашысцкай партыі прыйшоў цыркуляр — збіраць да дня Бяфаны ахвяраванні. Гандляры, прамыслоўцы і фермеры былі абавязаныя даць нейкія грошы фашысцкім арганізацыям. Напярэдадні 6 студзеня на тыя сродкі набываліся падарункі, якія раздаваліся дзецям. Асноўную ролю ў кампаніі адыгрывалі маладзевыя секцыі партыі фашыстаў, што надавала культу Бяфаны прыкметы клопату рэжыму пра маладых італьянцаў. Таксама рабіўся акцэнт, нібыта Бяфана дапамагае перш за ўсё дзецям з бедных сем'яў, а гэта працавала на сацыяльную аўру дыктатуры.

Святы ў гонар Бяфаны на афіцыйным узроўні працягваліся да краху італьянскага фашызму ў 1944 годзе. Цікава, што пасля пэўны час Касцёл спрабаваў весці кампанію супраць рэштак масавага паганства італьянцаў на прыкладзе Бяфаны, аднак пасля кінуў тую справу.

Што да Бяфаны, то з ёю пасля вайны адбыўся нечаканы кульбіт. Шматлікія фірмы і арганізацыі ў Італіі і цяпер шануюць сваю карпаратыўную вядзьмарку, якая на Каляды прыносіць падарункі дзецям супрацоўнікаў. Яна таксама папулярная як сувенір. Паколькі зеніт такой практыкі прыпаў на 1960-я гады, калі італьянская гаспадарка моцна развівалася, сёння шмат хто ўспрымае вобраз Бяфаны як настальгічны сімвал «добрых старых часоў». Ну а сама Бяфана, нягледзячы на сваё супярэчлівае ідэалагічнае мінулае, працягвае, як заўжды, разносіць падарункі.

**Для даведкі:**

Некаторыя даследчыкі лічаць, што папярэдніцай Бяфаны была паганская рымская багіня Strenia. Легенда абвяшчае, што аднойчы халодным зімовым вечарам у дом да старой Бяфаны, выродлівай і гарбатай, з кручкаватым носам і вострым падбародкам, пагрукалі вешчуны, якія шукалі шлях да немаўляці Ісуса і неслі яму золата, ладан і смірну, каб ушанаваць яго.

Яны папрасілі заночыць, бо дом у Бяфаны быў ахайны і дагледжаны. Раніцай яны спыталі дарогу ў Віфлеем і паклікалі Бяфану з сабой, але яна спаслалася на занятасць ды неабходнасць прыбрацца — і адмовілася. А потым спахапілася. Сабрала ўсё лепшае, што было ў яе ў доме, і кінулася следам за імі. Але знайсці не змагла.

Яна грукала ў дзверы кожнага дома, спрабуючы адшукаць патрэбнае немаўля, і пакідала падарунак у надзеі, што знайшла. Так і шукае да гэтага часу — але ніяк не знойдзе і працягвае пакідаць дзецям падарункі.



Фота www.martechtoday.com

# Горш не будзе

Алег НОВІКАЎ

**Які ж пераднавагодні выпуск газеты — без агляду сусветных прагнозаў на наступны год? Тым больш, 2021-ы будзе, мякка кажучы, адметны.**

Нават калі б 2020-ы быў падобны на звычайныя гады, якія папярэднічалі прыходу пандэміі, усё роўна напярэдадні 2021-га людзі б асцярожна ставіліся да будучыні. Усё праз папулярнасць астралагічных прагнозаў, складальнікі якіх разглядаюць наступны год як вельмі незвычайны. Гэта будзе першы год так званай «эпохі Вадаліва», якая стартавала 22 снежня — пасля таго, як планеты Сатурн і Юпітэр аказаліся ў сузор'і Вадаліва.

Для астролагаў гэта — не проста нейкае астранамічнае супадзенне. Калі ім верыць, такі расклад на небе наўпрост паўплывае на ўсіх нас. Сцвярджаецца, што асноўнай характарыстыкай новай эпохі стане адмова ад калектыўнай ідэі на карысць сцвярджэння асобы, індывідуальнасці. Гэта будзе час раскрыцця талентаў. Аднак астролагі папярэджваюць, што пераход ад адной эпохі да другой можа быць звязаны з глабальнымі зрухамі і зменамі.

На такія глабальныя турбуленцыі, калі верыць прагнозам, наступны год сапраўды будзе вельмі багаты. Прычым, нам давядзецца мець справу з незвычайнымі з'явамі. Напрыклад, так званымі «войнамі вакцынаў», калі дзяржавы і манаполіі будуць змагацца, каб першымі стварыць дзейсную вакцыну супраць каронавіруса — зарабіць на гэтым грошы і за кошт новага прэпарату нават уцягнуць некаторыя краіны ў зону свайго геапалітычнага ўплыву. Прынамсі, агрэсіўная рэклама расійскай вакцыны «Спутник» на знешніх рынках спарадзіла ў прэсе такое выслоўе, як «Вакцыйны рускі свет».

Яшчэ пару тыдняў таму ў грамадскай думцы дамінаваў аптымістычны графік выхаду з эпідэміі. Некаторыя нават марылі, што «чума» закончыцца ў другім квартале наступнага года. Аднак рэгістрацыя ў Вялікабрытаніі новага штаму каронавіруса выклікала калектыўны шок і расчараванне.

Таксама відавочна, што глабальную эканоміку працягне ліхаманіць. Такія перспектывы прымушаць эканамістаў напружваць мазгі. Папярэдняя спробы амартызаваць выкліканую вірусам рэцэсію за кошт ільготных крэдытаў і фінансавай дапамогі бізнесу мелі слабы ККД. Як сведчыць статыстыка, спажывецкі попыт і інвестыцыйная дынаміка застаюцца кволымі. Затое рэсурсы цэнтральных банкаў яўна не гумовыя.

Зрэшты, Захад, напэўна, неяк выкараскаецца. Увядзенне ў абарот адразу некалькіх вакцынаў дасць магчымасць на працягу наступнага года спыніць пандэмію і адмяніць каранціны. А вось на перыферыі назіраюцца небяспечныя сцэнары.

Па словах выканаўчага дырэктара Сусветнай харчовай праграмы ААН Дэвіда Бізлі, такога крызісу не было за ўсе 75 гадоў існавання ААН. У 2020-м колькасць людзей, якія стаяць на парозе галоднай смерці, падскочыла да 270 мільёнаў. Гэта можа выклікаць не толькі масавую міграцыю, аднак і палітычныя землятрусы. Зрэшты, змяненне самой парадыгмы свядомасці людзей з-за каранціну і лакдаўнаў можа справакаваць пратэсты таксама ў краінах «першага свету».

Палітычныя ўраганы відавочна не абмінуць і нашы палесціны. У Расіі прагназуецца запуск трансферу ўлады, фрагмент якога — фарміраванне Дзяржсавета і пераразмеркаванне на яго карысць часткі ўладных паўнамоцтваў. Таму чакаюцца маштабныя кадравыя ратацыі, якія закрануць усе інстытуты ўлады. Адрыў эліт ад эканамічных і сацыяльных рэалій, на думку некаторых каментатараў, непазбежна прывядзе да пратэстаў.

Напэўна, у постсавецкіх краінах улады паспрабуюць мяняць свой дызайн. Ва Украіне аслабленне рэйтынгу Зяленскага можа падштурхнуць да правядзення датэрміновых парламенцкіх і нават прэзідэнцкіх выбараў. Магчымая нестабільнасць унутры краіны можа актывізаваць знешніх гульцоў, якія не хаваюць свае тэрытарыяльныя прэтэнзіі на адрас «неньki». Практычна няма сумневу, што калектыўная траўма армян ад прайгранай вайны ў Нагорным Карабаху прывядзе да сыходу ў адстаўку армянскага прэм'ера Нікола Пашыняна. А студзенскія парламенцкія выбары ў Казахстане гэтым разам могуць быць не падобныя да традыцыйных «элегантных перамогаў» праўладных кандыдатаў.

**Што будуць рабіць Злучаныя Штаты на міжнароднай арэне — цяпер адно з самых дыскутаваных пытанняў. Посттрампаўская знешняя палітыка ЗША, на думку экспертаў, стане больш прадказальнай, рацыянальнай, узважанай**

Свае карэктывы ў постсавецкую драматургію ўнясе, безумоўна, знешнепалітычны курс новай амерыканскай адміністрацыі. Што будуць рабіць Злучаныя Штаты на міжнароднай арэне — цяпер адно з самых дыскутаваных пытанняў у сусветных СМІ. Посттрампаўская знешняя палітыка ЗША, на думку большасці экспертаў, стане больш прадказальнай, рацыянальнай, узважанай. Чакаецца актыўнае супрацоўніцтва з Еўропай па шырагу тэм, у тым ліку — па Кітаю і Ірану. Прыярытэтам адміністрацыі Байдэна стане аднаўленне іміджу ЗША і іх рэпутацыі як надзейнага партнёра.

Можна прагназаваць, што цяпер асноўным інструментам знешняй сілы ЗША стане дыпламатыя, асабліва з улікам яўнага расчаравання амерыканцаў наступствамі інтэрвенцыі ў Ірак і Афганістан. Пры гэтым тэма правоў чалавека наўрад ці знікне з павесткі Белага дому. Пра гэта сведчыць у тым ліку антыпуцінская рыторыка Байдэна і відавочны інтарэс чальцоў яго каманды да беларускага кейсу. Увогуле, на першых этапах кадэнцыі Байдэна прыярытэт, хутчэй за ўсё, будзе надавацца сітуацыі ўнутры Злучаных Штатаў. Новаабраны гарант абяцае за першыя сто дзён прэзідэнцтва дамагчыся значных прарываў у барацьбе з вірусам і эканамічным крызісам.

Але ёсць і пазітыўныя прагнозы на 2021. Кліматычная катастрофа, гледзячы па ўсім, у наступным годзе планеце не пагражае. Навукоўцы прагназуюць, што ў 2021 годзе ва ўсім свеце будзе трохі халадней, чым у гэтым. З іншага боку, 2021-ы ўсё роўна стане адным з шасці самых цёплых гадоў за апошнія стагоддзі.

Нарэшце, як жартуюць некаторыя палітолагі, у новы год трэба глядзець з аптымізмам — з улікам таго, што мы перажылі 2020-ты. Горш, як яны запэўніваюць, ужо дакладна не будзе.

## БЕЛАРУСЬ У 2021-М: ПРАГНОЗЫ ЗАМЕЖНЫХ МЕДЫЯ

«У любым выпадку, сітуацыя паступова разгортваецца такім чынам, што Расія і ЕС хутка могуць стаць у Беларусі супернікамі — як адбылося падчас падзеяў ва Украіне ў 2014 годзе. Першы варыянт: эканоміка Беларусі можа аказацца ў глыбокім крызісе, ад якога яе пазней уратуе Масква — патрабуючы наўзамен больш шчыльнага супрацоўніцтва і права на будаўніцтва ваенных баз. Другі варыянт: народ можа выйсці на вуліцы, размахваючы сцягамі ЕС, і Еўрасаюзу прыйдзецца адысці ад сваёй пасіўнай лініі. Адказам Расіі стала б узмацненне жорсткасці на адрас беларускай апазіцыі. Трэці варыянт развіцця падзей: пераемнікам Лукашэнка можа стаць чалавек, перамозе якога будуць вельмі рады ў Брусэлі. Расіі пераемнік не спадабаецца».

**Helsingin Sanomat, (Фінляндыя)**

«Хутчэй за ўсё, у наступным, 2021 годзе, намінальны прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка яшчэ зможа захаваць уладу, аднак ужо ў 2022-м яго не будзе. Вясной будзе агучана дата правядзення новых выбараў, а таксама з'явіцца канчатковае рашэнне па канстытуцыйнай рэформе. На жаль, на сённяшні дзень немагчыма прагназаваць больш, чым тры месяцы».

**Replyua.net (Украіна)**

«Беларусь з'яўляецца партызанскай краінай, і пасля заканчэння масавых акцый пратэстаў у рэспубліцы адбудзецца пераход да другога этапу пратэстных рухаў. Пераход да другога этапу будзе адбывацца ў цяжкіх умовах, аднак грамадзяне Беларусі ўжо не спыняцца, і фактычна ў краіне ўжо ідзе стварэнне другой, падпольнай дзяржавы».

**Украина.ру (Расія)**

«Верагодна, Лукашэнка застанецца на сваёй пасадзе, намінальна дэлегаваўшы частку паўнамоцтваў Усебеларускаму сходу, куды будуць адбірацца толькі правераныя і лаяльныя людзі. Пры такім раскладзе цалкам магчыма стварыць і нейкую аддушыну для апазіцыі ў парламенце, бо Усебеларускі сход будзе блакаваць любыя нязручныя ініцыятывы. Вядома, гэта стварае рызыку новай хваляй пратэснай актыўнасці і далейшымі ўскладненнямі ў адносінах з Захадам. Разам з тым вопыт апошніх месяцаў паказаў, што ні на Захадзе, ні на Усходзе цяпер не гатовыя ісці на павышэнне ставак у Беларусі. Таму шанцы на паспяховае ажыццяўленне гэтай дзіўнай рэформы зусім не нулявыя».

**Рубалтик (Латвія)**

«Існуюць пэўныя асцярогі наконт таго, што пасля прыходу Байдэна да ўлады ў ЗША Захад можа больш актыўна ўмешвацца ў падзеі ў Беларусі, таму і Крэмль будзе спяшацца. Так, нядаўна сакратар украінскага Савета нацыянальнай бяспекі і абароны Аляксей Данілаў выказаў занепакоенасць, што Расія ўвядзе ў Беларусь яшчэ больш шматлікі ваенны кантынгент, тым самым ускладніўшы сітуацыю не толькі ў гэтай краіне, але і паставіўшы пад пагрозу Украіну».

**Jutarnji list (Харватыя)**

«Калі гаварыць з пазіцый рэалізму, то ў бліжэйшы год нам варта захоўваць асцярожнасць. Не трэба занадта спадзявацца на чаканні апазіцыі наконт хуткага краху рэжыму. Хутчэй за ўсё (і да гэтага цяпер рыхтуецца большасць дзяржаў нашага рэгіёна) мы станем сведкамі працяглай пазіцыйнай вайны. Сёй-той у Беларусі нават кажа пра тое, што калі рэпрэсіі і жорсткасць набудуць сталы характар, залежнасць беларускага рэжыму ад сілавых структур так узрасце, што ён будзе вымушаны аддаць ім дзяржаву. Пры садзейнічанні Расіі яны (сілавікі) проста пазбавяцца ад Лукашэнкі і абяруць са сваіх шэрагаў каго-небудзь іншага».

**iROZHLAS, (Чэхія)**

Вольга ІВАШАНКА

# Медыкі сыходзяць у партызаны

## Маналог лекара, якога беларускія ўлады не змаглі арыштаваць, але прымусілі сысці ў падполле

**Каля 10 гадоў Уладзімір (імя героя зменена ў мэтах яго бяспекі) адпрацаваў у лячэбнай установе, па дапамогу ў якую звярталіся галоўным чынам прадстаўнікі вышэйшых эшалонаў беларускай улады. На працы яго ўсё задавальняла: калектыў, пастаяннае развіццё, тэхнічная аснашчанасць клінікі, добрыя ўмовы працы.**




### «Убачыў рэпартаж з Акрэсціна — і заплакаў»

— Але 10 жніўня я на ўласныя вочы ўбачыў тое, адбывалася на вуліцах, і ў чымсьці іншым пераканаць мяне ўжо ніхто не зможа. Я надзеў маску і сам выйшаў у горад. Захацеў сам паглядзець на тых «адмарозкаў, наркаманаў і прастытутак», пра якіх гаварылі па нацыянальным тэлебачанні. Але не ўбачыў іх там! Уздоўж вуліц і праспектаў стаялі самыя звычайныя людзі — такія ж, як і я. Не п'яныя, без зброі, разважныя. Усіх нас у тыя дні аб'ядноўвала адно: мы не хацелі мірыцца з тым, што адбываецца. І гэта супраць нас улады паставілі войска і зброю. Гэта нас, звычайных беларусаў, збівалі, нявечылі і кідалі ў СІЗА, дзе потым неміласэрна здзекаваліся проста за тое, што мы не гатовыя стаяць на каленях перад рэжымам.

А праз некалькі дзён я ўбачыў рэпартаж з Акрэсціна — і заплакаў, хоць са мной гэта здараецца вельмі рэдка.

Проста ўявіце. Мы жывем у цэнтры Еўропы, за акном XXI стагоддзе, а ў нас, у IT-краіне, як у гестапа, катуюць і гвалцяць людзей, кідаюць у бяззбройных святлашумавыя гранаты і страляюць ва ўпор.

У маім асяроддзі шмат калег-медыкаў. Знаёмыя хірургі распавялі пра выбітыя вочы, разарваныя жываты, парваныя ўрэтры, разбітыя пахвіны, пераломы, вывіхі рук, абпаленыя сятчаткі і парваныя барабанныя перапонкі.

Навошта ў тыя дні пад ахову ўзялі крэматорыі? Што ў іх гарэла? Колькі чалавек загінула на самай справе?

У тыя дні ўсе беларусы задавалі адно і тое ж пытанне: за што?

### «Мне сказалі, што я слабак, які не мае ўласнага меркавання»

Сярод маіх пацыентаў былі тыя, хто лёгка мог усё гэта спыніць. Але яны не спынілі. Як я мог спакойна далей прыходзіць на сваю працу? Як мог маўчаць, маючы зносіны з імі?

У той дзень Уладзімір прыехаў на працу і падаў заяву пра звальненне.

— У адказ на маю заяву мне сказалі, што я слабак, які не мае ўласнага меркавання. Спрабавалі растлумачыць, што ў Беларусі цяпер ідзе вайна з тэрарызмам, што прама цяпер бандыты захопліваюць дзіцячыя сады і што нейкія праплачаныя Захадам людзі замахваюцца на незалежнасць Беларусі. Мяне элементарна спрабавалі ідэалагічна апрацаваць. Але пасля таго, што я сам бачыў і што ведаю ад сваіх калегаў, зрабіць гэта ў іх не атрымалася.

Я разумеў, што застаюся без працы, статусу, мне паабяцалі, што пасля такога сыходу ніякіх добрых характарыстык мне ніхто не напіша, а ўладкавацца хоць на якую працу ў краіне мне будзе практычна немагчыма.

Але ў гэты момант я ўжо разумеў: назад дарогі няма і быць не можа. Беларусы — не народзец і не статак, мы палітычна выспелы социум. А сыход чалавека з сістэмы — гэта заўсёды выбух. Сваім сыходам я хацеў паказаць, што медыкі могуць і абавязаны казаць пра палітычную сваволю і што пацярпелыя не павінны маўчаць пра тое, што з імі тварылі ў засценках СІЗА. Мы павінны і можам дзейнічаць.

***— Вы не баяліся, што пасля такога і самі акажацеся ў СІЗА? Бо нескладана сфабрыкаваць любую справу супраць непажаданага беларуса ва ўмовах прававой анархіі.***

— Адчуў нядобрае праз некалькі дзён пасля таго, як падаў заяву. Расказаў пра гэта родным. Яны праехаліся па маім двары і ўбачылі, што там патрулююць таніраваныя бусікі. Я разумеў, што шанцаў апынуцца ў адным з іх у мяне вельмі і вельмі шмат. Дзейнічаць трэба было неадкладна.

Зразумеў, што зараз на коне мая свабода. Я вырваў са свайго тэлефона сімку, папрасіў знаёмых хутка мяне забраць і збег.

***— Быў нейкі план? У вас жа сям'я, якую трэба карміць.***

— У тыя дні я мог думаць толькі пра тое, каб мяне не знайшлі. І ведаеце, калі пра маё звальненне загаварылі, на мяне выйшлі, здавалася б, зусім старонныя людзі, якія прапанавалі дапамагчы. Шчыра кажучы, я спачатку і сам у гэта не верыў. Думаў, што гэта гэбэшнікі, якія спрабуюць выйсці на мой след. Спрабаваў іх неяк праверыць, але гэта аказаліся сапраўды людзі, якія хочуць дапамагчы. У выніку нас схавалі, далі дах над галавой, вопратку, ежу. І гэта пры тым, што людзі выдатна разумелі, хто я і што ім за гэта можа быць. Так, усё гэта страшна, але значна страшнейшым для мяне было б жыць у той сістэме.

### «Ціск на медработнікаў існаваў столькі, колькі існуе гэты рэжым»

***— Тых, хто цяпер звальняецца па палітычных прычынах, хто вымушаны бегчы з краіны, па тэлевізары называюць няйначай як здраднікамі.***

— Ну, калі выштурхоўваюць з краіны — дык і бягуць. Усе, хто выказаў нязгоду, падвяргаюцца разнастайным рэпрэсіям, ад маральнага да фізічнага ціску. Заводзяць адміністрацыйныя і крымінальныя справы, шальмуюць у дзяржаўных СМІ, звальняюць з працы і выкарыстоўваюць тэлефоннае права, калі людзі не могуць уладкавацца на працу ў іншых установах. Што застаецца рабіць? Ехаць туды, дзе прымаюць высокакваліфікаваных спецыялістаў.

***— Людзі, якія пайшлі з сістэмы, часта кажуць, што народ нават не здагадваецца, наколькі брудна ўсё ў вярхах. Звычайных людзей проста лічаць пазадкамі. Вы згодныя з гэтым меркаваннем?***

— Сваё стаўленне да людзей улада паказала 9 жніўня, калі былі ўжытыя гвалт і катаванні. Масавасць рэпрэсій, якія закранулі ўсе слаі насельніцтва, гаворыць сама за сябе. Артыкул 23.34 стаў сімвалам 2020 года ў Беларусі.

***— Што вы думаеце пра справу Рамана Бандарэнкі? Ваш калега Арцём Сарокін, які сказаў праўду пра яго стан, да гэтага часу ў СІЗА.***

— Відэа з захопам Рамана бачылі ўсе — з камер мабільных тэлефонаў і вонкавага назірання. Калі Рамана неслі, ён супраціўляўся, а значыць, быў жывы. Траўму ён атрымаў не ў двары. Праз дзве гадзіны мастак трапіў у шпіталь з цяжкай траўмай, кровазліццём у паражніну чэрапа, якое сціснула мозг. Як медык магу сказаць: у звычайных умовах кара мозгу вытрымлівае ішэмію каля пяці хвілін. У крыві алкаголю не было, гэта пацверджана афіцыйна. Сляды алкаголю ў мачы не адыгрываюць ніякай ролі для экспертызы. Ён не мог быць у стане алкагольнай інтаксікацыі. Я не лічу, што калега выдаў медычную таямніцу. Сваякі прэтэнзій не прад'яўлялі. Максімум, што можна ўжыць да доктара, — гэта правесці службовае расследаванне на працы, а не браць яго пад варту. Не ведаю, ці гатовы быў Арцём да такога развіцця падзей, але ў любым выпадку ён здзейсніў учынак дзеля справядлівасці. Народ даведаўся праўду — і, я думаю, гэтая праўда прадухіліла не адну магчымую смерць такога роду. Улада зразумела, што народ гатовы цвёрда адстойваць свае правы, нават коштам жыцця. Раман застанецца героем у народнай памяці.




**Я разумеў, што застаюся без працы, статусу, мне паабяцалі, што пасля такога сыходу ніякіх добрых характарыстык мне ніхто не напіша, а ўладкавацца хоць на якую працу ў краіне мне будзе практычна немагчыма**

***— Міністэрства аховы здароўя цяпер масава не падаўжае кантракты з высокакваліфікаванымі лекарамі, якія не пабаяліся выказваць сваю грамадзянскую пазіцыю. Вам не здаецца, што гэта выглядае як удар дубінкай па ўласных нагах? Пазбаўляць медыцыну найлепшых — самагубства.***

— Кантракт ёсць кантракт. Яго для таго і прыдумалі, каб маніпуляваць кадрамі. Можна выкарыстоўваць і для звальнення, і для ўтрымання кадраў. Калегі, якія пратэставалі, трапілі пад махавік рэпрэсій. Не толькі медыкі пацярпелі. Лекары, якія выказалі пратэст, — гэта стойкія людзі, яны ведаюць, што могуць страціць працу, ведаюць, што могуць больш наогул не ўладкавацца на працу ў Беларусі. Але маё цвёрдае перакананне: лекар павінен быць грамадзянінам, а не аморфнай істотай, якая аказвае медыцынскую дапамогу.

На самай справе ціск на медработнікаў існаваў столькі, колькі існуе гэты рэжым.

У 2010 годзе я ўжо не згаджаўся скакаць пад дудку гэтай сістэмы — адмовіўся падрабляць статыстыку. Але жыць і працаваць я заўсёды хацеў на сваёй радзіме. І спадзяюся, так і будзе.

***— Пытанне, якім цяпер задаюцца, напэўна, усе беларусы: як думаеце, калі гэта ўсё скончыцца?***

— Калі скончыцца? Вельмі складана сказаць, наколькі ўсё гэта можа зацягнуцца. Я не валодаю ўсёй інфармацыяй, каб рабіць прагнозы. Лукашэнка выразна сказаў на трыбуне МЗКЦ: «Пакуль вы мяне не заб'яце, новых выбараў не будзе». Гэта сур'ёзны і жорсткі пасыл. Але талерантныя і памяркоўныя беларускі народ не хоча гвалту. І пяты месяц, нягледзячы на рэпрэсіі, выказвае пратэст. А народ — гэта не статак, гэта сацыяльны арганізм, здольны думаць і дзейнічаць. Калі народ дакажа сваю праваты — тады ўсё і скончыцца. Хаця, напэўна, больш правільна казаць — пачнецца. І гэта адназначна будзе вельмі цяжкі перыяд.

**«Новая газета», пераклад НЧ**

# Крыміналка Кудзіна і 134 дні на ўсіх. Вынікі 2020 года для беларускага спорту

Сяргей КАЙКО

**Вольга Хіжынкова нарэшце выйшла на волю. Яна правяла за кратамі 42 дні. Каля сцен жодзінскага ізалятара яе сустракалі родныя, шматлікія сябры, журналісты недзяржаўных медыя, актывісты Свабоднага аб'яднання спартсменаў.**




Іван Ганін, Алена Леўчанка, Андрэй Краўчанка: пратэставалі, сядзелі, але не гублялі годнасці

Фота SOS-BY

Так скончылася чарговая гісторыя рэпрэсій, якія дзявятым валам накрылі краіну ў сыходзячым годзе на фоне скандальных прэзідэнцкіх выбараў. Многія беларусы дагэтуль жывуць паводле турэмнага графіку — і Новы год сустрэнуць у вязніцы. Многіх ужо асудзілі паводле Крымінальнага кодэкса — за надпісы на тратуары, абразу дзяржасобы ці міжвольны штуршок міліцыянта. У жорны рэпрэсіўнай машыны патрапілі калі 30 тысяч чалавек, якія прагнулі пераменаў і пацярпелі за сваё імкненне да свабоды.

Пацярпеў і беларускі спорт, які таксама аказаўся ў плыні пратэсту. Сотні, калі не тысячы атлетаў выступілі супраць фальсіфікацый, гвалту і палітычнага пераследу суайчыннікаў. Дзясяткі, калі не сотні выходзілі на нядзельныя маршы — і не ўсе потым вярталіся дадому.

## Вольга на волі, Алена за мяжой

У апошнім нумары 2020-га мы вырашылі прыгадаць тых беларускіх спартсменаў, з кім сістэма не цырымонілася — карала, судзіла, кідала ў камеры, не зважаючы на заслугі, рэгаліі і тытулы, гучныя імёны.

42 дні зняволення Вольгі Хіжынковай — пачатак нашага «мартыралогу». Так, яна не спартсменка, і ўлюбёныя свае марафоны бегае на аматарскім узроўні. І ўсё ж для спорту дзяўчына не чужая. Хаця б таму, што тры з паловай гады адпрацавала прэс-сакратаркай у футбольным клубе «Дынама» (Брэст). Зрэшты, тыдзень таму мы ўзгадвалі асноўныя этапы Вольгавай біяграфіі — як і абставіны, якія пасялілі яе на Акрэсціна па схеме 12+15+15. Гэта адзін з самых буйных адміністрацыйных тэрмінаў, якія атрымлівалі пратэстоўцы ў гэтым годзе. Але Хіжынкова вытрымала іспыт з годнасцю свабоднага чалавека — нягледзячы на пачварныя ўмовы ўтрымання — і выйшла на волю бадзёрай і поўнай пазітыву.

Яны ўсе такімі выходзяць — паказваючы загартаванасць не толькі цела, але і духу. Яны ўсе — беларусы, якімі можна ганарыцца і з якіх варта браць прыклад.

Алена Леўчанка адседзела «ўсяго» 15 сутак у тым жа ЦІП на Акрэсціна. І прыкладна ў тых жа ўмовах, што і Вольга Хіжынкова. Яе забралі з аэрапорта нібыта як уцякачку, хаця збягаць з роднай краіны знакамітая баскетбалістка не збіралася. Яна ляцела ў Грэцыю на планавую медыцынскую рэабілітацыю, патрэбную для ўзнаўлення спартыўнай кар'еры. Планы сарвалі сілавікі — і замест самалёта Алена аказалася ў камеры. Лічбы 23.34 замянілі ёй лік на табло — як помста за ўдзел у нядзельных маршах, дзе светлавалосая дзяўчына заўсёды крочыла на чале спартыўнай калоны з расцяжкай «Народ — чэмпіён». Яе «суткі» — гэта тыя ж катаванні, з вашымі і адсутнасцю матрацаў, са сном на металічных рэйках і адсутнасцю вады ў прыбіральні.

Як і Хіжынкова, Леўчанка магла захраснуць у няволі надоўга, бо ўслед за адной адміністрацыйнай справай намалявалася другая. На шчасце, тады, у кастрычніку, нешта ўстрымала рэпрэсіўную машыну ад паказальнага працэсу ў адносінах да спартсменкі, якую падтрымаў ці не ўвесь баскетбольны свет. Алена атрымала 810 рублёў штрафу (30 базавых) — і ўжо хутка абдымала бацькоў і сяброў, адказвала на пытанні журналістаў. А затым і з'ехала за мяжу за доўгачаканай медыцынскай дапамогай — а заадно і за аднаўленнем пасля варварскага акрэсцінскага пансіёну.

## Каму «суткі», каму карцар

У той жа дзень, што і Вольга Хіжынкова, — 8 лістапада — у пастарунак загрымелі Андрэй Краўчанка і Іван Ганін. Першы — лёгкаатлет, алімпійскі прызёр, другі — шматразовы чэмпіён краіны па кікбоксінгу і тайскім боксе. Іх выграблі з машыны на паркінгу ля Нацыянальнай школы прыгажосці — на мінскай вуліцы Мельнікайтэ, дзе ў тую нядзелю павінны былі збірацца пратэстоўцы. Звыкла не шкадавалі — шчапілі рукі, намялі бакі. Потым быў этап у Жодзіна, дзе абодвух прымушалі прысядаць, адціскацца ад падлогі, хадзіць гуськом. Які нарматыўны акт дазваляе такое абыходжанне з затрыманымі — гэта даўно ўжо не рытарычнае пытанне, а, хутчэй, тэма для чорнага гумару. Андрэй і Іван былі асуджаны на 10 сутак кожны — яшчэ боскае пакаранне для нашай людажэрнай рэчаіснасці.

Шмат цікавага пра акрэсцінскія лабірынты ведае легенда тайскага боксу Юрый Булат. Раней спартсмен, а цяпер трэнер, ён — адзін з самых паважаных людзей у байцоўскай тусоўцы. Шматразовы чэмпіён свету, уладальнік безлічы іншых рэгалій — такімі айчынны спорт павінен ганарыцца на дзяржаўным узроўні, але ж у нашай скрыўленай рэальнасці ўсё інакш. Маеш грамадзянскую пазіцыю, прапаведуеш інакшы светапогляд? Ну, для такіх, як ты, у нас заўсёды знойдзецца пара квадратных метраў у казённай кубатуры.

Булат патрапіў у вязніцу ў кастрычніку і адбываў свае 15 сутак у кастрычніку. Зміцер Дашкевіч пакутаваў там жа і ў той жа час — і распавядаў журналістам, што трэнера не проста трымалі ў камеры, а і закідвалі ў каменны мяшок, накшталт карцара. Дзе не адкідваюцца нары, няма вады і спаць даводзіцца наўпрост на халоднай падлозе.

«Я неверагодна ганаруся нашымі людзьмі! Яны мудрыя, моцныя і фантастычна добрыя. Столькі ўзаемадапамогі — і ўсё так культурна. І ўсё гэта, нягледзячы на страшную жорсткасць з боку ўрада! Жыве Беларусь!» — а гэта словы Аляксандры Сітнікавай, яшчэ адной прадстаўніцы адзінаборстваў, шматразовай чэмпіёнкі Беларусі і прызёркі чэмпіянату Еўропы. А таксама — прыхільніцы і ўдзельніцы акцый пратэсту. Яе зняволілі ў кастрычніку — за яшчэ жнівеньскі пост у інстаграм з фота на фоне БЧБ-мітынгу. Гэта адбылося ў дзень нараджэння мамы і напярэдадні вылету ў Егіпет на адпачынак. Замест марскога берага Аляксандры давялося 10 сутак «парыцца» ў Жодзіне — у халоднай камеры з іншымі «палітычнымі», дзе арыштанткі саграваліся салідарнасцю, гумарам і марамі пра светлую будучыню.

## З Беларусі ў багажніку

Кейс імя Аляксея Кудзіна — байца-цяжкавагавіка ММА з Маладзечна — увогуле нібыта эпас беларускага пратэсту. У жніўні бацька пяці дзяцей выйшаў у цэнтр роднага горада, каб салідарызавацца з землякамі, абуранымі афіцыйнымі вынікамі выбараў. Дык адна справа — землякі, зусім іншая — сілавікі. Тыя наляцелі, пачалося «вінцілава», і тут Аляксей не стрываў — на сілу адказаў сілай. А яе ў 100-кілаграмовага волата хопіць на траіх... Кудзіна затрымалі, распачалі крымінальную справу. Потым нейкім цудам яго вызвалілі да суда, хлопец слушна ацаніў абстаноўку — і ў хуткім часе выехаў за мяжу. Як сам распавёў пасля, пакідаць радзіму давялося ў багажніку аўтамабіля. Толькі гэта і выратавала ад турмы, куды заслужаны майстар спорту гарантавана б патрапіў на працяглы тэрмін.

Менш вядома пра яшчэ аднаго майстра баявых мастацтваў — чэмпіёна Еўропы па джыуджыцу Андрэя Шчарбацюка. Хіба толькі, што затрыманы ён быў ва ўсё тую ж «ураджайную» нядзелю 8 лістапада (наогул тады сілавікі развезлі па РУУС больш за тысячу пратэстоўцаў). Андрэй прайшоў толькі па міліцэйскіх зводках, у калейдаскопе надтрэснутых лёсаў. Атрымаў 8 сутак. Даўно іх адседзеў. Стаў адным з дзясяткаў тысяч, каго арыштавалі па палітычных матывах, бо занадта многа аб сабе і сітуацыі ў краіне разумеюць.

Беларускі футбол у гэтыя акаянныя дні, тыдні і месяцы шчодра крытыкавалі. Што, маўляў, зашыўся ў кокан, схаваўся ў сваю разору — і нават не мае моцы ўцямна артыкуляваць сваё стаўленне да падзей. І там была рацыя, шмат рацыі. Аднак цягам часу стала вядома і іншае. Што ўпотай, не афішыруючы свайго спартыўнага бэкграўнду, на акцыі пратэсту футбалісты хадзяць у добрай колькасці. Некаторым шанцуе меней, чым іншым, — і гэта каштуе ім свабоды.

19-гадовы нападаючы Расціслаў Шавель у гэтым годзе дэбютаваў двойчы. Спачатку ў вышэйшай лізе ў складзе «Гарадзеі», затым — у шэрагах сядзельцаў за грамадска-палітычны актывізм. Не здольны мірыцца з несправядлівасцю, малады хлопец пайшоў на вуліцу. І быў затрыманы двойчы — спачатку ў жніўні на плошчы Незалежнасці, затым у лістападзе на Лагойскім тракце. За першы эпізод футбалісту далі 8 сутак у казённым доме, за другі — яшчэ 13. Абодва тэрміны форвард матаў у Жодзіне. Характэрна, што працадаўца — дзяржаўны клуб «Гарадзея» — лёсам свайго гульца асабліва не зацікавіўся. Нават ніхто не патэлефанаваў.

Былы абаронца маладзёжнай зборнай Раман Гаеў быў «запакаваны» ў міліцэйскі «бусік», зноў жа, 8 лістапада. Зрэшты, за кратамі не затрымаўся. Этапаваны ў Жодзіна, футбаліст рагачоўскага «Дняпра» пераначаваў там, і ўжо на наступны дзень быў вызвалены — з прысудам у 10 базавых велічыняў (270 рублёў) штрафу.

## Людзі і «насякомыя»

Падобная гісторыя ў экс-гульца міні-футбольнай зборнай Сяргея Падалінскага. З той розніцай, што матэматычна яе патрэбна памножыць на два — 2 сутак і 20 базавых. Тыя суткі Сяргей бавіў на Акрэсціна яшчэ ў палымяным жніўні, таму пабачыў усялякае. Потым казаў: «Да людзей там ставяцца як да насякомых».

Тыя ж 20 базавых (540 рублёў) суд навесіў на легендарнага баскетбаліста Ягора Мешчаракова. Не пазбег штрафу і экс-варатар футбольнай зборнай Васіль Хамутоўскі. Абодва лёгка маглі б сесці, бо рэгулярна ўдзельнічалі ў нядзельных маршах побач з Аленай Леўчанка і іншымі пратэснымі атлетамі. Але ж неяк пазбеглі гэтай долі.

Пэўна, мы ўзгадалі не ўсе выпадкі, назвалі не ўсе імёны-прозвішчы. І дакладна вынеслі за межы аповеду эпізоды больш «гуманнага» «аўтадафэ» беларускіх спартсменаў. Бо былі ж яшчэ звальненні, дысцыплінарныя спагнанні, псіхалагічны ціск — у сістэмы багаты арсенал уздзеяння на іншадумцаў.

Перапіс усяго, што здарылася, абавязкова будзе праведзены, калі хмары сыдуць з небасхілу Беларусі. А пакуль высакосны 2020-ты сыходзіць і пакідае заўзятараў у дзіўным кагнітыўным стане. Калі пра спорт прыходзіцца разважаць у кантэксце пратэстаў, арыштаў і штрафаў, а звыклае — перамогі, ачкі, галы і секунды — адышло на далёкі план і мала хвалюе.

Дакладна так будзе і ў пачатку наступнага года, бо жыццё працягваецца і пратэсты не сціхаюць. І калі сітуацыя зменіцца, сёння не ведае ніхто.

